Агапка Янава засведчылі пра дарэнне Клімаўскага дома на беразе Нёмана сыну Лявону Ласкевічу і яго жонцы Фядоры Іванаўне, якое было актыкавана перад радцамі ў 1637 г. Лаўнікі Матэвуш Ябланоўскі і Фёдар Юрэвіч увялі новых уладальнікаў у дом (1640). Звычайна нерухомую маёмасць атрымлівалі ў падарунак сваякі. Напрыклад, Сымон Наркевіч, мешчанін з Манчына, каб мець дагляд у старасці падарыў унучцы Малгажаце Войцехаўне, якая была жонкай Паўла Валковіча і дачцэ Марыны Наркевічаўны і Войцеха, ¼ грунту ў Манчыне (1642). Ганна Крыштафаўна Гродзіцкая, жонка радцы Валентыя Волінскага, зрабіла даравальны запіс на валоку ў Манчыне зяцю Паўлу Чэрнеўскаму (1642). Часам дарылі нерухомасць чужым людзям. Юзаф Градкоўскі і Зафея Боская пляцы на вул. Азёрскай за добрае стаўленне падарылі Аляксандры Сабескай, жонцы Крыштафа Весялоўскага маршалка ВКЛ (1643). Лаўнік Фёдар Юрэвіч з-за старасці і слабасці здароўя, з умовай вырашэння сваіх спраў перадаў у дар валоку ў Манчыне Грыгорыю Станіслававічу Вайтовічу Трыцкаму і жонцы Аляксандры Грынаскевічоўне (1644). А даравальны запіс Яраша Валовіча, жамойцкага старосты[31], на двор на вул. Перавознай пляменніку Астафею Валовічу, платэльскаму старасце (1640) быў пазней прызнаны фальсіфікатам і справакаваў доўгі судовы працэс[32]. Дарэнне прадугледжвала пераход маёмасці ад аднаго ўладальніка да другога. Таму неабходна была не толькі актыкацыя, але і ўвядзенне ў валоданне.

Для складання тэстаментаў збіраўся адмысловы суд. У яго склад уваходзіла некалькі ўраднікаў і пісар. Большасць мяшчан было непісьменнымі і дыктавалі сваю апошнюю волю. Асноўная ўвага ў іх была прысвечана размеркаванню маёмасці[33].

Пасля смерці маёмасць размяркоўвалася згодна з тэстаментам пры ўдзеле ўраднікаў. Люцыя Войцехоўна Адамовічаўна і яе муж Лукаш Скробяцкевіч, злотнік, засведчылі пра атрыманне сваёй часткі маці Барбары Талочкаўны ад брата Марціна Адамовіча (1638). Пётр і Канстанты Дзівы прызналі на судзе перадачу рэчаў бацькі Яна ад айчыма Яраша Высоцкага, радцы (1640). Параска, удава па Іване Бутоцы, згодна з тэстаментам мужа атрымала сваю частку ад пасербцаў (1642). Квіт Яна Пастэўкі сведчыў пра перадачу спадчыны па смерці бацькі Матыса ад мачахі Марыны Рагачэўскай (1642). Дакументы пра атры-

[31] Н. Сліж, *Гарадзенскія падворкі ў XVII ст.*, [у:] *Гарадзенскі палімпсест. 2010. Дзяржаўныя і сацыяльныя структуры. XVI-XX ст.*, рэд. А. Ф. Смалянчук, Н. У. Сліж, Мінск 2011, с. 227-228.

[32] НГАБ, ф. 1761, воп. 1, спр. 1, арк. 136-136 адв., 203 адв.-204 адв., 221-221 адв., 229-230, 261 адв.-262 адв., 272 адв.-273 адв.

[33] N. Sliž, *Testamenty mieszczan grodzieńskich*, s. 305-316; Н. Сліж, *Тастамент гарадзенскага радцы Фёдара Багдановіча,* „Архіварыюс”, 2014, вып. 12, с. 65-85.

манне часткі спадчыны актыкоўвала шляхта, калі мела ўладанні ў горадзе. Так, Ян Міцкевіч передаў частку маёмасці па бацьку Грыгорыю Міцкевічу сястры Ганне і яе мужу Крыштафу Яшкоўскаму (1643)[34].

Размеркаванне маёмасці паміж спадчыннікамі таксама фіксавалася ў кнігах. У 1638 г. маёмасць па бацьках падзялілі Карлоўскія: Антон, Фёдар, Іван, Рэгіна (жонка Паўла Жуковіча), Алена (жонка Барталамея Скліповіча). Разнікі Парфен Мацвеевіч і Іван Юргевіч дасягнулі пагаднення з удавой Гарасіма Калчэвіча і яе сынам Якубам Гарасімовічам па доме дзеда Васіля Калчэвіча, які па тэстаменце 1612 г. перайшоў іх мацярам Настассі і Аўдоцці Калчэвічоўнам. Маёмасць атрымалі Парфен і Іван пры ўмове выплаты 100 злотых Якубу і яго маці (1642). Пры ўрадніках падзялілі дзве валокі ў Адамавічах і маёмасць, якая там знаходзілася, па Яну Адамовічу яго жонка Марына Рогалеўская і сын Казімір (1643)[35].

Аднак не заўсёды падзел маёмасці адбываўся мірным шляхам. Праз суд дзялілі спадчыну па дзеду Станіславу Адамовічу і яго дачцэ Кацярыне Грыбуці — Войцех, Рэгіна (жонка Антона Карлоўскага), Юзаф — з дзядзькам Андрэем Станіслaвічам Адамовічам. Кацярына была маці Грыбуцей. Суд прызначыў для правядзення падзелу лаўнікаў Войцеха Болінскага, Матэвуша Яблаиоўскага, Міхаіла Ліўчыка, Тамаша Лагоўскага (1640). Акрамя падзелу спадчыны суд разглядаў справы з-за пазык, парушэнняў межаў і інш.[36]

У судзе вырашаліся справы звязаныя з пасагам. Так, быў зафіксаваны факт перадачы выправы Зафеі Якубоўне Цвіклянцы, жонцы краўца Абрама Марціновіча, ад бацькоў Якуба Цвікліча і Дароты Крыштафаўны Еітатоўны. Муж у той час знаходзіўся на працы ў берасцейскага кашталяна Андрэя Масальскага і не мог прысутнічаць у ратушы. Каб засведчыць аб тым, што ён праінфармаваны аб перадачы маёмасці лаўнік Адам Цвікліч спецыяльна схадзіў у дом Масальскага (1641). Пасля атрымання пасагу Зафея і яе муж заявілі пра адсутнасць маёмасных прэтэнзій да бацькоў. Пасля смерці мяшчанкі, якая не мела ў шлюбе дзяцей, яе маёмасць вярталася ў першасную сям’ю. Марэк Дзеневіч, заблудаўскі мешчанін, вымушаны быў судзіцца з Войцехам Болінскім з-за спадчыны сястры Ганны. У выніку з маёмасці была выплачана 80 коп літоўскіх грошаў (1640)[37].

[34] НГАБ, ф. 1761, воп. 1, спр. 1, арк. 102-102 адв., 187 адв.-188 адв., 203-203 адв., 230-230 адв., 232 адв.-233 адв., 246-247 адв.

[35] Там жа, арк. 93-94, 232 адв.-233 адв., 268 адв.-269.

[36] Там жа, арк. 89-90, 126-126 адв., 133-134, 174-174 адв., 176-176 адв., 181-183, 193 адв.-184 адв., 237-238, 259 адв.-261, 268-268 адв.

[37] Там жа, арк. 179 адв.-180.

У кнізе фіксаваліся фундацыйныя запісы. Матэвуш Руткоўскі, зямянін Польшчы і Гарадзенскага павета, запісаў на карысць гарадзенскіх бернардзінцаў 330 злотых (1639), якія быў яму вінен гарадзенскі купец Ганус Фандэберк. З пазыкі 950 злотых ён аддаў 620, а сам памёр не выплаціўшы ўсіх грошай пазыкі. Ліст атрымаў гвардыян бернардзінцаў Станіслаў Баркоўскі. Гэты ж кляштар атрымаў у дар частку свірна над Нёманам і частку віцін, якія перайшлі па спадчыне ад гарадзенскага войскага Сцыпіёна Кампо на Ганну Сцыпіёнаўну Кампо (1642)[38].

Войтаўска-лаўніцкі суд таксама займаўся справамі па застаўной маёмасці. Фіксавалася выплата пазык, перадача заставы новаму ўладальніку. На судзе Багдан Аляксеевіч і яго жонка Анастасся Каленкоўна выдалі запіс аб атрыманні ад музыкі Міхаіла Хейварта і яго жонкі Ганны Гаўронскай грошай за застаўны дом Багдановічаў на вул. Калюцінскай (1639). Юрый Быхнер, лаўнік, і Марыяна Хацкевічаўна ў 700 злотых заставілі Мікалаю Чэмёрцы і Альжбеце Пятроўскай дом на вул. Азёрскай, які межаваў з аднаго боку ад пляца Табіяша Дорбаха, з другога ад вулачкі з вул. Азёрскай на Рэзніцкую, чолам выходзіў на Азёрскую, а тылам да саду езуітаў, на перыяд 1643-1646 гг. (1643)[39].

Як бачна з прыведзеных дакументаў у сферу дзейнасці войтаўска-лаўніцкага суда ўваходзілі справы маёмаснага характару. Сярод іх купля-продаж, заставы, фундацыі, дараванне, перадача і размеркаванне маёмасці. Пераход уласнасці ад адной асобы да другой здзяйсняўся толькі праз урад. Менавіта гэта надавала здзелцы законнасць. Лава не толькі актыкоўвала дакументы, але і разглядала спрэчныя пытанні па маёмасці.

Спецыфіка дзейнасці суда была звязана не толькі з крымінальнымі справамі, але і з прыватна-прававымі дакументамі. Гэта азначала наяўнасць у кнігах крыніц сямейнага характару. Так як сямейныя архівы гарадзенскіх мяшчан не захаваліся, то судовыя кнігі змяшчаюць унікальныя дакументы па гісторыі сям'і. Акрамя таго справаводства войтаўска-лаўніцкага суда выразна паказвае падзел сфер і паўнамоцтваў паміж радай і лавай. Варта адзначыць, што такая сітуацыя не была ва ўсіх гарадах, і спецыфіку рэалізацыі магдэбургскага права неабходна вывучаць у кожным горадзе асобна.

[38] Там жа, арк. 121-121 адв., 210-210 адв.

[39] Там жа, арк. 124-124 адв., 185-186, 258-259.

## Дадатак. Біяграфічныя дадзеныя па ўрадніках гарадзенскай лавы

### *Лентвойты*

*Марцін Фандэберк* быў на пасадзе лаўніка (1633), лентвойта (1636-1638), бурмістра (1638), радцы (1634, 1635 (магчыма), 1639-1642)[40]. Ён даволі імкліва зрабіў кар’еру. Пачаўшы з лаўніка ўжо ў наступным годзе ўвайшоў у склад рады. Ён прыехаў у Гародню разам з братам Ганусам, які таксама займаў высокія ўрады ў горадзе. Яны былі купцамі з Караляўца. Марцін меў сваю краму на Рынку, якую пазней прадаў жыду Асану Маеровічу[41]. Акрамя таго ён займаўся аптэкарскай дзейнасцю. Адукацыя і прадпрымальніцкія якасці спрыялі хуткаму кар’ернаму росту. Увайсці ў склад мясцовай эліты дапамог шлюб з Евай Цвіклянкай, сястрой лентвойта Станіслава Цвікліча.

Адносна маёмасці захавалася наступныя інфармацыя. Марцін і Ева набылі пляц з агародам і пабудовамі ў Яна Цвіклі бурмістра і яго жонкі Альжбеты Боршанкі на вул. Азёрскай. У 1633 г. яны прадалі яго Юрыю Быхнеру і Ягнешцы Ліпоўскай за 200 злотых. У той час пляц межаваў з аднаго боку ад пляца радцы Гануса Фандэберка, з другога — ад пляца бурмістра Яна Цвікліча, канцом калісьці да пляца і агарода пані Бышынскай, чолам на Азёрскую[42]. Іншы дом М. Фандэберка, які межаваў з пляцамі Яна Адамовіча і Шафароўскага, Азёрскай брамай, дамамі Яна Прылуцкага і Андрэя Шаматулы быў вызвалены ад пастояў (1634)[43]. Пасля смерці брата, бурмістра Гануса Фандэберка, Марцін атрымаў пацвярджэнне трымаць Слосарскую валоку ў Гарадзенскім гарадніцтве і агарод на Нямецкім рынку каля касцёла Святой Тройцы (1637)[44].

Віленскі мешчанін Герман Лілоф падаў скаргу супраць радцы Марціна па прычыне невяртання пазыкі ў суме 666 злотых і 20 грошаў, лашта жыта. Ён патрабаваў кампенсацыі шкодаў. Марцін прасіў пра адтэрміноўку, бо не меў чым плаціць. У наступны дзень Марцін сказаў, што не мае нічога акрамя дому на вул. Рэзніцкай, які называўся Кімцёўскі з гумном, агародам, склепам (1642)[45]. Напэўна гэту суму завялі на дом.

40 НГАБ, ф. 1761, воп. 1, спр. 1, арк. 223-224; КМФ-18, спр. 111, арк. 131адв.-132; Lietuvos valstybės istorijos archyvas (далей: LVIA), f. 694, ap. 1, b. 3839, l. 17v, 20.

41 Дакладная дата продажу невядома. Інфармацыя паходзіць з дакумента за 1646 г. НГАБ, КМФ-18, спр. 119, арк. 710 адв.-712.

42 НГАБ, ф. 1761, воп. 1, спр. 1, арк. 223-224.

43 НГАБ, КМФ-18, спр. 111, арк. 131адв.-132.

44 Там жа, спр. 113, арк. 76-76 адв.

45 НГАБ, ф. 1761, воп. 1, спр 1, арк. 73 адв.-75.

Марцін Фандэберк памёр 15 кастрычніка 1642 г. Прасіў жонку пахаваць яго цела ў Фарным касцёле. Сын Ян на той час знаходзіўся на адукацыі і Марцін жадаў, каб Ева знайшла магчымасці для сканчэння навукі. Большая частка тэстамента была прысвечана гандлёвым справам, пазыкам, выплаце хатняй і аптэчнай чэлядзі[46]. Ян закончыў адукацыю, пазней займаў пасаду лаўніка. Ён памёр ад пошасці ў Хадарове ў 1657 г. Сям'і ў яго не было, і ўся маёмасць перайшла сваяку Казіміру Цвіклічу[47].

*Станіслаў Цвікліч* займаў пасаду лентвойта ў 1629, 1633-1634, 1645 гг.[48], радцы ў 1639-1641, 1643-1644, 1650 гг., бурмістра ў 1642-1643, 1645, 1647, 1649, 1654 гг.[49] Ён паходзіў з сям'і Пятра Цвікліча і Марыны Сямёнаўны (?-1640). Яна другі раз выйшла замуж за бурмістра і купца ГанУса Фандэберка. У сям'і Пятра і Марыны нарадзіліся Ян (радца), Станіслаў, Адам (сіндык), Барташ, Ева (жонка радцы Марціна Фандэберка). Прадстаўнікі роду Цвіклічаў фігуравалі на розных пасадах у магістраце ў XVI ст. Станіслаў быў жанаты з Ганнай Рэкіцкай. Разам яны набылі ў хамутніка Андрэя Яцкевіча агарод на вул. Калючынскай за 20 коп літоўскіх грошаў (1639)[50].

Станіслаў быў заўважаны ва ўдзеле ў неправавых дзеяннях. Ён разам з братам Адамам, сіндыкам, мешчанінам Якубам Тарасевічам абвінавачваўся Андрэем Рудкоўскім у нападзе. 27 чэрвеня 1638 г. Рудкоўскі і Аблочынскі вярталіся з лістамі свайго пана з Варшавы праз Гародню. Станіслаў Цвікліч, будучы п'яным, стаў іх абражаць, а калі даведаўся адкуль едуць, то збіў. Аднак усе трое адмовіліся ад абвінавачвання, тым больш што справа не была разгледжана адразу, „на гарачым учынку". Даручылі разгледзець канфлікты гарадзенскаму стольніку Крыштафу Бенецкаму і падстаросце Яну Сапоцьку (1639)[51]. Гэта быў не адзіны выпадак удзелу ў нападах. Ён быў сярод нападаючых на харугву Сяліцкага. Будучы ўжо на пасадзе лентвойта, Станіслаў арганізаваў напад на францысканскі касцёл і кляштар (1645)[52].

46 Там жа, арк. 239 адв.-241.
47 НГАБ, ф. 1800, воп. 1, спр. 1, арк. 52 адв.
48 AGAD, Archiwum Radziwiłłów (dalej: AR), dz. XVIII, sygn. 304, k. 13; sygn. 313, k. 27; LVIA, f. 1517, b. 312, l. 54v-56v; НГАБ, КМФ-18, спр. 312, арк. 88-92.
49 НГАБ, ф. 1761, воп. 1, спр. 1, арк. 7, 60 і інш.; BUW, Gabinet Rękopisów, sygn. 260, dok. 70; НГАБ, КМФ-18, спр. 124, арк. 185 адв.-186; Г. Брэгер, *Дэкрэт, які служыў жыдам гродзенскага кагалу*, [у:] *Памяць. Гродна*, Мінск 1999, с. 106-107.
50 НГАБ, ф. 1761, воп. 1, спр. 1, арк. 7, 12, 63 адв.-65, 106 адв.-107.
51 НГАБ, КМФ-18, спр. 316, арк. 289 адв.-290.
52 В. Галубовіч, *Справа пра напад на гарадзенскі кляштар францысканцаў у 1645 г.*, [у:] *Гарадзенскі палімпсест. 2009. Дзяржаўныя ўстановы і палітычнае жыццё. XV-XXст.*, рэд. А. Ф. Смалянчук, Н. У. Сліж, Гародня 2009, с. 253-258.

*Андрэй Каспровіч Шчасновіч* паходзіў з сям'і Каспера Шчасновіча (?-1639/40) і Евы Матулоўны. Бацька займаў пасаду лаўніка да канца жыцця (1637-1639). Пасля смерці мужа Ева выйшла замуж за Аляксандра Анікевіча Багдановіча. Паходжанне з сям'і лаўніка дало магчымасць для кар'еры ў магістраце. Андрэй згадваецца на пасадзе сіндыка (1625), лентвойта (1642-1644, 1646), лаўніка (1645), бурмістра (1649). Ён быў жанаты з Альжбетай Маргевічоўнай. Спадчына Каспера была падзелена паміж жонкай і сынам. На частку Андрэя прыйшлося палова дома на Рынку і палова валокі ў Манчыне. Каспер аддаў у заставу палову дома за 500 злотых лаўніку Міхаілу Ліўчыку (1635). Для выплаты пазык Андрэй і яго жонка прадалі сваю частку таму ж Ліўчыку за 1 500 злотых. На ёй было запісана вена Альжбеце, таму продаж быў здзейснены з яе згоды (1640). Палову валокі прадалі за 50 коп літоўскіх грошаў Марціну Адамовічу і Алене Маркаўне (1644)[53].

*Марцін Градкоўскі* займаў пасаду лентвойта з 1639 г. па 1641 г. У судовых кнігах пра яго выяўлены вельмі фрагментарныя звесткі. Быў сынам Якуба Градкоўскага. Марцін быў жанаты з Даротай Яблонскай. Разам яны набылі за 1 200 злотых у Якуба Гратоўскага і яго жонкі Агнешкі Прэлуцкай пляц на вул. Віленскай, які знаходзіўся на рагу вул. Малай, якая ішла з вуліцы Рэзніцкай да вул. Віленскай (1636)[54]. Верагодна гэты пляц прадаў жонцы гарадзенскага стольніка Юрыя Міхаіла Беніцкага. Яна перапрадала сыну, гарадзенскаму стольніку Крыштафу Беніцкаму і яго жонцы Зафеі Бішэўскай. Пасля іх смерці ў 1657 г. пляц перайшоў бацьку Юрыю. За 480 злотых новым уласнікам стаў Самуэль Ян Багдановіч (1659)[55].

### *Лаўнікі*

*Ян Адамовіч* згадваецца на пасадзе лаўніка (1638-1643), радцы (1645-1647, 1654) і бурмістра (1644, 1650, 1652, 1653, 1657-1659)[56]. З-за

[53] НГАБ, ф. 1761, воп. 1, спр. 1, арк. 21, 89, 181-183, 137-138 адв., 277-278 і інш.; НГАБ, КМФ-18, спр. 124, арк. 185 адв.-186; BUW, Gabinet Rękopisów, sygn. 260, dok. 70; LVIA, f. 694, ap. 1, b. 4624, l. 1.

[54] LVIA, f. 1282, ap. 1, b. 5302, l. 1-2.

[55] Пляц межаваў з аднаго боку з пляцам, які калісьці быў Бурбы, а ў 1659 г. там уладарылі нашчадкі памерлага радцы Тамаша Лагоўскага, з другога боку — вулачкай з Віленскай да Рэзніцкай, чолам выходзіў на Віленскую, тылам — да пляцу Іваноўскай. НГАБ, ф. 1800, воп. 1, спр. 1, арк. 28-29 адв.; НГАБ, ф. 1761, воп. 1, спр. 1, арк. 119-121.

[56] А. Шаланда, *Пергаміны канца XVI-XVII ст. на лацінскай і польскай мовах у фондах Гродзенскага гісторыка-археалагічнага музея,* „Герольд Litherland", 2002, № 3-4 (7-8), с. 114-115; НГАБ, КМФ-18, спр. 119, арк. 710 адв.-712;

адсутнасці крыніц не атрымалася ўстанавіць яго паходжанне, веравызнанне, сям'ю, маёмасны стан. Прозвішча Адамовіч было вельмі распаўсюджаным у Гародні. У асноўным Адамовічы пражывалі ў аднайменнай вёсцы, якая была ў гарадской юрысдыкцыі.

*Пётр Багдановіч* фігураваў на пасадзе лаўніка ў 1643, 1644, 1649 гг.[57] У 1644 г. на войтаўска-бурмістраўскім судзе Пётр адмовіўся ад сваёй часткі пляца на вуліцы Калючынскай на карысць М. Хейварта[58]. Памёр да 1672 г. Пётр паходзіў з роду ўраднікаў. Яго дзед Багдан Міхайловіч у 1574, 1575 гг. фігураваў на пасадзе лаўніка[59], у 1592, 1596 гг. — бурмістра[60], у 1593 г. — радцы[61]. Міхайловіч як бурмістр падаў у гарадзенскі земскі суд пацвярджэнне фундацыйнага запісу для шпіталя пры Прачысценскай царкве дадзены Стэфанам Баторыем (1596)[62]. Багдан быў жанаты з Маланіяй Пархвенаўнай Грынашкевічаўнай. Бацька Фёдар Багдановіч валодаў старабеларускай, польскай і лацінскай мовамі. У Гародні займаў пасады лентвойта (1627), бурмістра (1627, 1628, 1636, 1638), радцы (1617, 1633, 1639-1640), лаўніка (1615)[63]. Фёдар Багдановіч быў жанаты тры разы. Імя першай жонкі не адзначана. Шлюб адбыўся каля 1610 г. У ім нарадзіліся тры сыны Пётр, Габрыэль і Мікалай. Другі раз радца ажаніўся з Агнешкай Лоеўшчанкай. Яны разам згадваюцца ў дакуменце за 1617 г. Чацвёрты сын Самуэль Ян паходзіў з гэтага шлюбу. Трэцяй жонкай стала Марына Кішмановічаўна. Яна была дачкой лаўніка (1638-1643) Даніэля Кішмановіча[64]. У трэцім шлюбе нарадзіліся дзве дачкі Агап'я і Аўдоцця[65].

НГАБ, КМФ-18, спр. 124, арк. 185адв.-186; КМФ-18, спр. 127, арк. 119, 142; BUW, Gabinet Rękopisów, sygn. 260, dok. 72; *Metryka Litewska. Księga wpisów nr 131*, oprac. A. Rachuba, Warszawa 2001, s. 229; НГАБ, ф. 1800, воп. 1, спр. 1, арк. 3; Г. Брэгер, *Дэкрэт, які служыў жыдам гродзенскага кагалу,* с. 106-107.

57 НГАБ, ф. 1761, воп. 1, спр. 1, арк. 254-259, 271 і інш. AGAD, Zbiór Jodkowskiego, sygn. 7, k. 3.

58 AGAD, AR, dz. XVIII, sygn. 306, k. 17.

59 BUW, Gabinet Rękopisów, sygn. 260, sprawa 37, 59; ГДГАМ, б/н.

60 НГАБ, ф. 1755, воп.1, спр.13, арк. 720-721.

61 НГАБ, КМФ-18, спр. 77, арк. 508 адв.

62 НГАБ, ф. 1755, воп.1, спр.14, арк. 116 адв.-118; *Акты издаваемые Виленскою комиссиею для разбора и издания древних актов*, т. 1: *Акты Гродненского земского суда*, Вильно 1865, с. 13-15.

63 НГАБ, ф. 1761, воп. 1, спр. 1, арк. 1, 5, 12, 14, 18, 116 адв.-117адв., 144, 213 адв.-214 і інш.; НГАБ, ф. КМФ-18, спр. 92, арк. 50; BUW, Gabinet Rękopisów, sygn. 260, k. 1; AGAD, AR, dz. XVIII, sygn. 307, k. 1; sygn. 313, k. 27-32; LMAB RS, f. 16-207, l. 41; LVIA, f. 694, op. 1, b. 3868, l. 17v .

64 НГАБ, ф. 1761, воп. 1, спр. 1, арк. 19 адв., 73 адв. і інш.

65 Н. Сліж, *Тастамент гарадзенскага радцы Фёдара Багдановіча*, с. 65-85.

*Юрый Быхнер* на пасадзе лаўніка згадваецца з 1638 г. і да сваёй смерці ў 1643 г. Першы раз ён ажаніўся з Ягнешкай Ліпоўскай. У іх была дачка Магдалена. Другой жонкай стала Марыяна Хацкевічоўская. Ян Ліпоўскі ў сваім тэстаменце прызначыў 400 злотых для пляменніцы Магдалены Быхнероўны. Яна на той час была непаўналетняй і лаўнік разам з другой жонкай абяцаў грошы захаваць да дасягнення дарослага ўзросту (1641)[66].

Юрый і Ягнешка набылі за 200 злотых у лаўніка Марціна Фандэберка і яго жонкі Евы Цвіклянкі пляц і агарод з пабудовамі на вул. Азёрскай. Раней ён належаў Яну Цвіклічу і яго жонцы Альжбеце Боршанцы. Пляц межаваў з аднаго боку ад пляца радцы Гануса Фандэберка, з другога ад бурмістра Яна Цвікліча, а тылам да пляца і агарода пані Бышынскай, чолам на Азёрскую (1633). Гэту маёмасць Быхнеры прадалі за 80 злотых смаленскаму ваяводзе Крыштафу Корвіну Гасеўскаму (1642)[67].

Іншы пляц і агарод на вуліцы Азёрскай, які межаваў з аднаго боку ад вулачкі з Азёрскай да Васкрэсенскай царквы, з другога ад пляца разніка Балтрамея Юрый Быхнер набыў за 600 злотых у Войцеха Барысовіча (1642). Але праз год, маючы патрэбу ў грошах, заставілі гэты пляц за 700 злотых на тэрмін 1643-1646 гг.[68]

23 кастрычніка 1643 г. Юрый Быхнер напісаў тэстамент, а 13 лістапада яго актыкавалі ў кнігі. Ён прасіў пахаваць цела ў Фарным касцёле і прызначыў на гэта 30 злотых. Уся маёмасць была размеркавана паміж жонкай і дачкой. Жонка атрымала дом на Азёрскай, а дачка — дом на Замкавай каля замка. Верагодна Быхнер быў кавалём, бо меў кавальскі інструмент, які таксама быў падзелены[69].

*Войцех Болінскі* на пасадзе лаўніка фігуруе з 1633 г. і да 1640 г., пасля выбараў у 1641 г. становіцца радцам. Апошняя выяўленая згадка на гэтай пасадзе датуецца 1645 г.[70]

Болінскі валодаў валокай у Манчыне. Ён яшчэ трымаў у заставе валоку ад жонкі Пятра Разелы. Якуб Пупка падаў супраць яго скаргу

[66] НГАБ, ф. 1761, воп. 1, спр. 1, арк. 67-68.

[67] К. Гасеўскі пабудаваў на гэтым і іншых пляцах вялікі дом. Ён памёр бяздзетным і яго спадчына перайшла Еве Пацаўне, жонцы смаленскага ваяводы А. Гасеўскага, і сыну Вінцэнту. Яны прадалі дом канюшаму ВКЛ Яну Казіміру Хадкевічу і Зафеі Пацаўне за 5 000 зл. (1644). НГАБ, ф. 1761, воп. 1, спр. 1, арк. 215 адв.-216 адв., 279-281.

[68] НГАБ, ф. 1761, воп. 1, спр. 1, арк. 224-225 адв., 258-259.

[69] Там жа, арк. 265 адв.-267.

[70] BUW, Gabinet Rękopisów, sygn. 260, dok. 2; А. Шаланда, *Пергаміны канца XVI-XVII ст.*, с. 114-115.

за нанясенне шкодаў на суму 150 злотых і спусташэнне будынка на палове валокі. Пры вывучэнні справы выявілася, што маёмасць ніхто не спусташаў (1639)[71].

Войцех быў жанаты двойчы. Першай жонкай стала Ганна Дзеневічаўна. Яна памерла бяздзетнай. Згодна з заканадаўствам муж павінен быў вярнуць яе маёмасць сваякам. Яе брат Марэк Дзеневіч, заблудаўскі мешчанін, ініцыяваў справу. Болінскі вылучыў яму 100 злотых у 1634 г. Па рашэнні суда частка ўладанняў была прысуджана Болінскаму, а частка Фарнаму касцёлу (1639), а Дзеневічу — грошы (80 злотых). Пасля выплаты грошай брат адмовіўся ад прэтэнзій на маёмасць сястры (1640)[72]. Па тэстаменце Ганны Фарнаму касцёлу перайшоў пляц на Рынку. Вендэнскі канонік, гарадзенскі віцэ-пробашч Мацей Кейш Падоскі прадаў яго Міхаілу Хейварту і яго жонцы Ганне Гаўронскай за 300 злотых (1658)[73].

Другой жонкай Войцеха стала Люцыя з сям'і Яна Бельскага і Ядвігі Макушэвічаўны[74]. У шлюбе нарадзіўся сын Казімір. Вайну перажылі Люцыя і Казімір, але з моцнымі маёмаснымі стратамі пасля акупацыі маскоўскага войска. Яны былі вымушаны прадаць палову пустой валокі ў Грандзічах мешчаніну Тамашу Гнатоўскаму за 150 злотых (1664)[75].

*Стэфан Гібула* займаў пасаду лаўніка з 1629 г. і да 1639 г. У 1639 г. ён быў абраны бурмістрам, з таго часу ў складзе рады да 1642 г. уключна. Стэфан быў сынам Себасцьяна, які згадваецца ў складзе лавы ў 1588 г.[76] У Стэфана быў брат Мікалай. Яго сваяк Стэфан Максімовіч Гібула (?-1639) сваім тэстаментам запісаў Стэфану чвэрць валокі ў Гібулічах. З гэтай зямлі ён павінен быў даць жонцы нябожчыка Кацярыне Хвёдараўне Шэшкуцёвай 8 коп літоўскіх грошаў (1639)[77].

Стэфан быў жанаты з Крысцінай Рагачэўскай. Разам яны набылі дом на вул. Віленскай у Яна Арчакоўскага і Ядвігі Адамовічаўнай за 100 коп літоўскіх грошаў (1635). Памёр Стэфан да 1646 г. У гэтым годзе яго сын Ян разам з жонкай Цэцыліяй Карлоўшчанкай прадалі гэты пляц жамойцкаму стольніку Яну Далмату Ісайкоўскаму за 50 коп літоўскіх грошаў[78].

[71] НГАБ, ф. 1761, воп. 1, спр 1, арк. 21, 27.
[72] Там жа, арк. 128-128 адв.
[73] НГАБ, ф. 1800, воп. 1, спр. 1, арк. 48-49 адв.
[74] НГАБ, ф. 1761, воп. 1, спр. 1, арк. 90-91 адв.
[75] НГАБ, ф. 1800, воп. 1, спр. 1, арк. 98-99.
[76] LVIA, f. 1282, ap. 1, b. 11218.
[77] НГАБ, ф. 1761, воп. 1, спр. 1, арк. 108-108 адв.
[78] AGAD, AR, dz. XVIII, sygn. 313, k. 27; sygn. 313, k. 37-39, 41-43.

*Ян Гібула,* сын Стэфана на пасадзе лаўніка згадваецца ў 1643-1645 гг.[79], але верагодна займаў яе да канца жыцця. У 1672 г. згадваецца як нябожчык, а яго дзеці валодалі валокай у Гібулічах[80].

*Адам Карлоўскі* згадваецца лаўнікам толькі ў 1638 г.[81]

*Даніэль Кішмановіч* у дакументах на пасадзе фігуруе з 1633 па 1645 гг.[82] Яго дачка Марыяна была замужам за радцам Фёдарам Багдановічам[83].

*Мікалай Кудаеўскі* пачаў сваю кар'еру як лаўнік (1638-1640), а пасля да канца жыцця быў радцам (1641-1665)[84]. Ён быў сынам Астафея, лентвойта ў 1616 г.[85] Мікалай ажаніўся з Гальшкай Зелескай. Гэта быў яе другі шлюб. Першы раз яна была замужам за лаўнікам Касперам Рэйхенбергам[86]. У дом мужа ўнесла пасаг 1 000 злотых, за што атрымала запіс на маёмасці. У яе першым шлюбе нарадзіўся сын Астафей, які да дасягнення паўналецця выхоўваўся ў сям'і з Кудаеўскім. Грошы — 900 злотых, якія былі ўнесены Гальшкай у другім шлюбе, пайшлі на выплаты пазык і побытавыя справы. У 1645 г. Гальшка і Мікалай вылучылі Астафею спадчыну: 1,5 валокі ў Малахавічах, 0,5 у Гнойніцы, 4 валы, 2 каровы, 2 коней, 2 авечкі, 5 свіней. А Мікалай Кудаеўскі павінен быў пабудаваць святліцу з сенямі і адрыну, даць за збожжа 150 злотых[87].

Магчыма сястрой Мікалая была Ядвіга. Станіслаў Іванавіч Бутока і яго жонка Агаф'я Гарасімаўна набылі за 50 коп літоўскіх грошаў у Аляксандра Хацкевіча і жонкі Ядвігі Кудаеўшчанкі фальварак у Малахавічах з паловай валокі, які межаваў з грунтамі Івана Круціёўскага, Мікалая Кудаеўскага, Станіслава Бутокі (1643)[88].

79 А. Шаланда, *Пергаміны канца XVI-XVII ст.*, с. 114-115.
80 НГАБ, ф. 1800, воп. 1, спр. 1, арк. 246-246 адв.
81 НГАБ, ф. 1761, воп. 1, спр. 1, арк. 95.
82 НГАБ, ф. 1761, воп. 1, спр. 1, арк. 99 адв.-100; НГАБ, КМФ-18, спр. 119, арк. 710 адв.-712.
83 Н. Сліж, *Тастамент гарадзенскага радцы Фёдара Багдановіча*, с. 65-85.
84 НГАБ, КМФ-18, спр. 119, арк. 710 адв.-712; НГАБ, КМФ-18, спр. 124, арк. 185 адв.-186; НГАБ, ф. 1800, воп. 1, спр. 1, арк. 3, 7, 117; Г. Брэгер, *Дэкрэт, які служыў жыдам гродзенскага кагалу*, с. 106-107.
85 НГАБ у Гродне, ф. 1664, воп. 1, спр. 380.
86 Каспер Рэйхенберг згадваецца на пасадзе лаўніка ў дакуменце 1629 г. AGAD, AR, dz. XVIII, sygn. 313, k. 27.
87 LMAB RS, f. 16-207, l. 47.
88 НГАБ, ф. 1761, воп. 1, спр. 1, арк. 254-254 адв.

12 чэрвеня 1665 г. Кудаеўскі напісаў тэстамент. Ён прасіў пахаваць цела ў бернардынскім касцёле. Дажыў ён да сталага ўзросту, але на той час быў моцна хворы. Яго старасць змрочыў сын Ян, які збіваў і абражаў бацьку. Дапамогу Кудаеўскаму аказаў лентвойт Ганус Паўльсен, які атрымаў за гэта дзве валокі ў сяле Малахавічы. Гэта маёмасць перайшла ў спадчыну Кудаеўскаму пасля смерці жонкі. Пасля вайны маёмасны стан радцы быў убогі, а самі валокі не былі засеяны. Сын ад спадчыны быў адхілены[89].

*Тамаш Лагоўскі* займаў пасады лаўніка (1639-1642), радцы (1643-1644, 1652), бурмістра (1645)[90]. Ён быў жанаты з Даротай Бурбянкай, дачкой віленскага мешчаніна. Браты жонкі радца Мікалай, купец Войцех, Грыгор, Міхал Андрэевічы Бурбы, віленскія мяшчане, з сёстрамі Марусяй Іванішэвічавай, Даротай Тамашовай Лагоўскай, Альжбетай Мікалаевай Маргевічавай і з сястрыніцай Даротай Андрэеўнай Гутоўскай прадалі дом на Віленскай за 300 злотых Лагоўскаму. Дом належаў бацьку Андрэю Бурбе, гарадзенскаму мешчаніну і лаўніку, выходзіў чолам на вуліцу, тылам на вул. Калючынскую, адным бокам да пляца Лагоўскага, другім да дома, які раней быў Якуба Граткоўскага, а зараз лентвойта Марціна Граткоўскага (1639). Лагоўскі з жонкай выплаціў пазыкі А. Бурбы[91].

Лагоўскі не пераўжыў вайны 1654-1667 гг. Яго жонка Дарота склала тэстамент у 1657 г. Сваю маёмасць — дом на Віленскай і валоку ў Манчыне — яна падзяліла паміж сынам Янам, езуітам, і ўнучкай Грэтай Вінаграчанкай, жонкай Яна Канановіча[92]. Ян падарыў сваю спадчыну гарадзенскаму езуіцкаму кляштару. У 1662 г. гарадзенскія езуіты былі ўведзены ў валоданне маёмасцю Яна[93].

Ян Лагоўскі стаў езуітам 22 ліпеня 1637 г., даў шлюб у Пултуску 11 кастрычніка 1654 г. Памёр у Крожах у 1684 г. Выкладаў у Пултуску, Нясвіжы, Браневе, Ломжы, Вільне, Крожах. У Гародні ў 1649-1650 гг. быў прафесарам рыторыкі[94].

*Міхаіл Ліўчык* на пасадзе лаўніка фігуруе з 1633 г. па 1640 г.[95] Ён валодаў пляцамі на вуліцах Азёрскай, Віленскай, набыў у 1640 г. пляц

[89] НГАБ, ф. 1800, воп. 1, спр. 1, арк. 116-117.

[90] А. Шаланда, *Пергаміны канца XVI-XVII ст.*, с . 114; НГАБ, КМФ-18, спр. 127, арк. 119, 142.

[91] НГАБ, ф. 1761, воп. 1, спр. 1, арк. 119-121.

[92] LVIA, f. 1282, ap. 1, b. 4734.

[93] LVIA, f. 694, ap. 1, b. 4663.

[94] W. Lawszuk, *Jezuici w Grodnie 1622-1700. Ludzie i dzieje kolegium*, [w:] *Studia i materiały do dziejów jezuitów polskich*, t. 24, Kraków 2013, s. 195-196.

[95] BUW, Gabinet Rękopisów, sygn. 260, dok. 2.

на Рынку за 1 500 злотых у Андрэя Каспровіча Шчасновіча і Альжбеты Маргевічоўны[96]. На момант яго смерці (1640) ва ўласнасці былі апошнія два, якія і былі апісаны ўраднікамі для перадачы дзецям Габрыэлю і Зузанне. Агарод ад пляцу на Азёрскай нашчадкі прадалі Аляксандры Сабескай, жонцы Крыштафа Весялоўскага, маршалка ВКЛ за 300 злотых (1643). Ён межаваў з аднаго боку ад пляцаў брыгідак, з другога ад пляцу сыноў Ліўчыка — Габрыэля, Стэфана і Рафала, чолам да Азёрскай, тылам да пляца, што калісьці належаў Месенеўскаму. З дакумента вынікае, што пасля Міхаіла засталіся сыны — Габрыэль, Стэфан і Рафал, дочкі — Ядвіга (муж Барташ Ласкоўскі), Зузанна (муж Станіслаў Майшмер), Рэгіна і Тэафілія. Апошнія дзве дачкі былі непаўналетнімі на 1643 г. і знаходзіліся пад апекай Казіміра Росы і радцы Тамаша Лагоўскага. У 1644 г. Габрыэль быў ужо жанаты з Марынай Міхневічоўнай. Яны разам набылі валоку ў Грандзічах у Матыяша Войцехавіча Гранды і Зафеі Баброўчаўны за 100 коп літоўскіх грошаў (1644)[97].

*Адам Макоўскі* на пасадзе лаўніка ў дакументах фіксуецца ў 1636-1646 гг.[98] Ён валодаў пляцам на вуліцы Азёрскай[99]. Верагодна яго сынам быў лаўнік, а пазней радца Марцін Макоўскі. Разам з жонкай Зафеяй Ярашовічаўнай заставіў пляц на вуліцы Азёрскай за 600 злотых жыдам гарадзенскага кагалу Хаіму Якубовічу і яго жонцы Тыслі (1688). У хуткім часе жыды падалі скаргу на Зафею Ярашовічоўну і сыноў Станіслава і Андрэя, што яны наслалі на іх татараў у 1690 г. Яны наехалі на дом, збілі тых, хто там быў, замкі паадбівалі, рэчы забралі, выпілі 3 бочкі піва і нарабілі іншыя шкоды на 1 923 злотых. Справа разбіралася ў магістраце (1690). Зафея Ярашовічаўна адмаўляла свой удзел у наездзе і гатова была пацвердзіць прысягай. Лаўнік Пётр Сулеўскі быў яе адвакатам і на падставе Саксонскага люстра аргументаваў, што не мае віны той, хто папрысягае. Гэта вызваліла мяшчанку ад адказнасці. А жыды падалі скаргу ў асэсарскі суд. Справа скончылася ў 1695 г. Мяшчанам прысудзілі вечную баніцыю і выплату шкодаў у суме 2 273 злотых. Грошы былі апраўлены на двары, жыды былі ўведзены ў яго трыманне[100].

Марцін склаў свой тэстамент 18 мая 1689 г., а дакумент актыкаваны быў 1 студзеня 1690 г. Згодна з дакументам яго павінны былі пахаваць у дамініканскім касцёле. На пахаванне прызначалася 20 злотых і па 5 злотых Фарнаму, езуіцкаму, бернардынскаму, кармеліцкаму кас-

[96] НГАБ, ф. 1761, воп. 1, спр. 1, арк. 55-67, 112-113, 137-138 адв.
[97] НГАБ, ф. 1761, воп. 1, спр. 1, арк. 250-251, 282-283.
[98] AGAD, AR, dz. XVIII, sygn. 304, k. 13-14; sygn. 318, k. 37, 45.
[99] НГАБ, ф. 1761, воп. 1, спр. 1, арк. 104-105.
[100] AGAD, AR, dz. XVIII, sygn. 310, k. 7-8, 11-13, 19-82.

цёлам. Уся маёмасць заставалася жонцы і дзецям, браты і сёстры не мелі права на яе прэтэндаваць. Марціну належаў дом, пляцы на Азёрскай і на Гарадніцы[101].

*Войцех Пятроўскі* пачаў з пасады лаўніка (1643-1647), пасля быў радцам (1654, 1663, 1664, 1667-1670, 1672-1674) і бурмістрам (1661, 1665, 1666, 1671, 1675)[102]. Ён меў дом на вуліцы Рэзніцкай (1643)[103].

*Ян Смяроўскі* займаў пасаду лаўніка (1640-1649), бурмістра (1645), радцы[104]. Ён паходзіў з сям'і бурмістра Андрэя Смяроўскага (?-1639) і Алены Зглечэўскай. Андрэй пачаў сваю кар'еру як лаўнік (1616)[105]. У 1633 г. згадваецца як бурмістр[106], пазней радца (1636)[107]. Верагодна ў складзе рады заставаўся да канца жыцця. У сям'і Андрэя і Алены нарадзіліся Ян і Ядвіга (муж месцкі пісар Станіслаў Бельскі). Згодна з тэстаментам Андрэя яго павінны былі пахаваць у Фарным касцёле. Жонка атрымала дом на Маставой, зяць Станіслаў Бельскі — дом, у якім жыў з Ядвігай і дзецьмі, Ян і яго жонка Кацярына Мереўшчанка — дом на Віленскай (1638)[108]. Алена Зглечэўская не нашмат пераўжыла мужа і склала тэстамент у 1641 г. Яна прасіла пахаваць цела пры мужу, на імшы прызначыла бернардынцам 20 злотых, дамініканцам — 20, манашкам св. Клары — 10, Прачысценскай царкве — 10. Дом на Маставой пераходзіў сыну Яну і яго дзецям. Большасць рухомых рэчаў была размеркавана паміж сынам і дачкой[109].

Ян ажаніўся з Кацярынай, якая паходзіла з гарадзенскай эліты. Яна была дачкой радцы Станіслава Мерэеўскага і Рэгіны Ілкевічоўны. Яе бацька Ян Ілковіч быў бурмістрам. Рэгіна другі раз выйшла замуж за Фларыяна Грамацкага і нарадзіла сына Яна[110].

У сям'і Яна і Кацярыны нарадзіліся Войцех, Станіслаў, Алена і Ягнешка. Кацярына пераўжыла мужа і фігуравала ў судовых скаргах. Павел Казімір Рэбішэўскі абвінавачваў яе ў выбіцці і трыманні застаўленага агарода на Азёрскай у суме 100 злотых (1672). А бурмістр Адам Цвікліч забраў пазыковы запіс. Грошы і дакумент былі вернуты

101 НГАБ, ф. 1761, воп. 1, спр. 3, арк. 15-16 адв.

102 AGAD, Zbiór Józefa Jodkowskiego, sygn. 7, k. 3-10; LVIA, f. 1282, ap. 1, b. 4528, l. 16-17; НГАБ, ф. 1800, воп. 1, спр. 1, арк. 53, 78-78 адв., 117, 138, 208 адв., 215, 242; Г. Брэгер, *Дэкрэт, які служыў жыдам гродзенскага кагалу*, с. 106-107.

103 З дакумента за 1643 г. НГАБ, ф. 1761, воп. 1, спр. 1, арк. 258-259.

104 LMAB RS, f. 16-207, l. 48-50; AGAD, AR, dz. XVIII, sygn. 318, k. 41.

105 НГАБ у Гродне, ф. 1664, воп. 1, спр. 380.

106 BUW, Gabinet Rękopisów, sygn. 260, dok. 2.

107 LVIA, f. 1282, ap. 1, b. 5302, l. 2.

108 НГАБ, ф. 1761, воп. 1, спр. 1, арк. 113-114.

109 Там жа, арк. 226 адв.-227 адв.

110 НГАБ, КМФ-18, спр. 77, арк. 138-138 адв.; ф. 1800, воп. 1, спр. 1, арк. 3-4 адв.; ф. 1761, воп. 1, спр. 1, арк. 8.

(1673). Бурмістр Ліпска Ваўрынец Лаўзоўскі патрабаваў вяртання 18 бочак жыта гарадзенскай меры, якія былі пазычаны ў 1658 г. З іх былі аддадзены толькі 10. Кацярына прызнала і прасіла адтэрміноўкі на восень. Суд прысудзіў аддаць на св. Барталамея (1674). У лістападзе 1674 г. Кацярына згадвалася як памерлая[111].

Пра дзяцей захаваліся наступныя звесткі. Прускі купец Альбрэхт Ян абвінавачваў Войцеха ў зрыве дамовы. Апошні ўзяўся адвезці ў Элк 8 лан волава коштам 500 злотых, але не адвёз. Скаржнік патрабаваў кампенсацыі стратаў і волава (1668)[112].

Станіслаў Смяроўскі ажаніўся з Зафеяй Цвіклянкай. Ён атрымаў палову валокі ў Баранавічах пры падзеле з Войцехам, а другую палову купіў у яго. Станіслаў разам з жонкай падарыў зямлю Фарнаму касцёлу, каб маліліся за душы продкаў і за здароўе жывых (1671)[113]. Духавенства атрымала вызваленне ад падаткаў на гэту валоку ад караля Міхаіла, але яна была прызнана як няпраўная (1713)[114].

Станіслаў, як схільны да крадзяжу, абвінавачваўся Юзафам Конюшкам з Баранавіч у нападзе на яго дом, захопе дрэва і збіцці (1662). А ад Алены Янаўны, якая першы раз была за Аляксеем Крыштаповічам, а другі — за Паўлам Хілімонавічам была пададзена скарга аб згвалтаванні дачкі Даркі. Яна працавала ў яго чаляднціцай. Выпадак здарыўся ў лесе, калі гаспадар выправіў яе за грыбамі (1668)[115]. За гэта злачынства пагражала смяротнае пакаранне. Але судовага працэсу не выяўлена ў кнігах. Верагодна справу вырашылі інакш.

Дачку Алену Кацярына выдала замуж сама за сына бурмістра Адама Цвікліча — Барталамея, які пазней стаў радзецкім пісарам. У сувязі з адсутнасцю грошай замест пасагу яна атрымала валоку ў Гародні, якая перайшла ёй па маці Рэгіне Мерэеўскай, і пляц на вуліцы Маставой (1670). Яны прадалі пляц сястры Ягнешцы Смяроўскай за 400 злотых (1676). У сваю чаргу яна перапрадала яго бурмістру Пятру Канцкаму і жонцы Зафеі за 400 злотых (1676)[116]. Пасля смерці маці Алена атрымала валоку ў Манчыне. Разам з мужам яна заставіла яе за 200 злотых Яну Пекарскаму і Дароце Зезулянцы (1674)[117].

Ягнешка выйшла замуж за Андрэя Маладзілу. У 1673 г. была ўжо ўдавой. Аляксандр Гамельтон, паручнік ЯКМ, патрабаваў ад яе выплаціць пазыку ў суме 114 злотых. Суд падтрымаў скаржніка (1674).

[111] НГАБ, ф. 1761, воп. 1, спр. 2, арк. 341, 345, 361-361 адв., 384.
[112] Там жа, арк. 167 адв.
[113] НГАБ, ф. 1800, спр. 1, арк. 226 адв.-227 адв.
[114] Там жа, арк. 247 адв.-248.
[115] НГАБ, ф. 1761, воп. 1, спр. 2, арк. 25, 168.
[116] НГАБ, ф. 1800, спр. 1, арк. 201 адв.-202 адв., 304-304 адв., 305 адв.-306 адв.
[117] НГАБ, ф. 1761, воп. 1, спр. 2, арк. 387-387 адв.

Пляц на вуліцы Маставой, які Ягнешка атрымала ад мужа, прадала мсціслаўскаму ваяводзе Яну з Казельска Агінскаму і жонцы Яганне Фядоры Нарушэвічаўне за 4 000 злотых (1673). Другім мужам стаў Даніэль Вітт Вайда. Ён фігураваў у дакуменце за 1676 г.[118]

*Адам Цвікліч*, брат лентвойта Станіслава Цвікліча, згадваецца спачатку як сіндык (1639), пасля як лаўнік (1640-1649), радца (1659-1661, 1663, 1665-1669, 1671) і бурмістр (1662, 1664, 1670, 1672)[119]. Ён ажаніўся з Зузаннай Тарасевічоўнай. Яна была дачкой Яна Тарасевіча, які быў узяты ў палон падчас маскоўскай акупацыі горада. Ад яго не было звестак. Разам з сястрой Кларай і яе мужам Станіславам Залескім прадалі яго валоку Аўдоцці Каласкоўне, жонцы радцы Мікалая Васілевіча, за 325 злотых (1662). Другі раз Адам ажаніўся з Зафеяй Сікорскай. У яе гэта быў таксама другі шлюб. Яна аўдавела пасля смерці Фальтына Поспеха. Зафея памерла ў 1669 г. Адам меў дзяцей толькі ў першым шлюбе: Барталамей, Ганна (жонка Тамаша Канцлера), імя невядома (жонка Радунскага). Ён памёр у 1672 г. і прасіў пахаваць у Фарным касцёле. Маёмасць была размеркавана сярод дзяцей[120].

*Фальтын Шульц* на пасадзе лаўніка быў з 1640 г. па 1647 г., магчыма па 1648 г., з 1649 г. уваходзіў у склад рады верагодна да 1663 г., быў бурмістрам у 1661 г. Як нябожчык ён згадваецца ў 1667 г. Фальтын быў жанаты з Ганнай Дорбахаўнай. Яна валодала пляцам на вуліцы Маставой. Ганна па пагадненні передала права валодання Марціну Машэўскаму і дачцэ Зафеі Шульцаўне валоку Слосарскую, засценак і агарод Хымічоўскі (1668)[121].

*Каспар Шчасновіч* згадваецца на пасадзе лаўніка з 1637 г., памёр у 1639 ці 1640 г. (пра яго інфармацыя змешчана ў біяграфіі лентвойта Андрэя Каспровіча Шчасновіча)[122].

*Фёдар Юрэвіч (Юргэвіч)* згадваецца на пасадзе лаўніка ў перыяд 1638-1646 гг.[123] У яго былі два браты Ян і Адам. Старэйшы Ян быў іх

[118] НГАБ, ф. 1761, воп. 1, спр. 2, арк. 372-372 адв.; ф. 1800, спр. 1, арк. 273-273 адв., 305 адв.-306 адв.

[119] НГАБ, ф. 1761, воп. 1, спр. 1, арк. 12 і інш.; КМФ-18, спр. 124, арк. 185 адв.-186; ф. 1800, спр. 1, арк. 6, 54, і інш.

[120] НГАБ, ф. 1800, спр. 1, арк. 61-62, 152 адв., 195 адв.-196 адв., 260 адв.-261.

[121] LMAB RS, f. 16-207, l. 48-50; НГАБ, КМФ-18, спр. 124, арк. 185 адв.-186; ф. 1800, спр. 1, арк. 53, 181, 204-204 адв., 222-222 адв.

[122] НГАБ, ф. 1761, воп. 1, спр. 1, арк. 104-105.

[123] НГАБ, КМФ-18, спр. 119, арк. 710 адв.-712.

апекуном і памёр, пакінуўшы пазыкі. Быў вінен Яну Гзоўскаму (20 коп), Адаму Юрэвічу (15 коп). Браты выплацілі пазыкі і прадалі за 50 коп літоўскіх грошаў Яну Бенькоўскаму і яго жонцы Ядвізе Янаўне Юрэвічаўне дом з пляцам і агародам на вуліцы Рэзніцкай (1616). Праз год яны перапрадалі за 15 коп Марціну Эйсіманту і Гальшцы Грынашкевічаўне[124].

Фёдар быў жанаты з Ганнай Талочкаўнай. У яе была сястра Барбара, якая стала жонкай Войцеха Адамовіча. Іх дочкі Люцыя і Альжбета сталі жонкамі злотніка Лукаша Скроблякевіча і Тамаша Дмухоўскага адпаведна. Згодна з тэстаментам Ганны дом на вуліцы Маставой быў падзелены паміж мужам і пляменніцамі, а фальварак у Манчыне адыходзіў мужу. Ганна была каталічкай і прасіла пахаваць яе цела ў бернардзінскім касцёле (1644). Дзяцей у шлюбе не было. Застаўшыся адзін Фёдар Юрэвіч валоку ў Манчыне з-за старасці і слабасці здароўя падарыў з умовай выплаты яго пазык Грыгорыю Станіслававічу Вайтовічу Трыцкаму і яго жонцы Аляксандры Грынаскевічоўне (1644)[125].

*Матэвуш Ябланоўскі* быў сынам Яна, лентвойта (1610)[126], меў брата Якуба. На пасадзе лаўніка Матэвуш фігуруе з 1633 г. па 1647 г., у 1650 г. — бурмістра, у 1654 г. — радцы[127]. У 1655 г. быў апекуном Дахоўскіх[128].

Матэвуш Ябланоўскі падаў пратэстацыю ад сябе і ад брата роднага Якуба на былую жонку Станіслава Варабеевіча, якая пасля выйшла за Марціна Клімчэвіча і яе дзяцей, народжаных у першым шлюбе. Варабеевіч трымаў іх айчыстую валоку па невядомых прычынах. Супраць яго падавалася скарга яшчэ ў 1626 г. Пасля смерці жонкі Клімчэвіча была актыкавана другая скарга (1641)[129]. Матэвуш быў жанаты з Кацярынай Котлаўшчанкай. Разам яны прадалі за 40 коп літоўскіх грошаў палову валокі ў Грандзічах, якая належала Фёдару Барсукову і жонцы Аўдоцці Селівоўнаўне (1640)[130].

*Тамаш Янчэўскі* на пасадзе лаўніка згадваецца ў 1633 г. і займаў яе да канца свайго жыцця, да 1643 г. Ён быў адным са старшых брацтва

[124] НГАБ у Гродне, ф. 1664, воп. 1, спр. 380, 383.
[125] НГАБ, ф. 1761, воп. 1, спр. 1, арк. 102-103, 105-106, 276-276 адв., 272 адв.-273 адв.
[126] AGAD, AR, dz. XVIII, sygn. 304, k. 1-6.
[127] BUW, Gabinet Rękopisów, sygn. 260, dok. 2; LMAB RS, f. 16-207, l. 48; НГАБ, КМФ-18, спр. 124, арк. 185 адв.-186; Г. Брэгер, *Дэкрэт, які служыў жыдам гродзенскага кагалу*, с. 106-107.
[128] LVIA, f. 694, ap. 1, b. 4624, l. 4-7.
[129] НГАБ, ф. 1761, воп. 1, спр 1, арк. 174-174 адв.
[130] Там жа, арк. 148 адв.-149 адв.

Святой Тройцы (1642). Яго жонкай была Ядвіга Налэнчоўна. Яна першы раз была замужам за лаўнікам Станіславам Мазніцкім. У яе было двух сыноў Мацей і Войцех. Першы служыў у Польшчы, а другі — вучыўся кравецкаму рамяству. Пазыкі па першым мужу Ядвіга выплаціла разам з Тамашам. Тэстамент Янчэўскі склаў 7 верасня 1642 г., а актыкаваны ён быў 9 студзеня 1643 г. Ён прасіў пахаваць цела ў Фарным касцёле. Прызначыў па 10 злотых за малітву за душу брацтву Св. Тройцы, брацтву Анёла Ахоўніка, брацтву Св. Ружанца, езуітам, бернардынцам. Жонка была асноўнай спадчынніцай[131].


**Summary**

**The *wojt* and jurors' court in Grodno (1638-1644): relations between court practices and the Magdeburg law**

The activities of magistrates' courts are an important aspect in studying the system of city management. The history of the *wojt* and jurors' court in Grodno in the early 17th century is presented in historiography rather fragmentarily. The author of the present paper focuses on the practices of the court and their compatibility with the law; the composition of the court; and kinds of documents attached to the court registers. The main research problem is lack of a considerable number of available sources, as the oldest court register dates from as late as 1639-1644.

The judiciary system in Grodno was made up of the mayor and councillors' court, *wojt*'s court, *wojt* and jurors' court and criminal court. The *wojt*'s court and the *wojt* and jurors' court were directly linked with each other. The *wojt* and jurors' court played an important role in the system of town administration. Its competencies included adjudicating property and criminal disputes. Additionally, private legal documents (wills, agreements of purchase and sale, contracts of donation, etc.) were attached to court registers. Since family archives of Grodno citizens have not been preserved, the official registers contain unique documents regarding histories of individual families. Furthermore, the documentation of the *wojt* and jurors' court is clear evidence of the division of competencies between the council and the jury. It should be noted that this situation was not the same in all towns and for this reason any study of courts' compliance with the Magdeburg law requires individual treatment.



**Streszczenie**

**Grodzieński sąd wójtowsko-ławniczy (1638-1644): relacje praktyki sądowej z prawem magdeburskim**

Działalność sądów magistrackich jest ważnym aspektem w badaniu systemu zarządzania miastem. Historia sądu wójtowsko-ławniczego w Grodnie na początku XVII w. w historiografii przedstawiona jest dosyć fragmentarycznie. W artykule autorka uwagę koncentruje na pracy sądu, jej zgodności z prawem, składzie sądu, rodzajach dokumentów aktykowanych do ksiąg urzędowych. Głównym problemem w badaniach nad sądem jest brak znacznej ilości źródeł, ponieważ najstarsza księga sądowa pochodzi dopiero z lat 1639-1644.

System sądowy w Grodnie składał się z sądu burmistrzowsko-radzieckiego, wójtowskiego, wójtowsko-ławniczego i karnego. Sądy wójtowski i wójtowsko-ławniczy były bezpośrednio ze sobą powiązane. Sąd wójtowsko-ławniczy miał ważne znaczenie w systemie


[131] Там жа, арк. 56 адв., 72-72 адв., 223-224, 243-243 адв.

zarządzania miastem. W jego kompetencji leżało rozpatrywanie spraw majątkowych i karnych. Ponadto do ksiąg sądowych aktykowano prywatne dokumenty prawne (testamenty, akty sprzedaży, darowizny itp.). Ponieważ archiwa rodzinne mieszczan grodzieńskich nie zachowały się, księgi urzędowe zawierają unikalne dokumenty dotyczące historii poszczególnych rodzin. Ponadto dokumentacja sądu wójtowsko-ławniczego wyraźnie świadczy o podziale kompetencji pomiędzy radą i ławą. Należy zauważyć, że taka sytuacja nie była jednakowa we wszystkich miastach, w związku z czym praktykę przestrzegania prawa magdeburskiego należy badać w każdym mieście oddzielnie.

**Natalla Sliż** — historyk, pracuje w grodzieńskiej filii Białoruskiego Instytutu Prawoznawstwa, autorka ponad 140 artykułów. Zainteresowania badawcze: historia rodziny szlacheckiej, historia małżeństwa szlacheckiego, historia Grodna w XVI-XVIII ww.

**Віталь Карнялюк**
(Гродна)

## Наступствы бежанства Першай сусветнай вайны для жыхароў Гродзеншчыны

Бежанства, як з'ява Першай сусветнай вайны, якая стала выключнай старонкай гісторыі Беларусі ў перыяд 1914-1923 гг., толькі ў апошнія дзесяцігоддзі стала прадметам досыць шырокага навуковага даследавання. Гістарыяграфія гісторыі бежанства з Беларусі паставіла першыя навуковыя задачы і змяшчае першасныя адказы, якія не дазваляюць скласці пакуль цэласную карціну такога маштабнага дэмаграфічнага і ваеннага працэсу як бежанскі рух з Беларусі ў 1914-1923 гг. Кажучы пра найноўшыя вынікі вывучэння гісторыі гэтай вайны, зазначым, што ўвага да яе ў Беларусі прысутнічае, хаця нейкім значным прарывам яе назваць нельга. На мяжы XX-XXI стст. з'явіліся працы рознага ўзроўню беларускіх даследчыкаў[1]. Нельга не згадаць

[1] А. Бабков, *Беженцы в Беларуси в годы первой мировой войны (1915-1917)*, [у:] *Гістарычная навука і гістарычная адукацыя ў Рэспубліцы Беларусь*, Мінск 1993, ч. 1: *Гісторыя Беларусі*, с. 131-138; ён жа, *Эвакуацыя і дзейнасць навучальных устаноў Беларусі ў Расіі ў гады Першай сусветнай вайны*, [у:] *Культура беларускага замежжа*, Мінск 1998 [рэжым доступу: http://lib.zbsp.org/node/452]; В. Карнялюк, *Гістарычная дэмаграфія I сусветнай вайны: бежанства з заходніх губерняў Расійскай імперыі (1914-1917)*, „Białoruskie Zeszyty Historyczne", 1999, nr 12, s. 22-44; ён жа, *Праблема гісторыка-дэмаграфічнай характарыстыкі бежанцаў з беларускіх зямель (1914-1918)*, „Веснік ГрДУ", 2000, серыя 1, № 2 (4), с. 20-27; ён жа, *Маргінальнасць бежанцаў-беларусаў, як фактар росту іх нацыянальнай свядомасці*, [у:] *Этносоциальные и конфессиональные процессы в современном обществе (материалы научно-практической конференции, Гродно, 16-18 ноябрь 1999 г.)*, Гродно 2000, с. 312-321; ён жа, *Пра колькасць прызваных у расійскае войска з Віленскай, Віцебскай, Гарадзенскай, Мінскай і Магілёўскай губ. у часы Першай святовай вайны (1914-1918)*, „Гістарычны альманах", Гародня 2000, № 3, с. 177-180; ён жа, *Дэмаграфічныя змены Беларусі падчас першай сусветнай вайны 1914-1918 гг.: да гістарыяграфіі праблемы*, [у:] *Гістарыяграфія гісторыі Беларусі: стан і перспектывы развіцця. Матэрыялы навуковай канферэнцыі, прысвечанай 70-годдзю Інстытута гісторыі НАН Беларусі (Мінск, 6-7 кастрычніка 1999 г.)*, Мінск 2000, с. 197-199; ён жа *Аб уздзеянні падзей I сусветнай вайны на дэмаграфічны склад насельніцтва Дзісенскага павета Віленскай губерні*, [у:] *Матэрыялы V навукова-краязнаўчай канферэнцыі, прысвечанай 935-годдзю першай згадкі Браслава ў пісьмовых крыніцах „Браслаўскія чытанні" (27-28 красавіка 2000)*, Браслаў 2001, с. 45-47; С. Ф. Лапановіч, *Асноўныя напрамкі дзейнасці Галоўнаўпаўнаважанага па ўладкаванню бежанцаў на франтах у глыбіні імперыі ў перыяд першай сусветнай вайны*, „Весці Беларускага дзяржаўнага педагагічнага ўніверсітэта", 2001, № 3; В. Лигута, *Наша кровь*

мабілізацыя) падводзіць да разумення, чаму людзі збягалі на ўсход Беларусі. Сярод арганізацый, якія дапамагалі бежанцам, аўтар згадвае філіял Беларускага таварыства дапамогі пацярпелым ад вайны. І зноў жа, сярод усіх разгледжаных вышэй вучэбных выданняў гэта адзіная дакладная згадка пра арганізатараў дапамогі. У пераважнай большасці звесткі пра іх альбо адсутнічаюць, альбо абмяжоўваюцца агульнай фразай пра грамадскія арганізацыі.

Характарызуючы беларускія абагульняючыя выданні па айчыннай гісторыі, неабходна звярнуць увагу і на „Гісторыю Беларусі ад сярэдзіны XVIII да пачатку XXI ст.” беластоцкіх даследчыкаў Алега Латышонка і Яўгена Мірановіча[28]. Выдадзеная першапачаткова па-польску, кніга ў хуткім часе была перакладзена на беларускую мову. Адзін з пунктаў раздзела па гісторыі Першай сусветнай вайны прысвечаны праблеме бежанства. Асноўнай прычынай пакідання насельніцтвам родных мясцін аўтары называюць чуткі, якія распаўсюджвалі праваслаўныя святары і адступаючыя рускія войскі наконт зверстваў немцаў. Што датычыцца лічбы бежанцаў, то даследчыкі адзначаюць, што ў сярэдзіне 1916 г. яна складала каля 1,3 млн., а праз год — прыкладна на мільён чалавек больш. З іншых аспектаў у кнізе называецца тэрыторыя рассялення ўцекачоў і характарызуецца становішча тых, хто адмовіўся выязджаць.

Такім чынам на сённяшні дзень у пераважнай большасці абагульняючых выданняў па гісторыі Беларусі прадстаўлены фрагментарныя веды па гісторыі бежанства ў гады Першай сусветнай вайны. У значнай ступені яны паўтараюць асноўныя палажэнні савецкай гістарыяграфіі, не ўлічваюць дасягненняў сучаснай навукі і не адлюстроўваюць таго ўплыву, які аказала бежанства на жыццё беларускага грамадства ў XX ст.

**Summary**

***Bezhenstvo* during World War I in Belarusian historiography (1991-2015)**

The article presents various portrayals of the phenomenon of massive population displacement (*bezhenstvo*) during the First World War in contemporary literature on Belarusian history. The comparison has been based on the following criteria: the cause of displacement, its character and degree of organization; population groups and the general number of refugees; living conditions; and humanitarian aid. The author concludes that in spite of the appearance of new research on the subject in question, the majority of Belarusian textbooks continue to follow Soviet historiography.

[28] А. Латышонак, Я. Мірановіч, *Гісторыя Беларусі ад сярэдзіны XVIII ст. да пачатку XXI ст.*, Вільня — Беласток 2010; А. Латышонак, Я. Мірановіч, *Гісторыя Беларусі ад сярэдзіны XVIII ст. да пачатку XXI ст.*, Смаленск 2013.

**Streszczenie**

**Problem *bieżeńców* w czasie I wojny światowej w literaturze syntetyzującej na temat historii Białorusi (1991-2015)**

Autorka ukazuje jak problem *bieżeństwa* (uchodźstwa) w latach I wojny światowej jest przedstawiany we współczesnych pracach syntetyzujących na temat historii Białorusi. Do ich porównania autorka przyjęła następujące kryteria: przyczyna *bieżeństwa*, jego charakter, stopień organizacji, grupy ludności i ogólna ilość *bieżeńców*, warunki bytowe i pomoc humanitarna. Autorka doszła do wniosku, że nie zważając na pojawienie się nowych prac naukowych na ten temat, w przeważającej większości podręczników białoruskich nadal powtarzane są podstawowe założenia historiografii sowieckiej.

**Lubow Kozik —** kandydat nauk historycznych, docent. Pracuje w Katedrze Historii Słowian Południowych i Zachodnich Białoruskiego Uniwersytetu Państwowego w Mińsku. Zajmuje się badaniem historii Polski w XX wieku.

**Кірыл Сыцько**
(Мінск)

## Паміж цывільным і рэлігійным: да пытання адлюстравання гістарычнай рэальнасці ў наратыўных крыніцах 30-х гг. XX ст. (на прыкладзе крыніц па гісторыі Лідскага дэканата)

### 1. Замест уводзін

У дадзенай працы размова ідзе аб праблеме праекцый некаторай абмежаванай прасторы ў светапоглядах цывільных рыма-каталікоў і рыма-каталіцкага духавенства. Праекцыі гэтыя, амаль заўжды выходзячы за межы сакральнага вымярэння рэчаіснасці, па сутнасці з'яўляюцца прамым адлюстраваннем агульнага ў прыватным, прыватнага ў агульным, а таксама прыватнага ў прыватным. Такі стан светапогляднасці вызначаецца перш за ўсё постструктуралісцкай трактоўкай паняцця „я".

Так, сыходзячы з пункту гледжання французскага псіхааналітыка Жака Лакана, усялякае „я", абранае за кропку адліку вымярэння гістарычнай рэальнасці, па сутнасці з'яўляецца працягам сукупнасці мностваў „я"[1], адлюстраваннем эпохі.

Рыма-каталіцкае веравызнанне ў гэтым выпадку адыгрывае ролю своеасаблівай сацыяльнай сістэмы, уласцівай традыцыйнаму грамадству, якім і з'яўлялася насельніцтва абранай у вызначанай працы лакацыі — Лідскага дэканата[2].

Актуальнасць працы, такім чынам, фармулюецца праз неабходнасць аб'ектыўнага адлюстравання гістарычнай рэальнасці ў маладаследаваным праблемным полі — светапогляднасці жыхароў Лідчыны.

Шмат якія айчынныя гісторыкі, баючыся заграznуць у гэтак званым „наіўным" пазітывізме, адначасова моцна перабольшваючы ідэалагічную нагрузку, якую можа ўтрымліваць у сабе нават самая звычайная інтэлектуальная аперацыя, апускаюць у сваіх працах г.зв. „неаб'ектыўныя" і „неверагодныя" гістарычныя крыніцы (якімі, па сутнасці, і будуць з'яўляцца большасць апісальных наратываў мясцовага ўзроўню), чым, фактычна, выкідаюць у смецце цэлы пласт народ-

[1] Ж. Лакан, *Функция и поле речи и языка в психоанализе*, Москва 1995, с. 95.
[2] К. В. Сыцько, *Дакументы Рымска-каталіцкай царквы канец XIX — пачатак XX стст. у даследаваннях дынамікі развіцця Заходняй Беларусі*, [у:] *Молодость. Интеллект. Инициатива: сборник работ студентов и аспирантов*, Витебск 2014, с. 162.

най лакальнай культуры[3]. Гэтая з'ява, па сутнасці, нараджае парадокс — калі выкарыстанне толькі „аб'ектыўных" і „верагодных" крыніц нараджае неаб'ектыўнае адлюстраванне гістарычнай рэальнасці.

Тут трэба не забываць, што большая частка гісторыі Беларусі, як, у прынцыпе, і агульнаеўрапейскай гісторыі, непарыўна звязаная з Рымска-каталіцкім касцёлам. Інстытуту, які пакінуў пасля сябе багатую дакументальную спадчыну, у савецкі час, на жаль, надзялялася няшмат увагі. Тым не менш, дынаміка эвалюцыі беларускага грамадства ва ўсе часы характарызуецца моцнай сувяззю з царквой — адным з найбуйнейшых ідэалагічных інстытутаў. Рэлігія існуе і існавала як праява развіцця сацыяльнага розуму, а значыцца Рымска-каталіцкая царква з'яўляецца буйным і неад'емным органам жыццезабеспячэння. Аднак, варта не забываць, што любыя буйныя гістарычныя працэсы маюць пад сабой дробныя фактары, якія так ці інакш уплывалі на дынаміку развіцця грамадства. Гэтыя працэсы, нярэдка статычныя і незаўважныя на фоне буйных гістарычных падзей, досыць добра адлюстроўваюцца ў дакументах па гісторыі царквы.

Кажучы іншымі словамі, гістарычная рэальнасць, прадстаўленая буйной і складанай сістэмай — з'ява рызаматычная, выкліканая выпадковым перапляценнем мноства больш дробных сістэм якія, у сваю чаргу, могуць быць даследаваныя з дапамогай масавага аналізу яшчэ больш дробных элементаў патэрнаў — „я". Такім чынам, пры пабудове вялікай канструкцыі не ўсё і адразу становіцца на свае месцы ў лагічным парадку — логіка пабудовы ламаецца аб алагічнасць гістарычнай рэальнасці — такі стан рэальнасці выклікаецца мноствам кантэкстуальных фактараў, якія так ці інакш уздзейнічаюць на аб'ект даследавання.

Менавіта з гэтай прычыны любое даследаванне варта пачынаць з мікраўзроўню. Аб'ектам даследавання на мікраўзроўні і стане той самы кантэкстуальны фактар, які прама ўздзейнічае на аб'ект даследавання на ўзроўні больш буйным. Так, даследаванне Віленскай рымска-каталіцкай дыяцэзіі мае сэнс ажыццяўляць праз даследаванне парафій і дэканатаў, якія ўваходзілі ў яе склад, а таксама праз сацыяльныя і псіхалагічныя партрэты духавенства, шляхты і г.д. Такое ўскладненне даследавання перш за ўсё дазваляе пазбегнуць абсалютнага хаосу ў логіцы адлюстравання гістарычнага працэсу.

Так ці інакш, касцёл, які ставіў сябе ў авангард духоўнага жыцця і паказваў абсалютную адрэшанасць ад цывільных спраў, самым непасрэдным чынам уплываў на іх. Падобная дыхатомія, выражаная

[3] К. Гинзбург, *Сыр и черви*, Москва 2000, с. 37.

супрацьпастаўленнем двух бакоў існасці Рымска-каталіцкага касцёла — духоўнага жыцця і цывільнага жыцця, і выклікае найбольшую зацікаўленасць.

Важнасць Рымска-каталіцкай царквы ў сістэме светаўяўленняў жыхароў былога Лідскага павета пацвярджаецца і тым фактам, што ў шматлікіх архіўных дакументах XVIII — пачатку XX стст., дзённіках, мемуарах і г.д., тэрытарыяльныя адзінкі пазначаюцца не па афіцыйным, прынятым у дзяржаве на той момант адміністрацыйным падзеле, але па падзеле рэлігійным — то-бок парафіі, дэканаты, прыходы і г.д. Трэба ўлічваць, што пры дасягненні высокага стану рэлігійнасці ўзнікае такі момант, калі „тэарэтычнае" чаканне грамадства ўжо звязанае з „практычнай" патрэбаю. Гэты вузел звязвае практычнае і рэлігійнае, абавязковасць і вераванне, маральную неабходнасць і экзістэнцыйнае дапушчэнне. Такі псіхалагічны і сацыяльны стан, у якім асоба і царква непарыўна звязаныя, нараджае асаблівы рэлігійны дыскурс цывільнага грамадства абазначанай тэрыторыі. Адбываецца абмен сімваламі, пры якім сукупнасць рэлігійных сімвалаў становіцца неад'емнаю часткаю цывільнага жыцця, але цывільныя сімвалы ў рэлігію пранікаюць з меншай інтэнсіўнасцю. Менавіта з гэтай прычыны для таго, каб даследаваць грамадства, трэба даследаваць царкву.

Дакументы, якія былі створаны ў выніку дзейнасці прадстаўнікоў Рымска-каталіцкага касцёла, з'яўляюцца важнай крыніцай даследавання дынамікі гістарычнага развіцця беларускай нацыі, бо царква, атаясамляючы сябе як «пасрэдніка паміж чалавекам і Богам», непазбежна набывае рысы, уласцівыя насельніцтву дадзеных зямель[4]. Такім чынам крыніцы па канфесійнай гісторыі — гэта база для гістарычнага вымярэння паняццяў ідэнтычнасці і нацыянальнай тоеснасці ў традыцыйным грамадстве.

Паняцці ідэнтычнасці і нацыянальнай тоеснасці з'яўляюцца псіхалагічнымі пастулатамі сучаснага грамадства. Англійскі палітолаг Энтані Сміт заўважыў, што праявы нацыянальнай тоеснасці і самавызначэння ахопліваюць амаль усіх прадстаўнікоў соцыуму, незалежна ад іх светапогляду[5].

Такім чынам кожны наратыўны дакумент, звязаны з гісторыяй Рымска-каталіцкай царквы, будзе перадатчыкам пэўных паняццяў, звязаных з самавызначэннем. То-бок, ён, па сутнасці, з'яўляецца па-

[4] К. В. Сыцько, *Дакументы Рымска-каталіцкай царквы канец XIX — пачатак XX стст. у даследаваннях дынамікі развіцця Заходняй Беларусі*, [у:] *Молодость. Интеллект. Инициатива...*, с. 161.

[5] Э. Сміт, *Нацыяналізм у дваццатым стагоддзі*, Мінск 1995, с. 26.

зачасавай структурай эмпірычнага вопыту грамадства і існуе толькі для таго, каб раскрыць рэпрэзентацыю ўзаемасувязей жыццёвага свету на вызначанай лакацыі.

Аднак, трэба разумець, што адзін і той жа аб'ект, альбо сукупнасць аб'ектаў, якія разам складаюць патэрн (альбо метапатэрн), могуць быць апісаныя на розных узроўнях. Для таго, каб адлюстраваць і прааналізаваць гэтыя ўзроўні апісання, у вызначанай працы будуць разгледжаныя дзве буйныя наратыўныя крыніцы адной накіраванасці — г.зв. „Kronica"[6] дробнага шляхціца Караля Ляськовіча, які жыў у вёсцы Ішчална Ішчалнскай парафіі Лідскага дэканата (то-бок цывільнага рыма-каталіка) і „Zapisy o Krzyżu i kaplicy w Ćwiermach"[7] лідскага дэкана і ганаровага каноніка Гіпаліта Баярунца (то-бок прадстаўніка рыма-каталіцкага духавенства). Абедзве гэтыя крыніцы яднаюцца, па-першае прывязкай да пэўнай тэрыторыі (апісваюцца кавалкі Лідскага дэканата), па-другое часам напісання (напісаныя ў перыяд з 1931 па 1936 гг.).

Вышэйназваныя крыніцы прадстаўлены ў дадзенай працы з той прычыны, што яны з'яўляюцца адзінымі захаванымі рукапіснымі наратывамі па гісторыі Рымска-каталіцкага касцёла на Лідчыне пачатку XX ст.

Такім чынам, мэтай дадзенай працы з'яўляецца аналіз прадстаўленых крыніц на прадмет праяўлення ў іх асобы аўтара як важнейшага кантэксту, які ўплывае на адлюстраванне гістарычнай рэальнасці ў крыніцы.

Задачамі, якія выцякаюць з абазначанай мэты, з'яўляюцца:

1. Выяўленне агульных сацыякультурных усталёвак, уласцівых жыхарам вызначанага рэгёна (Лідчыны) у 30-х гг. XX ст. у цэлым праз прызму асобы аўтара.

2. Выяўленне прыватных псіхалагічных усталёвак, уласцівых асобе аўтара.

Структура працы, то-бок аналіз спачатку крыніцы, створанай цывільнай асобай, пасля — рэлігійнай, пакажа агульнае і прыватнае ў рыма-каталіцкай супольнасці Лідчыны 30-х гг. XX ст., што дазволіць апісваць гісторыю Лідскага дэканата, абапіраючыся на пэўныя ментальнасна-ідэалагічныя ўсталёўкі і сацыяльныя дэфармацыі.

[6] Архіў касцёла Найсвяцейшай Троіцы в. Ішчална, спр. б/н. Kronica, 1936 г.

[7] H. Bojaruniec, Zapisy o Krzyżu i kaplicy w Ćwiermach, Lida: з дакументаў Лідскага Фарнага касцёла Узвышэння Святога Крыжа, 1936, 50 с.

Дадзенай працай аўтар хоча сказаць, што:

1. Гістарычная рэальнасць павінна канструявацца на аснове не толькі „голых” фактаў, прыведзеных у крыніцы, але і дэканструкцыі кантэкстаў (асоба аўтара з’яўляецца галоўным кантэкстуальным фактарам крыніцы).

2. У адзінкавай працы аднаго аўтара скрозь прызму яго сацыяльна-палітычных усталёвак можна прасачыць агульныя настроі, якія панавалі ў вызначаны перыяд часу.

3. У выпадку, калі ідэі розных аўтараў розных крыніц перакліканюцца, то яны неабавязкова адносяцца да аднаго і таго ж сацыяльнага інстытута — яны могуць аб’ядноўвацца інстытуцыяй, як надбудовай над інстытутамі.

4. Для таго, каб прааналізаваць крыніцу, неабавязкова праводзіць над ёй шырокамаштабныя лагічныя аперацыі, дастаткова знайсці кропкі апоры, якія прыводзяць да аб’ектывацыі гэтай крыніцы.

5. „Неаб’ектыўныя” і „неверагодныя” крыніцы могуць даць досыць вялікую колькасць інфармацыі для канструявання гістарычнай рэальнасці.

6. Паняцце „рэканструкцыя” — некарэктнае ў дачыненні галоўнага аб’екта, на які накіравана гісторыя як навука — на асобу ў часе. З гэтай прычыны гістарычная рэальнасць будзе канструявацца (але не рэканструявацца) з тых фактаў, якія па-першае вядомы з іншых крыніц, па-другое — якія з’яўляюцца адлюстраваннем сацыяльна-палітычных поглядаў аўтараў і не супярэчаць іншым вышэйназваным крыніцам.

Згодна гэтым палажэнням, праца будзе пабудаваная наступным чынам: спачатку тэксты абодвух крыніц будуць прааналізаваныя на найменне ў іх агульнага сацыяльнага розуму, затым — на праявы персаніфікаванага асабістаснага розуму.

## 2. Гістарычная крыніца як праява агульнага сацыяльнага розуму

Мэтай дадзенай главы з’яўляецца вынаходжанне агульных рыс у крыніцах, створаных прадстаўнікамі двух розных сацыяльных груп. Гэтае „агульнае” дапаможа, па-першае, канструяваць гістарычную рэальнасць, па-другое — апісаць партрэты аўтараў.

Нягледзячы на тое, што паміж парафіянамі і святарствам існуе розніца, якая заключаецца перш за ўсё ў сацыяльным становішчы, узроўні адукацыі і некаторых іншых прыкметах сацыяльнай стратыфікацыі, абвяргаць найменне агульных рыс было б некарэктна.

Вызначаная праца, як ужо было сказана вышэй, датычыцца двух буйных наратыўных крыніц па гісторыі Лідчыны, аўтарамі якіх з’яў-

ляюцца ксёндз Гіпаліт Баярунец і жыхар Караль Ляськовіч адпаведна — асобы, якія на першы погляд не павінны мець нічога агульнага. Аднак і Г. Баярунец і К. Ляськовіч падчас стварэння тэкстаў былі людзьмі досыць сталага ўзросту, адпаведна станаўленне іх асоб прайшло ў перыяд знаходжання абазначанай лакацыі ў складзе Расійскай імперыі.

Аўтарам дадзенай працы неаднаразова апісвалася і падкрэслівалася сацыяльна-палітычнае становішча Рымска-каталіцкага касцёла на тэрыторыях Лідскага павета ў 1863-1914 гадах[8].

Калі фармуляваць праблему тэзісна, то сутнасць палітыкі Расійскай імперыі ў адносінах да рыма-каталікоў напрыканцы XIX — пачатку XX стст. можна сфармуляваць у наступных палажэннях:

— мэтанакіраваная палітыка ціску на каталіцкіх святароў;
— стварэнне і выкарыстанне заходнерусістамі штучнай апазіцыі „рускі — праваслаўны” супроць „паляк — каталік”;
— крымінальны пераслед самых палітычна актыўных святароў;
— спробы цывільных улад умешвацца ў парадак рымска-каталіцкіх набажэнстваў;
— прымусовае адчужэнне зямель рымска-каталіцкіх святароў, а таксама цэлых парафій;
— патрабаванні весці набажэнствы на дзяржаўнай мове, то-бок — расійскай — чужой і незразумелай большасці насельніцтва вызначанай тэрыторыі[9].

Улічваючы цесную сувязь паміж традыцыйным грамадствам і рэлігійнымі вучэннямі, усё гэтае не магло не стаць фактарам яшчэ больш цеснай сувязі цывільных рыма-каталікоў з касцёлам.

Пры гэтым святарства ішло на адкрытую канфрантацыю з уладамі. Прычым варта заўважыць, што падобныя канфрантацыйныя настроі мелі свае карані яшчэ з пачатку XX ст., калі неаднаразова ксяндзоў з Лідскага павета судзілі за распаўсюд антырускіх настрояў і прапольскага этнанацыяналізму.

[8] К. В. Сыцько, *Дакументы Рымска-каталіцкай царквы канец XIX — пачатак XX стст. у даследаваннях дынамікі развіцця Заходняй Беларусі*, [у:] *Молодость. Интеллект. Инициатива: ...* , с. 161-162; той жа, *Метрычныя кнігі Ішчалнскай парафіі як крыніца ведаў па гісторыі Лідчыны*, «Лідскі летапісец», 2012, № 4 (56), с. 29-42; той жа, *Сацыяльна-палітычнае становішча Рымска-каталіцкага касцёла ў Лідскім дэканаце ў канцы XIX — пачатку XX стст.*, «Лідскі летапісец», 2014, № 2 (66), с. 19-24.

[9] К. В. Сыцько, *Сацыяльна-палітычнае становішча Рымска-каталіцкага касцёла ў Лідскім дэканаце ў канцы XIX — пачатку XX стст.*, «Лідскі летапісец», 2014, № 2 (66), с. 21.

Так, напрыклад, у 1907-1909 гг. былі асуджаныя ксяндзы Вавёрскай і Міёрскай парафій Лідскага дэканата Іаан Сахарко і Вікенцій Барадзіч[10]. Аляксандр Бендзін, даследуючы праблемы талерантнасці гэтак званага Паўночна-Заходняга краю, адзначаў, што вавёрскі ксёндз Іаан Сахарко заклікаў да таго, каб „не пускаць праваслаўных святароў у хаты і гнаць іх”[11] і г. д. То-бок на справе бачныя прыклады рэлігійнай нецярпімасці.

Прымячальным будзе і яшчэ адзін прыклад — дзейнасць ксяндза Юзэфа Шкопа, які ў 1905-1919 гг. займаў пасаду ганаровага каноніка і дэкана Лідскага дэканата, а ў час стварэння крыніцы, якая разглядаецца ў дадзеным раздзеле, з'яўляўся пробашчам Ляцкай парафіі Лідскага дэканата. У Літоўскім дзяржаўным гістарычным архіве ў фондзе 694 захавалася справа пад нумарам 1210 „Личное дело кс. Шкопа Юзефа”[12]. Са справы вынікае, што дадзеная асоба выдзяляецца антыправаслаўнымі настроямі, у 1906 г. была асуджаная да хатняга арышту па артыкуле 178 „Уложений о наказаниях уголовных и исправительных”. Вядома, што дадзены артыкул распаўсюджваўся на тых, хто „...порицал веру православную...”[13]. Больш за тое, у 1911 г. Віленская духоўная рымска-каталіцкая кансісторыя разглядала скаргу селяніна І. Апановіча на ксяндза Ю. Шкопа аб „...обманном склонении к переходу из одной веры в другую...”[14]. Скарга гэтая, са спасылкай на тлумачэнні самога Ю. Шкопа, была адхіленая.

Пры гэтым Ю. Шкоп, паводле ўспамінаў мясцовых жыхароў, знаходзячыся на пасадзе Лідскага дэкана і пробашча Фарнага касцёла, забараняў сваім прыхаджанам мець з праваслаўнымі любыя стасункі, брацца з імі шлюбам, размаўляць і наогул нават вітацца, як з людзьмі, якія „...адракліся ад Госпада...”[15].

Нельга не прыгадаць таго факту, што канонік віленскі Караль Любянец, выехаўшы з Вільні, звольніўся з пасады інспектара Віленскай Духоўнай семінарыі для таго, каб праводзіць дзейнасць па пераманьванні праваслаўных у рымска-каталіцкую рэлігію па лацінскім звычаі ў вёсцы Мінойты Лідскага павета[16].

[10] А. Ю. Бендин, *Проблемы веротерпимости в Северо-Западном крае Российской империи (1863-1914 гг.)*, Минск 2010, с 422-423.

[11] Там жа, с. 424.

[12] Lietuvos valstybės istorijos archyvas / Літоўскі дзяржаўны гістарычны архіў, фонд 694, оп. 3, д. 1210, л. 14-17: Личное дело кс. Шкопа Юзефа 1887-1938 гг.

[13] Там жа, л. 14.

[14] Там жа, л. 16.

[15] В. В. Сливкин, *Лидский уезд. 1915 год. Органы власти и самоуправления*, [у:] *История города Лида*. [Электронны рэсурс] Рэжым доступу: www.lida.info/lidskij-uezd-1915-god-organy-vlasti-i-samoupravleniya [дата доступу: 16.02.2015].

[16] M. Moroz, *„Krynica”. Ideologia i przywódcy białoruskiego katolicyzmu*, Białystok 2001, s. 227.

Варта заўважыць, што падобныя прыклады з'яўляліся не выключэннем з правілаў, але самімі правіламі.

Для таго, каб растлумачыць распаўсюджаныя ў Лідскім павеце праявы рэлігійнай нецярпімасці, варта звярнуцца да англійскага даследчыка Э. Сміта, які сцвярджае, што протанацыяналізм будуецца на рэлігіі. Так, на думку палітолага: „Ад пурытанскага традыцыяналізму нацыяналізм бярэ істотнасць і глыбіню рэлігійных пачуццяў, якія ён спрабуе паставіць на службу нацыі..."[17].

Вышэйпрыведзеныя факты з'яўляюцца фактарамі кансалідацыі цывільных рыма-каталікоў са святарамі.

Скрозь творчасць рускага лінгвіста і філосафа мовы Міхаіла Бахціна праходзіць ідэя, якая заключаецца ў тым, што этычнай і эстэтычнай аб'ектывацыі патрэбная магутная кропка апоры па-за сабой, у некаторай сапраўды рэальнай моцы, знутры якой індывід змог бы ўбачыць сябе як іншага[18].

Для таго, каб асэнсаваць тэкст, зусім не важна рабіць поўны і разгорнуты яго аналіз — дастаткова знайсці вызначаную кропку.

Пры гэтым вызначанай кропкай апоры будзе зусім не пастаноўка пытання аб уласных учынках індывіда, яна можа праявіцца ў безасабовых абсалютных каштоўнасна-сэнсавых паняццях — прывязцы сваёй асобы да пэўнай нацыі, культуры, мікралакацыі, рэлігійнай абшчыны ў гістарычным іх зрэзе. Пры гэтым паняцце „гістарычнасць" у дадзеным выпадку будзе з'яўляцца не навукова неабходным мінімумам працы (або думкі, ці выказвання), але алюзіяй на традыцыйнасць і імператыўнасць абазначанага абсалюта.

Гістарычнае ў гэтым выпадку становіцца страчаным рэферэнтам, то-бок міфам[19]. Гэты пераход з гістарычнага ў міфічнае і з міфічнага ў гістарычнае перш за ўсё звязаны са станам аўтара любой гістарычнай крыніцы які, прыводзячы факты, з'яўляецца ананімам і спрабуе не паказваць сваёй ролі. Аднак на падсумленным узроўні ён удзельнічае ў сістэме наратыву, няхай і ў ананімнай форме. Фактычна, аўтар любой крыніцы — гэта суб'ект апавядання, які адначасова валодае магчымасцю пераходу са стану суб'екта ў стан рэцыпіента, рэцыпіента — у суб'екта, дыскурсу — у гісторыю, гісторыі — у дыскурс[20]. Іншымі словамі, аўтар выконвае сацыяльную замову тых колаў на-

[17] Э. Сміт, *Нацыяналізм у дваццатым стагоддзі*, с. 49.

[18] М. М. Бахтин, *Эстетика словесного творчества*, сост. С. Г. Бочаров, Москва 1979, с. 25.

[19] Ж. Бодрийяр, *Симулякры и симуляция*, Тула 2013, с. 69.

[20] Ю. Кристева, *Имманентный диалогизм предметного, или исторического слова*, [у:] *Французская семиотика — от структурализма к постструктурализму: сборник статей*, сост. и пер. Г. К. Косиков, Москва 2000, с. 439.

сельніцтва, да якіх ён ставіцца з пэўнай прыязнасцю — да такіх жа, выхаваных у падобным да яго сацыяльным асяродку. Калі казаць языком французскага постструктураліста Юліі Крысцевай, то аўтар ёсць тэкст, а тэкст ёсць аўтар. Таму, калі суб'ект выхаваны ў пэўнай сацыяльна-ідэалагічнай сістэме, то можна прама адсачыць пераход гістарычнага факта, ім апісанага ў аб'екце (то-бок тэксце), у стан міфа як адлюстравання гістарычнай рэальнасці, які знаходзіцца ў стане, падвешаным паміж рэлігійным (тут варта не забываць, што існуюць і цывільныя рэлігіі філасофскага, альбо філосафа-палітычнага зместу) і навуковым адлюстраваннем гістарычных працэсаў.

Сам працэс міфалагізацыі фактаў пачынаецца ўласна з таго, што любая навука (у тым ліку і гістарычная), з'яўляецца дзіцём асэнсаванага ўпарадкавання архаічнай думкі і сама займаецца асэнсаваннем рэчаў. Сама па сабе гістарычная навука абмяжоўвае асэнсаванне аб'ектам, не прыводзячы яго да самаасэнсавання (у гэтым і парадокс гісторыі як навукі — яна можа пазнаваць суб'ект любой сацыяльнай аперацыі, толькі лічачы яго аб'ектам)[21]. Менавіта на гэтым месцы і ўзнікае канфлікт паміж успрыняццем факта як навуковай гістарычнай рэальнасці і факта як калянавуковай рэчаіснасці. Канфлікт гэтых фактаў варта адсачыць на хронатыпічным пераходзе рэальнасці ў міф. Міфалагізацыя пачынаецца падчас пераходу ўласнагістарычных фактаў у побыт.

Калі разглядзець „Легенды і міфы Старажытнай Грэцыі" Мікалая Куна[22], то можна пабачыць, што кожны з міфаў у аснове сваёй мае пэўны канфлікт паміж „дабром" і „злом", пры гэтым прадстаўнікі „дабра" — гэта заўжды прадстаўнікі дзяржавы-поліса, у якой гэты міф узнік, альбо багі, якім старажытныя грэкі пакланяліся. То-бок, ствараецца калектыўнае „я", якое можна асэнсаваць з пэўнай нацыяй і адначасова з аўтарам міфа.

Калі разглядаць абраныя ў вызначанай працы крыніцы па гісторыі Рымска-каталіцкага касцёла на Лідчыне, то ў іх ясна праглядаецца сувязь з міфам.

Міфічнае мысленне, для якога характэрна атаясамленне слова з рэччу, нераздзельнасць ідэальнага і рэальнага, па сутнасці роднаснае ідэалогіі: абодва заснаваныя на веры, і менавіта праз міфы ідэалогія афармляецца ды замацоўваецца ва ўяўленнях грамадства[23].

[21] Ж. Батай, *Проклятая доля*, Москва 2003, с. 120.

[22] Н. А. Кун, *Легенды и мифы Древней Греции.* [Электронны рэсурс] Рэжым доступу: http://www.e-reading.club/book.php?book=31594 [дата доступу: 10.11.2015].

[23] Г. М. Сагановіч, *Палітычны міф у гістарычнай памяці і гісторыяапісанні,* «Беларускі Гістарычны Агляд», 2004, сш. 10, с. 205.

Часам гэтае мысленне набывае рысы палітызаванасці і нацыяналізаванасці, якое мы можам пабачыць у мемуарах, летапісах, а таксама, ускосна, у афіцыйных крыніцах.

Ханс-Георг Гадамер бачыў першапачатак рымскай хрысціянскай традыцыі ў старажытнагрэцкім разуменні шляху „ад пачатку да метафізікі”[24].

Менавіта ў гэтым бачыцца паварот, які пазней здзейсніла хрысціянства, калі яно, адштурхоўваючыся ад спадчыны грэкаў, сфарміравала сваё, уласнае вучэнне аб веры. То-бок бачыцца трансфармацыя старажытнагрэцкага пачатку ў кантэксце Рымска-каталіцкай царквы[25].

Тут варта зрабіць адступленне і раскрыць сутнасць абодвух прац, напісаных паміж 1931 і 1939 гадамі. Праца Г. Баярунца „Запісы аб Крыжы і капліцы ў Цвермах”[26] з’яўляецца некаторай хронікай падзей, якія адбываліся ў Лідскім дэканаце, а калі быць больш дакладным — у Лідзе і Цвермах, пры гэтым крыніцы прысутны налёт мемуарнасці.

Праца К. Ляськовіча, у сваю чаргу, атрымала назву „Хроніка”[27] і з’яўляецца перапрацоўкай аўтарам дакументаў Ішчалнскай парафіі Лідскага дэканата. Адпаведна тэрытарыяльная прывязка ў яе іншая — вёска Ішчална і яе ваколіцы. У некаторы момант апавяданне, таксама як і праца Г. Баярунца, пераходзіць у стан мемуарнай.

Натуральна, настроі, якія панавалі ў колах рыма-каталікоў не маглі не паўплываць на светапогляды аўтараў і агульную накіраванасць крыніц. Для таго, каб адсачыць штучныя міфалагізацыйныя апазіцыі ў тэкстах абодвух крыніц, быў праведзены кантэнт-аналіз, які выявіў, што найбольш негатыўныя ацэнкі ў К. Ляськовіча і Г. Баярунца атрымалі назоўнікі „маскоўскі”, „маскальскі”, „рускі”, „расійскі”, „габрэйскі” „жыдоўскі”.

Так, сведчыць „Kronica” К. Ляськовіча: у 1831 годзе для Рымска-каталіцкага касцёла пачаліся цяжкія часы праз „праслед маскоўскі” (...ciężkimi warunkami, jakie nastały dla kościoła w epoce prześladowania moskiewskiego...)[28]. Тут варта заўважыць, што „праслед” быў не „дзяржаўны”, не, напрыклад „паліцэйскі”, а менавіта „маскоўскі”. Нейтральна афарбаванае слова „маскоўскі” ў спалучэнні з маючым апрыёры негатыўную афарбоўку словам „праслед” набывае ўласцівыя гэтай лексічнай адзінцы негатыўныя рысы.

[24] Х. Г. Гадамер, *Истина и метод*, Москва 1998, с. 306.

[25] Там жа.

[26] H. Bojaruniec, Zapisy o Krzyżu i kaplicy w Ćwiermach, Lida: з дакументаў Лідскага Фарнага касцёла Узвышэння Святога Крыжа, 1936, 50 с.

[27] Архіў касцёла Найсвяцейшай Троіцы в. Ішчална, спр. б/н. Kronica, 1936 г.

[28] Там жа, арк. 34.

Для таго, каб зразумець дадзены выраз у прысутнай яму дынамічнасці, варта прааналізаваць выбраны з тэксту сказ.

У дадзенай крыніцы вельмі істотна адсачыць храналагічную паслядоўнасць, якая складае храналагічны код. Адсылка да пэўных датаванняў у гэтым выпадку з'яўляецца спробай, з аднаго боку, стварэння пэўнай лінейнай храналогіі ў апавяданні і, з іншага, гаворыць пра ролю канкрэтнай даты або перыяду для таго, аб чым апавядаецца (у дадзеным выпадку — аб парафіі Ішчалнскай). Знак „насталі" з'яўляецца апавяшчэннем аб нечым, чаго раней не было, але ў пэўны перыяд (у 1831 годзе), гэта з'явілася і ўяўляе сабой уводзіны ў канкрэтны змястоўны на гэтае „нешта" перыяд. „Маскоўскі пераслед" з'яўляецца сэнсавым цэнтрам дадзенай лексемы і праз выкарыстанне геаграфічнага коду (маскоўскі) транслюе архетып „свае — чужыя"[29].

Гэтае супрацьстаянне ў сістэме „свае — чужыя" нарастае па ходзе развіцця падзей. Так, у 1844 г., паводле аўтара, касцельны маёнтак быў канфіскаваны „...расійскім урадам..."[30] — зноўку ж не „дзяржаўным", не „цывільным", але „расійскім". То-бок, фактычна ўрад Расійскай імперыі прызнаецца як чужы, слова „расійскі" дэ-факта супрацьпастаўляецца польскасці, польскай мове, Рымска-каталіцкаму касцёлу, у якога быў канфіскаваны маёнтак.

У пачатку XX ст. у Ішчалне, як адзначае аўтар, не было школ. Намаганнямі цывільнага ўрада ў Агародніках і Скрыбаўцах было адчыненае па школе[31]. У гэтым выпадку К. Ляськовіч надзяляе школы прыметнікам „русіфікацыйныя"[32] — то-бок, стварае негатыўную афарбоўку працэсу навучання, мае на ўвазе, што гэтыя школы накіраваныя на тое, каб русіфікаваць моладзь.

Варта заўважыць, што настолькі негатыўныя адносіны праглядаюцца ў працы толькі да „расійскага ўрада", „маскоўскага ўрада", „русіфікацыі", „русчызны" і г.д. Так, нават факт вынясення з касцёла срэбных рэчаў атрадамі паўстанцаў на чале з А. Хлявінскім напрыканцы XVIII ст., мае афарбоўку зусім нейтральную ў адносінах да падзеі[33], але факт адкрыцця школ у тым месцы, у якім іх не было адразу ўспрымаецца негатыўна, бо яны „русіфікацыйныя".

Падобнае прыхаванае негатыўнае стаўленне да рускай нацыі хавае ў сабе сфармаванае пакаленнямі продкаў аўтараў каштоўнасна-сэнсавае ядро. Такім чынам, у нейтральна афарбаваным, з аднаго боку, тэксце, ясна праглядаецца палітычны кантэкст і ствараецца ўмоўная канфрантацыя.

29 Р. Барт, *Избранные работы. Семиотика. Поэтика*, Москва 1989, с. 426.
30 Архіў касцёла Найсвяцейшай Троіцы в. Ішчална, спр. б/н. Kronica, 1936 г., арк. 3.
31 Там жа, арк. 5.
32 Там жа, арк. 6.

То-бок, як вынікае з вышэйнапісанага, ментальныя асаблівасці сацыяльнага асяродку наклалі свой адбітак на ўспрыманне светапогляду аўтарам. Аднак, нягледзячы на прыхаваны русафобскі выклік, аўтар спрабуе быць аб’ектыўным, не даючы падзеям сваёй уласнай ацэнкі.

Так, варта параўнаць дадзеную хроніку Ішчалнскай парафіі з іншым наратыўным дакументам, які атрымаў назву „Запісы аб Крыжы і капліцы ў Цвермах” і быў створаны лідскім дэканам ксяндзом Гіпалітам Баярунцом у 1936 годзе[34]. У дадзенай крыніцы даецца кароткае апісанне дзейнасці Рымска-каталіцкай царквы ва ўсіх парафіях Лідскага дэканата, але асаблівы ўпор робіцца на капліцу ў Цвермах. Нельга не заўважыць, што Г. Баярунец, афіцыйная асоба, дэкан і канонік ганаровы, адкрыта выражае свае нацыянальныя і ідэалагічныя погляды праз прызму рэлігійнай дзейнасці.

Так, ксёндз Баярунец адзначае, што Ліда была цалкам „...жыдоўскім горадам...”[35] і „...жыды чынілі яму ўсялякія перашкоды...”[36], а таксама што Таварыства грамадскай дапамогі, заснаванае ім, „...заснавала таксама прадпрыемства кройкі і шыцця ў касцельным доме пры вуліцы імя Сувальскага палка № 6, якое мела дзяўчынак да 30, вучыла іх працы і прыспасаблівала да самастойнага жыцця, вырываючы моладзь з жыдоўскіх рук...”, прычым падчас душапастырства ў Лідзе, як адзначае сам ксёндз Баярунец, „...жыды чынілі мне ўсялякія перашкоды... Падчас шэсця, дзякуй Богу, ніводнай жыдоўскай палаткі не было...”. Пра насельніцтва неяўрэйскага паходжання ён успамінае: „...У Францішканскай парафіі мае парафіянкі размаўлялі па-руску, беларуску... Выходзілі замуж за праваслаўных і бралі шлюб у царкве... Вялікім болем лягло мне гэтае на сэрца. Гэтаму ўсяму абвясціў бітву пастаянную непрымірымую. На кожным кроку змагаўся супраць русіфікацыі, нядзелямі перад службай на працягу гадзіны праводзіў катэхізацыю дзяцей і моладзі і заўсёды падкрэсліваў польскасць і патрыятызм...”[37].

Аднак, нягледзячы на такія выказванні, якія распальвалі рэлігійную і нацыянальную нянавісць, ксёндз Г. Баярунец вельмі шанаваўся мясцовым насельніцтвам і атрымаць права на тое, каб ён, напрыклад, правёў шлюбную цырымонію, было вялікім гонарам[38].

[33] Там жа, арк. 4.

[34] H. Bojaruniec, Zapisy o Krzyżu i kaplicy w Ćwiermach, Lida: з дакументаў Лідскага Фарнага касцёла Узвышэння Святога Крыжа, 1936, 50 с.

[35] Там жа, с. 10.

[36] Там жа, с. 12.

[37] Там жа, с. 9.

[38] І. Стасевіч-Ясюкова, *Лідзянка. Пра Марыю Стасевіч — маю маці — успаміны*, пераклад з польскай К. В. Сыцько, Н. А. Шышкіна, «Лідскі летапісец», 2012, № 4 (60), с. 58.

Ці ёсць храналагічны код у наратыве Г. Баярунца? Натуральна. Але калі ў працы К. Ляськовіча храналагічны код сімвалізуе безасабовасць, то Г. Баярунец прывязвае часовыя межы цалкам да сваёй асобы.

Такім чынам, кампазіцыйнай кропкай апоры абодвух тэкстаў з'яўляецца негатыўнае апісанне вышэйназваных нацыянальных груп.

Ва ўсім гэтым наяўна праглядаецца ілакуцыя выказвання (у выглядзе тэксту) — пры гэтым, камунікатыўная ўсталёўка тых, хто гаворыць (то-бок аўтараў тэксту), з'яўляючыся асабістай, становіцца адначасова безасабовай і выражае інтарэсы пэўных лакальных груп насельніцтва.

Пры гэтым, абедзве крыніцы яднае тое, што негатыўныя эмоцыі выплёскваюцца толькі ў пэўным месцы, своеасаблівай кропцы кіпення, пасля чаго знікаюць да канца апавядання. У гэтым выпадку адбываецца канфлікт апісання ўласнагістарычнага факта і яго адбітку ў сістэме сацыяльнай памяці, пры гэтым межы паміж двума гэтымі ўзроўнямі адлюстравання гістарычнай рэальнасці дастаткова сцёртыя, што само па сабе зацвярджае найменне ў працы пэўнага кода, у аснове якога ляжыць ідэалагічная традыцыя прамога супрацьпастаўлення, што прама наштурхоўвае на асацыяцыі са стаўшым вядомым, дзякуючы Карло Гінзбургу, італьянскім млынаром Менокіо, які жыў у XVI ст. Роўна так, як яго гіпатэтычныя рэмінісцэнцыі былі простым перакладам на мову народнага матэрыялізму філасофскага наратыва[39], гэтак і тэксты абодвух наратываў поўныя матэрыялізму, апісваючы філасофскі канцэпт нацыі, мяжуючы з агрэсіўным экстрэмізмам — у іх адсутнічае аргументацыя негатыву, але прысутнічае пабуджэнне да яго[40] — перад намі паўстае новая рэлігія, падобная той самай рэлігіі селяніна Менокіо, непадобнай на тое, што казалі святары са сваіх амвонаў[41].

Адчуваючы гістарычную бездапаможнасць, аўтары пачынаюць канвертаваць рэфлексіўную мову, сыходзячы ў дыскурс штодзённасці — толькі тады пачынаецца апісанне злачынстваў супроць таго, на каго накіраваная гісторыя як навука — супроць асобы ў часе, менавіта з гэтай прычыны аўтары дэкларуюць новую мэту сваёй працы — адыходзячы ад публіцыстычных негатыўна афарбаваных выразаў і слоў. Яны пачынаюць апісваць падзеі, выціскаючы негатыўныя для іх назоўнікі „маскоўскі", „расійскі" і г.д. з апавядання наогул. Такім чынам, вышэйназванае калектыўнае „я" выражаецца праз стварэнне ў тэксце штучнай апазіцыі паміж „сваімі" і „чужымі".

39 К. Гинзбург, *Сыр и черви*, с. 152.
40 Р. Барт, *Избранные работы. Семиотика. Поэтика*, с. 121.
41 К. Гинзбург, *Сыр и черви*, с. 153.

Далейшы аналіз тэкстаў паказаў, што агульнага паміж імі (апроч відавочных тэрытарыяльных прывязак) больш няма.

Такім чынам, варта казаць аб тым, што нягледзячы на прыналежнасць да розных слаёў насельніцтва, Г. Баярунец і К. Ляськовіч з'яўляліся носьбітамі адных і тых жа ідэй, пабудаваных на рэлігійным протанацыяналізме, які бярэ свой пачатак у рэальнай сітуацыі — палітыцы ўрада Расійскай імперыі ў дачыненні да рыма-каталікоў і, з цягам часу становіцца каляміфічнай рэальнасцю, якую ні адзін з аўтараў не можа патлумачыць аргументавана, але, з'яўляючыся носьбітамі пэўных архетыпаў, кожны з іх працягвае ідэалагічную лінію іншага, ствараючы адначасова бар'ер паміж „дабром" (то-бок сваёй нацыяй) і „злом" (то-бок чужой нацыяй).

Дадзены вывад падвяргаўся б аспрэчванню ў выпадку адсутнасці звестак аб канфрантацыі рыма-каталікоў з цывільным урадам Расійскай імперыі, аднак у некаторых працах аўтара вызначанага тэксту[42], а таксама ў працах іншых аўтараў[43] аналізуюцца і падрабязна апісваюцца ўсе канфліктныя моманты, што дае падставы казаць аб тым, што „Хроніка" і „Запісы аб Крыжы і капліцы ў Цвермах" — гэта адлюстраванне агульных грамадскіх настрояў насельніцтва Лідскага павета (фармаванне ментальнасных чыннікаў якога прыпала на часы знаходжання Лідчыны ў складзе Расійскай імперыі).

### 3. Праява аўтара ў крыніцы. Розныя мадэлі абазначэння сябе

Следам за выражэннем нейкіх агульных рыс ментальнасных дэфармацый, прысутных большай частцы насельніцтва дэканата (і павета адпаведна), у тэксце немалаважна вынайсці і прыватныя рысы, якія характарызавалі б аўтараў. Аўтар у гэтым выпадку прадстаўляецца не проста як безасабовая няпэўнасць, але як суб'ект дзеяння (то-бок тэксту).

[42] К. В. Сыцько, *Дакументы Рымска-каталіцкай царквы канец XIX — пачатак XX стст. у даследаваннях дынамікі развіцця Заходняй Беларусі*, [у:] *Молодость. Интеллект. Инициатива...*, с. 161-162; той жа, *Метрычныя кнігі Ішчалнскай парафіі як крыніца ведаў па гісторыі Лідчыны*, «Лідскі летапісец», 2012, № 4 (56), с. 29-42; той жа, *Сацыяльна-палітычнае становішча Рымска-каталіцкага касцёла ў Лідскім дэканаце ў канцы XIX — пачатку XX стст.*, «Лідскі летапісец», 2014, № 2 (66), с. 19-24.

[43] *Канфесіі на Беларусі (к. XVIII — XX ст.)*, В. В. Грыгор'ева, У. М. Завальнюк, У. І. Навіцкі, А. М. Філатава, Мінск 1998, 340 с.; А. Ф. Смалянчук, *Каталікі Беларусі і царская ўлада ў другой палове XIX ст.*, «Białoruskie Zeszyty Historyczne», 2000, t. 14, s. 105-114; В. В. Яноўская, *Моўнае пытанне ў Рымска-каталіцкім касцёле Беларусі (60-я гг. XIX — пачатак XX ст.): славянская и літоўская гістарыяграфія*, [у:] *Российские і славянские исследования: научный сборник*, вып. 2, редкол.: А. П. Сальков, О. А. Яновский (отв. редакторы) [и др.], Минск 2007, с. 152-162.

Прыватнае „я” ў дадзеным выпадку, на думку аўтараў вызначанай працы, будзе заключацца ў мэце напісання наратыву. Трэба памятаць, што кожнаму такому суб’екту ўласцівыя сацыяльныя вымярэнні, якія, па сутнасці, канструююць эмацыйна-сэнсавую дамінанту сацыяльнай групы, ствараючы імператыўны пасыл для кожнага яе асобнага прадстаўніка праз пэўныя лінгвістычныя адзінкі (сказы, выказванні, тэксты).

Вызначаны пасыл яскрава праяўляецца ў дзеяннях рыма-каталікоў пачатку XX ст. Так, да прыкладу, аднолькавы тып паводзін у адных і тых жа сацыяльна-палітычных абставінах праглядаецца праз дакументы асабістых спраў, дзённікаў і біяграфій ксяндзоў, якія займаліся душапастырствам на Лідчыне ў вызначаны перыяд часу, напрыклад Юлія-Алёіза Эллерта, Юзафа Шкопа, Людвіга Балабана, Вікенція Барадзіча, Іаана Сахарко, Караля Любянца, Гіпаліта Баярунца і інш.

Гістарычна Рымска-каталіцкая царква на Беларусі, у сілу ўплыву на розныя колы насельніцтва і, як след, паспяховай папулярызацыі ў шырокіх масах ідэі манізму ў сістэме „парафіяне — святарства — Госпад”, стала пэўным вобразам у народнай культуры. Карло Гінзбург, тым не менш, называў такія народныя вобразы саладжавымі і стэрэатыпнымі[44].

Тут варта заўважыць, што ў дадзеным выпадку вобраз з’яўляецца ідэалагізаванай знакавай сістэмай, адлюстраваннем праз прызму светаўяўленняў соцыуму знешне бачнага станоўчага (альбо адмоўнага) вопыту зносін парафіян з касцёлам. Галоўным перадатчыкам, некаторым „рэкламным” знакам вызначанага сацыяльнага інстытута з’яўляўся парафіяльны ксёндз. Праз механічнае счытванне яго паводзін і нараджаўся вобраз. Нетранзытыўнае чытанне такога знака (яго слоў, паводзін і г.д.) і нараджае сістэму задаволенасці, аднак узнікае праблема — у такой сістэме пастаянна працуе фактар адсутнасці рэальнасці, то-бок фрустрацыя[45].

Аднак вышэйнапісанае ў большай меры прымяняльна да паняцця калектыўнага розуму.

Якім чынам знайсці „асабістае” ў аналізаваных тэкстах? Трэба знайсці пасыл — бо, вядома, што абедзве крыніцы ствараліся не як афіцыйныя дакументы, але як прадукт выказвальнасці выказвання-падзеі, пераасэнсаваны праз унутранны вопыт[46].

Пасля аналізу першага тэксту было ўстаноўлена, што К. Ляськовіч, з’яўляючыся прыхаджанінам, па сутнасці паўтарае вышэйсказанае. Так, у жыццяапісаннях ксяндзоў заўважаныя некаторыя прыёмы,

[44] К. Гинзбург, *Сыр и черви*, с. 35.

[45] Ж. Бодрийяр, *Символический обмен и смерть*, Москва 2000, с. 81.

блізкія да агіяграфічных — кожны са святароў апісваецца толькі са станоўчага боку. Пры гэтым кожнае апісанне ў некаторай ступені клішэйнае і пабудаванае па адной структуры: „пачатак душапастырства ў парафіі — найбольш важныя ўчынкі, здзейсненыя пробашчам — найбольш важныя падзеі, якія адбыліся ў касцёле — заканчэнне душапастырства”. Прычым гэтыя ўчынкі выражаюцца, звычайна, у гаспадарчай дзейнасці — у аздабленні касцёла, усталяванні новага каменнага плота вакол могілак і г.д. Сама асоба губляе рысы індывідуальнасці і набывае іх толькі са зменай аўтара наратыву — апошнія жыццяапісанні зроблены менавіта з упорам на біяграфію святароў[47].

На справе ж, нягледзячы на досыць агіяграфічнае, безасабовае апісанне, назіраецца рэзкае выдзяленне асобы (пробашча) з яе сацыяльнага асяродку, бо, напрыклад, асобы вікарыяў і ксяндзоў-магістраў у хроніцы неасветленыя так шырока, хоць яны і займаюць важнае месца ў структуры кіравання парафіяй. Гэта адбываецца з тых прычын, што аўтар крыніцы, прыводзячы факты, з’яўляецца ананімам і спрабуе не паказваць сваёй ролі. Аднак на падсумленным узроўні ён удзельнічае ў сістэме наратыву, няхай і ў ананімнай форме. Фактычна, аўтар у дадзенай хроніцы — гэта суб’ект апавядання, які адначасова валодае магчымасцю пераходу са стану суб’екта ў стан рэцыпіента, рэцыпіента — у суб’екта, дыскурсу — у гісторыю, гісторыі — у дыскурс[48]. Іншымі словамі, аўтар выконвае сацыяльную замову тых колаў насельніцтва парафіі, да якіх ён ставіцца з пэўнай прыязнасцю — ксяндзоў, а таксама той часткі грамадства, якая выхоўвалася ў рэлігійным асяродку. Выхаваны ў рэлігійным грамадстве, аўтар становіцца часткай дыскурсу гэтага грамадства. Вядома, што аўтар жыў у перыяд існавання II Рэчы Паспалітай. Раней, у перыяд Расійскай імперыі, з 1861 г. у парафіі скасаваная пасада вікарыя[49], пасада ксяндза-магістра знікла ў апошнія дзесяцігоддзі існавання Рэчы Паспалітай[50], таму адзіным абсалютам становіцца ксёндз, як перадатчык імператыўных каштоўнасцей. У гэтым выпадку асобы вікарыя і магістра выпадаюць з апавядання як сімвалы, якія не маюць фактычнага адлюстравання ў жыццёвым вопыце К. Ляськовіча.

46 М. Фуко, *Мысль о внешнем*, [у:] *Современные стратегии культурологических исследований: Труды Института европейских культур*, вып. 2, отв. ред. Т. А. Филиппова, Москва 2008, с. 331.

47 Архіў касцёла Найсвяцейшай Троіцы в. Ішчална, спр. б/н. Kronica, 1936 г., арк. 29-46.

48 Ю. Кристева, *Имманентный диалогизм предметного, или исторического слова*, [у:] *Французская семиотика — от структурализма к постструктурализму...*, с. 439.

49 Архіў касцёла Найсвяцейшай Троіцы в. Ішчална, спр. б/н. Kronica, 1936 г., арк. 5.

50 Там жа, арк. 4.

Асабістае „я” К. Ляськовіча, як ужо было сказана, будзе праглядацца ў мэце напісання тэксту, якая не можа не цікавіць. Прычым тут узнікае адразу некалькі пытанняў — пытанне патрэбы ў існаванні такой хронікі як гістарычнага наратыву і патрэбы ў існаванні такой хронікі як дакумента, які прадубліраваў іншыя крыніцы з архіва касцёла. Па-першае — хроніка дубліруе найбольш важныя, на кропку гледжання аўтара, падзеі з дакументаў Ішчалнскага дакументазбору, па-другое — Рымска-каталіцкі касцёл меў сілу і ўплыў падчас ІІ Рэчы Паспалітай, таму аб’ектыўных прычын капіраваць дадзеныя аб гэтых падзеях, напрыклад, з-за пагроз знішчэння дакументаў, проста не было.

Калі разважаць лагічна, то ўзгадваецца той факт, што найбольш уплывовых і выбітных прадстаўнікоў мясцовай шляхты і духавенства хавалі на прыкасцельных могілках, астатніх — на могілках за вёскай[51]. Рымска-каталіцкая царква, у сваю чаргу, ва ўсе часы адстойвала сваю аўтэнтычнасць і была заклапочаная захаваннем дакументаў, якія б пацвярджалі гістарызм яе існавання на землях Беларусі[52]. Такім чынам, напісанне касцельнай хронікі магло быць своеасаблівай сакральнай ахвярай на карысць Ішчалнскай парафіі ў адказ на магчымасць быць пахаваным побач з касцёлам.

У спісе пахаванняў, якія захаваліся на дадзены момант каля касцёла, пад нумарам пяць ёсць запіс „Караль Ляськовіч, нарадзіўся 26.05.1858, памёр 13.11.1937. Разам з ім у адной труне пахаваная яго стрыечная сястра Марыя Ляськовіч...”[53].

Улічваючы, што пахаванняў на прыкасцельнай тэрыторыі няшмат — на сённяшні момант іх захавалася толькі дзевяць, трэба думаць, што факт пахавання побач з касцёлам з’яўляўся вялікім гонарам, таму Ляськовічы, як асобы веруючыя, маглі пайсці на сакральны абмен. Аднак, ці будзе з’яўляцца рэлігійнасць рухавіком памкнення, ці ў гэтым выпадку фактарам будзе магчымасць атрымаць гонар? Смерць у гэтым выпадку — не што іншае, як сацыяльная дэмаркацыйная лінія, якая аддзяляе не толькі мёртвых ад жывых[54], але і мёртвых ад мёртвых, падкрэсліваючы важны сацыяльны статус тых, хто пахаваны на прыкасцельнай тэрыторыі.

51 К. В. Сыцько, *Метрычныя кнігі Ішчалнскай парафіі як крыніца ведаў па гісторыі Лідчыны*, «Лідскі летапісец», 2012, № 4 (56), с. 35.

52 К. В. Сыцько, *Дакументы Рымска-каталіцкай царквы канец XIX — пачатак XX стст. у даследаваннях дынамікі развіцця Заходняй Беларусі*, [у:] *Молодость. Интеллект. Инициатива...*, с. 162.

53 Архіў касцёла Найсвяцейшай Троіцы в. Ішчална, спр. б/н. Kronica, 1936 г., арк. 47.

54 Ж. Бодрийяр, *Символический обмен и смерть*, с. 232.

Такім чынам, мажлівай мэтай стварэння дакумента з'яўляецца магчымасць атрымаць гонар быць пахаваным побач з касцёлам. З дадзенай мэты лагічна выцякае структура крыніцы — праз тэкст прагглядаецца аўтарскі замысел ахапіць як мага больш гісторыі парафіі, даць яе храналагічны агляд як нечага агульнага, пасля апусціцца ніжэй па іерархічным узроўні — да касцёла Найсвяцейшай Троіцы, апісаўшы яго ў адпаведнасці з храналогіяй, пасля чаго апусціцца яшчэ ніжэй і апісаць наступную адзінку — кожнага асобнага ксяндза-пробашча, пасля чаго прывесці ўвесь абшар, на якім распаўсюджвалася душапастырства вызначаных пробашчаў.

Некаторая безасабовасць тэксту фактычна абазначае, што наступіў пэўны момант, у якім нешта распавядаецца дзеля самога апавядання, але не дзеля прамога ўплыву на рэчаіснасць, то-бок, у канечным ліку, па-за нейкай функцыяй, апроч сімвалічнай рэчаіснасці як такой — голас адрываецца ад крыніцы і для аўтара надыходзіць смерць і пачынаецца пісьмо[55]. У такім выпадку, калі аўтар быў ліквідаваны, абсалютна пустымі становяцца спробы на „расшыфроўку" тэксту, то-бок сэнсу яго крытыкі, па сутнасці, няма[56].

Менавіта з гэтай прычыны любыя спробы крытыкі вызначанай крыніцы будуць бессэнсоўнымі таму, што аўтар у ёй — перадатчык безасабовай мовы і існуе ён толькі ў форме бязмоўя, то-бок становіцца сэнсавай адзінкай па-за межамі тэксту[57], а значыцца — крыніцы проста перадае факт (пры гэтым абсалютна няважна, ці меў такі факт месца ў гістарычнай рэчаіснасці). Заўжды варта памятаць аб тым, аб чым забываюцца некаторыя айчынныя даследчыкі: гістарычная навука накіраваная перш за ўсё не на падзею (выражаную ў факце), але на асобу (якая гэты факт нарадзіла). Пры гэтым нараджэнне факта — неабавязкова яго адпавяданне рэальнасці, ён можа быць народжаны ў гіперрэальным парадку як вышэйшы абсалютны сімулякр.

Калі казаць аб наступным тэксце, „Запісах аб Крыжы і капліцы ў Цвермах", то тут асоба аўтара выражаная больш дакладна. Памеры вызначанай працы не дазваляюць падрабязна распісаць усе персаніфікацыйныя моманты, таму варта абмежавацца прыкладамі. Так, вядома, што Г. Баярунец аднаўляў крыж у Цвермах і пабудаваў там капліцу. Натуральна, што ён быў зацікаўлены ў тым, каб вызначаны крыж і капліца былі шырока прадстаўленыя грамадскасці.

[55] Р. Барт, *Избранные работы. Семиотика. Поэтика*, с. 385.
[56] Там жа, с. 388.
[57] М. Фуко, *Рождение клиники*, Москва 1998, с. 153.

**Ганна Міхальчук**
(Мінск)

## Новы спіс агульнадзяржаўнага летапісання Вялікага Княства Літоўскага, Рускага і Жамойцкага і яго суадносіны з „Хронікай Быхаўца”

У фондах Нацыянальнага архіва ў Кракаве (сямейны архіў Сангушкаў, фонд № 637, архіўная справа ARS 144)[1] знаходзіцца кірылічны рукапіс, каштоўнасць якога для беларускага крыніцазнаўства выключная. На старонках рукапісу прадстаўлены фрагмент летапіснага тэксту (страчаны пачатак і канец), які не толькі на структурным, але і на тэксталагічным узроўні амаль даслоўна супадае з адпаведным фрагментам „Хронікі Быхаўца” — летапісным помнікам, які да нядаўняга часу лічыўся адзіным захаваным спісам поўнага зводу агульнадзяржаўнага летапісання ВКЛ[2]. Супадае, прычым, і з так званымі „ўнікальнымі” месцамі „Хронікі”, адпаведнікаў якім у іншых вядомых на сёння спісах агульнадзяржаўнага беларуска-літоўскага летапісання няма. Дадзеная акалічнасць дае падставы меркаваць, што ў кракаўскім архіве знаходзіцца фрагмент аднаго са спісаў поўнага зводу агульнадзяржаўнага летапісання ВКЛ[3].

Адкрыццё новага спісу належыць літоўскаму даследчыку Гедымінасу Лясмайцісу. Падчас навуковай працы ў кракаўскім архіве ў красавіку 2011 г. ён звярнуў увагу на рукапіс, падобны да летапіснага помніка. Даследчык падзяліўся сваімі здагадкамі, а таксама зробленай ім копіяй матэрыялаў з літоўскім філолагам-летапісазнаўцам Кястуцісам Гудмантасам, які не толькі пацвердзіў здагадкі Г. Лясмайціса, але пасля камандзіроўкі ў Кракаў падрыхтаваў і выдаў навуковы артыкул, прысвечаны новай знаходцы[4]. Першае палеаграфічнае апі-

[1] Archiwum Narodowe w Krakowie, Oddział I na Wawelu, Archiwum Sanguszków, zesp. nr 637, sygn. ARS 144.

[2] Рукапіс „Хронікі Быхаўца” быў адкрыты настаўнікам Віленскай гімназіі Іпалітам Клімашэўскім падчас працы ў прыватнай бібліятэцы Аляксандра Быхаўца (маёнтак Магілёўцы Ваўкавыскага павета) у пачатку 30-х гадоў XIX ст. Назву рукапіс атрымаў паводле прозвішча апошняга ўладальніка — Быхаўца. Тэкст „Хронікі” ўяўляе сабой транслітарацыю больш ранняга кірылічнага тэксту, выкананую з выкарыстаннем польскай лацінкі. Прыкладна ў 50-я гады XIX ст., пасля публікацыі „Хронікі” Тэадорам Нарбутам у выданні „Pomniki do dziejów litewskich” (1846 г.), яе рукапіс бясследна знік.

[3] Цяжкасці больш дакладнай класіфікацыі новага спісу абумоўлены перш за ўсё стратай пачатка і канца рукапісу і немагчымасцю ў сувязі гэтым дакладна вызначыць памеры і склад помніка.

[4] K. Gudmantas, *Lietuvos metrašèio Vavelio nuorašas (fragmentas)*, „Senoji Lietuvos literatūra”, 2012, kn. 34, p. 121-151.

санне летапіснага фрагмента, такім чынам, і ўвядзенне яго ў навуковы ўжытак належыць К. Гудмантасу. Гэты ж даследчык даў назву новаму помніку — Вавельскі спіс, зазначыўшы, што ў якасці альтэрнатыўнай маглі б быць выкарыстаны варыянты Сангушкаў спіс альбо Кракаўскі спіс[5].

Кіруючыся ўласнымі высновамі і назіраннямі адносна новага спісу, мы згаджаемся з К. Гудмантасам, што найбольш лагічнай назвай для адкрытага летапіснага помніка з'яўляецца назва па месцы знаходжання — Вавельскі спіс. Варыянт „Сангушкаў" падаецца менш дарэчным, паколькі летапісны помнік мог належаць князям Астрожскім, чый архіў пасля выгасання роду перайшоў у спадчыну Сангушкам[6]. Назва Кракаўскі спіс, у сваю чаргу, ужо выкарыстоўваецца ў дачыненні да спіса, які захоўваецца ў бібліятэцы Польскай акадэміі навук у Кракаве (аддзел рукапісаў, № 281) і ўяўляе сабой адну з копій „Хронікі Літоўскай і Жамойцкай"[7].

Не выключана таксама і верагоднасць таго, што знойдзены рукапіс з'яўляецца фрагментам спісу з бібліятэкі князёў Заслаўскіх-Астрожскіх, якім карыстаўся гісторык Мацей Стрыйкоўскі пры напісанні сваёй „Хронікі Польскай, Літоўскай, Жамойцкай і ўсёй Русі"[8] (так званы „Летапіс князёў Заслаўскіх" альбо „Заслаўскі летапіс"[9]). Аднак паколькі Вавельскі спіс уяўляе сабой толькі летапісны фрагмент са страчаным пачаткам (а менавіта пачатак летапісу прыводзіць у сваёй „Хроніцы" М. Стрыйкоўскі), меркаванне аб ідэнтычнасці знаходкі са спісам, якім карыстаўся М. Стрыйкоўскі, застаецца гіпатэтычным, а сама гіпотэза патрабуе асобнага грунтоўнага даследавання, хоць пытанне суадносін Вавельскага спісу са спісам з бібліятэкі князёў Заслаўскіх-Астрожскіх яшчэ будзе закранута ў дадзеным артыкуле.

Нягледзячы на тое, што Вавельскі спіс быў адкрыты ў 2011 г., а ў 2012 г. уведзены К. Гудмантасам у навуковы ўжытак, у беларускім

5 Там жа, с. 136.

6 J. Marszalska, *Biblioteka i archiwum Sanguszków. Zarys dziejów*, Tarnów 2000, s. 83; K. Syta, *Dzieje archiwów książąt Sanguszków*, „Miscellanea Historico-Archivistica", Warszawa 2000, t. XI, s. 105-106.

7 Н. Улащик, *Предисловие к 32 тому Полного собрания русских летописей*, [в:] *Полное собрание русских летописей*, Москва 1975, т. 32, с. 7.

8 M. Stryjkowski, *Która przed tym nigdy świata nie widziała Kronika Polska, Litewska, Żmodzka y Wszystkiey Rusi ... przez Macieja Osostewiciusa Stryjkowskiego...*, Królewiec 1582.

9 Назвы „Летапіс князёў Заслаўскіх" альбо „Заслаўскі летапіс" у аднясенні да спісу, якім карыстаўся М. Стрыйкоўскі і тэкст якога гісторык прыводзіць на старонках сваёй хронікі, увёў у навуковы ўжытак Ігнат Даніловіч. И. Данилович, *О литовских летописях*, „Журнал Министерства Народного просвещения", 1840, № 6, с. 70-113.

крыніцазнаўстве дадзены летапіс застаецца малавядомым, і адпаведна — недаследаваным.

У чэрвені мінулага года намі была здзейснена навуковая камандзіроўка ў Нацыянальны архіў у Кракаве з мэтай азнаямлення з Вавельскім спісам і матэрыяламі адзінкі захавання спісу. Папярэднія вынікі даследавання, а таксама расчытаны тэкст летапіснага ўрыўка прадстаўлены ў дадзенай публікацыі. Грунтоўнае тэксталагічнае супастаўленне Вавельскага спісу са спісам „Хроніка Быхаўца" і выяўленне суадносін паміж двума гэтымі помнікамі; вызначэнне месца Вавельскага спісу ў корпусе помнікаў агульнадзяржаўнага беларуска-літоўскага летапісання; высвятленне крыніц летапісу, а таксама яго рэцэпцыя ў іншых літаратурных помніках будуць прадстаўлены ў асобных публікацыях.

Доўгі час Вавельскі спіс захоўваўся ў фондах архіва без ідэнтыфікацыі. Інфармацыі пра гэты помнік няма і ў архіўным вопісе[10]. Больш за тое, у апісанні зместу архіўнай справы ARS144 зазначаны толькі два з дзесяці наяўных там дакументаў — копіі каралеўскіх лістоў і карэспандэнцыя кароннага канцлера Яна Замойскага. Між тым склад архіўнай справы, да якой належыць летапісны фрагмент, значна большы за пазначаны ў вопісе. Тут захоўваюцца:

1. копіі каралеўскіх лістоў па рэгуляванні самых розных спраў Кіеўскага, Валынскага і Брацлаўскага ваяводстваў за 1567-1589 гады (Kopie listów królewskich, normujących najrozmaitsze sprawy wojew.: Kijowskiego, Wołyńskiego, Bracławskiego 1567-1589). Лісты злучаны ў падшыўку. Пагінацыя аркушаў непаслядоўная: нягледзячы на тое, што першы аркуш пазначаны нумарам 79, а апошні — 103адв., у сярэдзіне падшыўкі прысутнічаюць больш раннія і больш познія нумары старонак[11];
2. копіі карэспандэнцыі, адрасаванай кароннаму канцлеру Яну Замойскаму ад сваякоў за 1579-1581 гады (Kopie listów do Jana Zamojskiego, kanclerza koronnego od rodzinnych osób, арк. 105-233адв.);
3. выпіскі з надрукаванай у 1611 г. у Кракаве хронікі Аляксандра Гваніні з апісаннем рускай зямлі („Wyjątki z Kroniki Aleksandra Gwagnina, opisującej ziemię Ruską drukowanej w 1611 roku w Krakowie", арк. 235-257адв.);

[10] Inwentarz zespołu (zbioru) Archiwum Sanguszków, zespół nr 637: Archiwum Rodzinne Sanguszków, opracowali Bronisław Gorczak, Alfred Piottucha-Kublicki, Zygmunt Abrachamowicz, Adam Homecki, Franciszek Zacny, Beata Nykiel i inni w XIX-XX w., wpisali do bazy danych Aleksander Korolewicz, Wiesław Filipczyk i Zbigniew Dyrdoń 13.04.2012, Kraków, s. 1290-1291.

[11] Непаслядоўнасць пагінацыі ў падшыўцы сведчыць пра тое, што лісты падчас сшыўкі ўжо былі прапагінаваныя, але той, хто іх злучаў у падшыўку, не ўлічыў пагінацыі.

4. „Краявіды Падолля, Валыні і Украіны” (Krajobrazy Podola, Wołynia i Ukrainy, арк. 259-261адв.);
5. „Гістарычнае і тапаграфічнае апісанне горада Астрога” (Opisanie historyczne i topograficzne miasta Ostroga, арк. 263-269адв.);
6. французскамоўныя выпіскі прыродазнаўчага характару (арк. 271-281адв.);
7. адасоблены кірылічны аркуш (арк. 283-283адв.);
8. фрагмент летапісу (старонкі 285-336, пранумаравана кожная старонка);
9. яшчэ адзін адасоблены кірылічны аркуш (арк. 337-337адв.).

Часавы прамежак, да якога належаць прадстаўленыя ў архіўнай справе матэрыялы, ахоплівае XVI-XIX стагоддзі. З усіх матэрыялаў толькі ў летапісным фрагменце прадстаўлена пагінацыя кожнай старонкі. Адасобленыя кірылічныя аркушы, нягледзячы на блізкую да летапісу пагінацыю, нічога супольнага з гэтым помнікам не маюць.

Склад архіўнай справы, як вынікае з прыведзенага пераліку, разнародны, і ён мала чым можа дапамагчы ў высвятленні пытанняў атрыбуцыі летапіснага фрагмента, яго гісторыі. Пра тое, што спробы ідэнтыфікацыі летапіснага ўрыўка былі, сведчыць польскамоўны надпіс „Co to?” („Што гэта?”), змешчаны на тытульнай старонцы падвойнага сшыткавага аркуша, якім агорнуты ўрывак летапісу. Улічваючы вялікі аб’ём архіва Сангушкаў і яго няпростую гісторыю, неаднаразовыя змены месца захавання архіўных матэрыялаў[12], нельга выключаць, што страчаная частка Вавельскага спісу таксама захоўваецца неідэнтыфікаванай у адной з архіўных спраў, чакаючы свайго даследчыка.

* * *

Аб’ём захаванага ў Вавельскім спісе летапіснага фрагмента складае 26 аркушаў, альбо 52 старонкі (285-336). Нумарацыя пастаронкавая. Рукапіс у чацвёрку. Аркушы змацаваны тоўстым шнурком, прасунутым праз 4 бакавыя адтуліны. Папера шчыльная, жаўтаватая, з відавочнымі плямамі ад падцёкаў і цвілі. На паперы прадстаўлены два тыпы папяровых знакаў — „тры цагляныя вежы ў коле” (сустракаецца на старонках 285-294) і „літара W пад каронай (карона без перлінаў і дугі)” (старонкі 295-336). Папера з вадзянымі знакамі першага тыпу

[12] Больш падрабязна аб гісторыі архіва ў працах: K. Syta, *Dzieje archiwów książąt Sanguszków*, „Miscellanea Historico-Archivistica”, Warszawa 2000, t. XI, s. 97-110; W. Filipczyk, *Archiwalia sanguszkowskie w zasobach Archiwum Państwowego w Krakowie. Zasoby i stan obecny*, [w:] *Wokół Sanguszków: dzieje — sztuka — kultura*, Tarnów 2007, s. 15-27; J. Marszalska, *Biblioteka i archiwum Sanguszków. Zarys dziejów*, Tarnów 2000.

была распаўсюджана на тэрыторыі Каралеўскай Прусіі і датуецца 70-мі гадамі XVI стагоддзя[13]. Другі тып вадзянога знака характэрны для паперы XVI ст., найбольш распаўсюджанай на паўднёва-заходніх абшарах Польскага Каралеўства (Вроцлаў, Легніца, Аполе, Глогаў, Аляснiца, Тшэбніца і інш.)[14]. Папера з вадзяным знакам „літара W пад каронай" доўгі час выраблялася на папяровай фабрыцы ў Вроцлаве і была шырока распаўсюджана[15]. У архівах Беларусі папера з падобным вадзяным знакам сустракаецца на дакументах са Слоніма, датаваных 80-90-мі гадамі XVI стагоддзя[16].

Такім чынам, аналіз папяровых знакаў Вавельскага спісу дазваляе датаваць стварэнне рукапісу другой паловай XVI ст., прыкладна 70-90-мі гадамі.

Краі старонак Вавельскага спісу моцна пашкоджаныя, абарваныя. На палях таксама шматлікія сляды падцёкаў, якія сведчаць пра тое, што рукапіс не заўжды знаходзіўся ў належных для захавання ўмовах. Самі палі рукапісу дастаткова шырокія: унутранае, бліжэйшае да сшыўкі ≈ 2,3 см; вонкавае ≈ 3 см, верхняе ≈ 1,2 см; ніжняе ≈ 2,7 см. Дзякуючы шырокім палям, нават на старонках з моцна абарваны-

13 W. Budka, *Papiernie w Polsce XVI wieku. Prace Franciszka Piekosińskiego, Jana Ptaśnika, Kazimierza Piekarskiego. Powtórnie wydał i uzupełnił Włodzimierz Budka*, [w:] *Antologia prac historyka papiernictwa Włodzimierza Budki*, Łódź — Duszniki-Zdrój 2009, s. 256 (выявы № 262, 263); J. Siniarska-Czaplicka, *Filigrany papierni położonych na obszarze Rzeczypospolitej Polskiej od początku XVI do połowy XVIII wieku*, Wrocław — Warszawa — Kraków 1969, s. 36 (выявы № 970, 971); *Wasserzeichendatenbank „Piccard-Online", Bestand J 340*, Landesarchiv Baden-Württemberg. [Электронны рэсурс] Рэжым доступу: http://www.piccard-online.de/struktur.php?klassi=003&anzeigeKlassi=003.021&Id=100152&;sprache=&weitere=struktur [дата доступу: 08.09.2015] (выявы № 106018-106033); *BO-Briquet Online (v.1-2009-07-14)*, Österreichische Akademie der Wissenschaften. [Электронны рэсурс] Рэжым доступу: http://www.ksbm.oeaw.ac.at/_scripts/php/loadRepWmark.php?rep=briquet&refnr=2328&lang=de [дата доступу: 19.09.2015] (выява № 2328). Паводле Ядвігі Сінярскай-Чапліцкай, вадзяны знак „тры цагляныя вежы ў коле" адносіцца да аднаго з варыянтаў філіграні „Герб Торуня" і паходзіць з папяровай фабрыкі ў Прускай Лонцы (Pruska Łąka), адкрытай у 1551 г. Філігрань з гербам Торуня сустракаецца з 1565 г. (J. Siniarska-Czaplicka, *Filigrany papierni...*, s. 19).

14 C. M. Briquet, *Les Filigranes: Dictionaire historique des margues du papier, dès leur apparition vers 1282 jusqu'en 1600*, Paris 1907, t. III, p. 486 (выявы № 9158, 9159); *Wasserzeichendatenbank „Piccard-Online", Bestand J 340*, Landesarchiv Baden-Württemberg. [Электронны рэсурс] Рэжым доступу: http://www.piccard-online.de/struktur.php?klassi=025.018.005&anzeigeKlassi=025.018.005.001&Id=102063&sprache=en&weitere=struktur [дата доступу: 08.09.2015] (выявы № 29765-29848).

15 *Філіграні архіўных дакументаў Беларусі XVI — пачатку XX ст.*, склад. В. С. Пазднякоў, Мінск 2013, с. 35.

16 Там жа, с. 76 (выявы 419B, 421B).

мі краямі тэкст летапісу застаўся амаль не пашкоджаным. Іншыя пазнакі, апрача нумарацыі старонак, на палях адсутнічаюць. Пагінацыя старонак прадстаўлена простым алоўкам у крайнім верхнім куце. На некаторых аркушах прысутнічаюць сляды старой кірылічнай пагінацыі — унізе 295 старонкі пазначана літара s̄ (6), унізе 311 старонкі — літара з̄ (7). Прысутнасць на старонках рукапісу лічбавай кірылічнай сістэмы сведчыць пра тое, што захаваны фрагмент рукапісу некалі ўваходзіў у склад больш вялікага кодэксу, а значыць з’яўляецца часткай большага па аб’ёме летапіснага тэксту[17].

Тэкст рукапісу напісаны ўмераным скорапісам, почыркам, характэрным для рукапісных помнікаў ВКЛ XVI ст. Такі тып почырку часта сустракаецца ў дакументах 60-70-х гадоў XVI ст. Чарнілы карычневыя, месцамі моцна выцвілыя. Чырвоны колер у тэксце адсутнічае. Ініцыяльныя літары сустракаюцца нячаста, амаль без аздаблення — яны вылучаны памерам і больш тлустым напісаннем (напрыклад, на с. 298, 299, 331). На старонках 325 і 333 ініцыяльныя літары аздоблены найбольш выразна, але таксама дастаткова сціпла.

Тэкст у Вавельскім спісе мае выгляд суцэльнага апавядання, без падзелу на раздзелы. Большасць тэксту напісана почыркам адной рукі, аднак прысутнічаюць тэкставыя фрагменты, напісаныя адрознымі ад асноўнага тэксту почыркамі (напрыклад, першыя тры радкі на с. 285, радкі 10-14 на с. 296; канец 8 радка — 23 радок на с. 297). Маюць месца выпадкі, калі адрозным почыркам напісаны толькі паасобныя фразы ў радку: „в садꙋ бискупъи*мъ*” (с. 298), „в Ли*θ*лѧнты з малыми слуга|ми” (с. 308), „Кня*з* же Янушъ, | зят єго, забыл добра” (с. 309), „ти*ж*ба буд<ет> | в ꙋлица*х*” (с. 319), „поведа|ла, и*ж* «я ꙋво *с*не видела а*н*гела Боже*г*(о)” (с. 319).

Наяўнасць некалькіх разнавіднасцей почырку сведчыць аб тым, што да перапісвання рукапісу мелі дачыненне некалькі асоб. Прычым, паколькі адрозным почыркам напісаны паасобныя фразы ў сказе і паасобныя фрагменты, якія таксама часцей за ўсё пачынаюцца і заканчваюцца з сярэдзіны сказаў, можна меркаваць, што асноўны перапісчык адмыслова пакідаў у тэксце лакуны, калі меў праблемы

[17] Помнікі летапісання фактычна ніколі не існавалі ў адасобленым выглядзе і заўсёды з’яўляліся часткай аб’ёмных гісторыка-літаратурных зборнікаў, якія апрача летапіснага тэксту ўтрымлівалі ў сваім складзе шэраг разнажанравых літаратурных матэрыялаў (рыцарскія і гістарычныя раманы, гістарыяграфічныя выпіскі, сказанні, апісанні выпраў, пасланні і прадмовы, сямейныя запісы і інш.). Выходзячы з захаванага фрагмента рукапісу, на жаль, немагчыма вызначыць не толькі аб’ём летапіснага тэксту, да якога належыць фрагмент, але таксама аб’ём, характар і прызначэнне кодэксу, у склад якога гэты летапісны тэкст уваходзіў.

з расчытаннем пратографа, а іншыя (ва ўстаўках прадстаўлены некалькі відаў почырку) дапісвалі сваёй рукой нерасчытаныя папярэднікам фразы. Тэкст Вавельскага спісу, такім чынам, уяўляе сабой надзвычай карысны і цікавы матэрыял па вывучэнні працэсу стварэння рукапісных помнікаў XVI ст., функцыі і ролі ў ім перапісчыка.

Звяртае на сябе ўвагу таксама неадпаведнае свайму прызначэнню выкарыстанне кустодаў на старонках рукапісу. У старых рукапісных кнігах кустоды выкарыстоўваліся для пазнакі паслядоўнасці старонак: вынесенае асобным радком апошняе слова папярэдняй старонкі дублявалася ў пачатку наступнай старонкі. Такім чынам забяспечвалася сувязь паміж старонкамі, што прадухіляла іх ад зблытання. У кракаўскім рукапісе кустоды сустракаюцца даволі часта (старонкі 289, 290, 291, 292, 293, 294, 295, 296, 298, 304, 305, 308, 310, 312, 313, 314, 315, 326, 328, 332). Іх прызначэнне, аднак, не адпавядае традыцыйнаму — ні ў адным выпадку вынесенае слова апошняга радка не дублюецца на пачатку наступнай старонкі. Больш за тое, у пераважнай большасці выпадкаў на старонках рукапісу выносіцца не цэлае слова ці першыя склады слова, з якога пачынаецца наступная старонка, але канцавыя склады папярэдняга радка („землю wсе*в*|ши”, с. 289; „кн(я)зь велики*и* Ѡ*л*|кги*р*дь” (290); „и ста|роста” (291); „кн(я)зь велики*и* Ѡ*л*кгирдь сожа|лися” (295); „велики*и* кн(я)зь ли*т*(о)*в*ски*и* и руски*и* и жо|мои*т*ски*и*” (296), „стали про|ти*в*” (310) і інш.). Наяўныя ў рукапісе кустоды, мяркуем, з’яўляюцца прыкладам фармальнага, без укладання першапачатковага значэння і функцый, пераймання традыцыйных тэхнік афармлення рукапіснай кнігі, у прыватнасці, помнікаў летапісання.

У цэлым спосаб напісання і афармленне тэксту пакідае ўражанне, што тэкст летапісу перапісваўся для прыватнага карыстання, перапісчыкам, які не асабліва дбаў пра адмысловае аздабленне тэксту, не заўжды мог расчытаць пратограф, быў няўважлівым і рабіў апіскі, што, у сваю чаргу, паўплывала на неаднароднасць тэкставага фармату летапісу.

* * *

Калі аналізаваць змест Вавельскага спісу і паслядоўнасць выкладу захаваных у ім летапісных матэрыялаў, то варта адзначыць, што структурна і па аб’ёме летапісны фрагмент блізкі да адпаведнага фрагмента „Хронікі Быхаўца”.

Пачынаецца Вавельскі спіс аповедам пра змову князёў Альгерда і Кейстута супраць іх брата вялікага князя Яўнуты, абрываецца — аповедам пра паход князёў Вітаўта і Скіргайлы на Віцебск супраць князя Свідрыгайлы. Пра тое, што ў склад страчанай часткі рукапісу ўваходзіла таксама і легендарная частка летапіснай гісторыі ВКЛ (ад

Палямона да Гедыміна) можна меркаваць толькі гіпатэтычна. Склад і аб'ём заключнай часткі помніка невядомыя[18].

Пасля звестак пра захоп вялікакняскай улады Альгердам і Кейстутам у тэксце Вавельскага спісу апавядаецца пра разгром татараў на Сініх Водах; пра дзейнасць князёў Карыятавічаў па ўпарадкаванні Падольскай зямлі (у тым ліку стварэнне гарадоў Смотрыч, Бакота, Камянец); пра паход вялікага князя Альгерда супраць падольскага князя Фёдара Карыятавіча; пра хрост вялікага князя Альгерда; пра хрост Гаштольда Гаштольдавіча; пра паход Альгерда на Маскву; пра забойства 14-ці віленскіх францысканцаў, закатаваных язычнікамі; пра барацьбу Ягайлы супраць вялікага князя Кейстута; пра ўцёкі Вітаўта з вязніцы і яго барацьбу супраць Ягайлы; пра ваенны паход вялікага князя Ягайлы на польскія землі і выкраданне рэліквіі святога крыжа (геральдычная легенда „Дубна"); пра сватанне і жаніцьбу князя Ягайлы з польскай каралевай Ядвігай; пра сватанне князёўны Сафіі, дачкі Вітаўта, з маскоўскім князем Васіліем Дзмітрыевічам; пра наезды на Літву Андрэя Полацкага; пра бітву Святаслава Смаленскага з войскамі ВКЛ. А таксама — пра няўдалы паход князя Вітаўта на Вільню; пра выправу дачкі Вітаўта да Масквы; пра барацьбу князёў Вітаўта і Скіргайлы за вялікакняскі сталец у Вільні; пра атрыманне Вітаўтам вялікакняскага стальца; пра вайну вялікага князя Вітаўта супраць князя Карыбута Альгердавіча; пра забойства князем Свідрыгайлам віцебскага старасты Фёдара Вясны.

Тэксталагічны аналіз захаванага ў Вавельскім спісе фрагмента летапісу дае падставы для высноў пра тое, што Вавельскі спіс з'яўляецца копіяй больш ранняга летапіснага спісу. Аб гэтым сведчаць наяўныя ў тэксце пропускі, апіскі, выпраўленні, паўторныя напісанні некаторых слоў, а таксама наяўнасць у сказах паасобных фраз, напісаных почыркам адрознай рукі. Натуральна, што частка недакладнасцей магла ўзыходзіць да пратографа, з якога перапісваўся Вавельскі спіс, і сёння немагчыма дакладна размежаваць, што патрапіла ў тэкст з папярэдняй крыніцы, а што было ўстаўлена перапісчыкам Вавельскага спісу ў працэсе працы над помнікам.

Прывядзём асобныя паказальныя прыклады, якія сведчаць на карысць таго, што захаваны ў летапісным фрагменце тэкст з'яўляецца копіяй з больш ранняга, кірылічнага спісу. Як ужо адзначалася, пра гэта сведчыць **паўторнае напісанне слоў, памылкі, апіскі, выпраўленні, пропускі:**

[18] Асабліва каштоўнай для даследавання з'яўлялася б інфармацыя пра наяўнасць у складзе гэтага спісу летапісных матэрыялаў, якія прысутнічаюць у заключнай частцы „Хронікі Быхаўца", прысвечанай падзеям XV — пачатку XVI ст., звязаных са Слуцкам, Наваградкам, Капылём. У такім выпадку можна было б рабіць высновы пра тое, наколькі распаўсюджанай у летапісных помніках была гэтая частка.

- „И | кн(я)зь велики*и* Кестуте*и* ре*к* брату | брату своему, великому кн(я)зю Ѡ*л*кги*р*|ду” (с. 285);
- „И кн(я)зь Ко*с*те*н*ти*н* на кгле*и*те*х* къ королю | по*л*скому е*здил,* и не хоте*л* и не хоте*л* кь | его вере при*с*тупити” (с. 289);
- „и по *всим* городомъ кн(я)зь велики*и* Ѡ*л*|кги*р*дь |291| свои ста*р*о*с*ты свои старо*с*ты по|сажа*л*” (с. 290-291);
- „И кн(я)зь велики*и* Витолть | с кн(я)зе*мъ* |313| велики*м* Ски*р*кга*и*ло*м* приеду*т* к о*т*цу свое*м*<ꙋ>, | велико*мꙋ* кн(я)зю Ке*с*ту*т*ю, въ во*и*ско, и пра*в*ду | ѿцу своему да*л* ѿ велико*г*(о) кн(я)зя Якго*и*ла, | и кн(я)зь велики*и* Ски*р*кга*и*ло, и кн(я)зь вели|ки*и* Ски*р*кга*и*ло пра*в*ду да*л* ѿ велико*г*(о) кн(я)зя | и ѿ себе”[19] (с. 312-313);
- „И ви*л*не*в*цы, по*д*лугъ ѡбычая старого по|га*н*ского, по*т*каю*т* кн(я)зя великого Якго*и*ла съ жонами и *з* де*т*ми пере*д* место, пе*с*ни | поючи и в долони поючи, и в долони хва|лу даючи великому кн(я)зю, и*ж* такое |319| звыте*ж*ство зы*с*ка*л*” (с. 318-319). Для параўнання, у спісе „Хронікі Быхаўца” ў гэтым месцы больш правільна: „pieśni poiuczy, y w dołoni biiuczy, chwału daiuczy welikomu kniaziu”[20];
- „Ви*л*не*в*цы же тогда не по|далися ему, занеже были дали ему пра*в*|ду королю Якго*и*лу и Ски*р*кга*и*лу” (с. 329). Выкарыстаны паўтор слова „ему”, які прыводзіць да нелагічнасці сказа. Для параўнання ў „Хроніцы Быхаўца” ў гэтым жа месцы: „Wilnewcy że tohda ne podalisia iemu, zaneże byli dali prawdu, korolu Jagoułu i Skirgayłu”[21];
- „и полочане возрадовалися ве*л*ми, и клик*|*нули ра*т*, и люди ра*т*ныя ѿступили |308| ѿ Ски*р*га*и*ла” (у рукапісе слова „ѿпустили” перапраўлена перапісчыкам на „ѿступили”) (с. 307-308);
- „«Если кн(я)зь | велики*и* Витолтъ буде*т* на*д* ни*м* до*л*же*и* седети, | та*к*, ка*к* и на*д* ѿцо*мъ* его ___». И дорадили ему та*к*” (с. 315). У прыведзеным прыкладзе бачны пропуск, які робіць сказ не да канца зразумелым. Параўнанне з адпаведным фрагментам „Хронікі Быхаўца” паказвае, што прапушчана лексема „будет”, а таксама ма-

[19] Мяркуем, што паўтор слоў у Вавельскім спісе абумоўлены наяўнасцю ў яго пратографе кустодаў, якія, натуральна, паўтараліся ў канцы і на пачатку старонкі і якія перапісчык па неабачлівасці мог пераносіць у сваю копію.

[20] *Pomniki do dziejów litewskich pod względem historycznym, dyplomatycznym, geograficznym, statystycznym, obyczajowym, archeograficznym i t.p. z różnych rękopisnych lub rzadkich wydań dziejopisów, tudzież dyplomatów i dalszych zabytków przeszłości odkrytych, w archiwach królewskich, tudzież w archiwach ryskich i innych krajowych. Zebrane przez Teodora Narbutta z ryciną i facsimile*, Wilno 1846, s. 28.

[21] *Pomniki do dziejów litewskich*..., s. 31.

юць месца некаторыя іншыя розначытанні — адрозныя формы прыназоўніка з займеннікам, розныя формы спражэння дзеяслова „дорадити” („iesli kniaź weliki Witolt, budet pod nimi dołżey sedety, tak kak y nad otcem ieho, budet, i doradyła || iemu tak” [c. 26]);

- „И то*г*ды *ж* кн(я)зь велики*и* | Вито*лт* ѡ*х*ры*с*ти*л*ся и веру ри*м*скую приня*л*, | и дали имя ему Алекса*н*де*р*” (у рукапісе прыназоўнік „ꙋ” перапраўлены перапісчыкам на „и”) (с. 324);
- „И по*и*де таки кн(я)зь велики*и* Вито*лт* къ горо|ду Ви*л*ни со *в*сими силами, и ѡступи*т* город Ви*л*ню, и начне*т* добывати Крывого города, | и пушками бити, и взя*л* горо*д* Кривы*и*. А лю*д* сво*и* | застави ꙋ Высоко*м* городе тогда сущу[22], и не | пустиша в горо*д* кн(я)зя Ски*р*кга*и*ла, и кн(я)зь же ве|лики*и* Вито*лт*, взе*м*ши Крывы*и* городъ и землю зъ|воевавши, и паки возрати*л*ся в Не*м*цы” (с. 331). У прыведзеным прыкладзе бачна, як няправільнае расчытанне фразы са значэннем „а лядская застава у Высоком городе тогда сущу и не пустиша князя Скиркгаила” (у „Хроніцы Быхаўца” ў гэтым месцы „a Ladskoyże zostałsia u wysokom tohda horode suszczy, y nepustysza w horod kniazia Skirgaiła”[23]) прывяло да з’яўлення ў тэксце нелагічнай фразы „а люд свои застави у высоком городе тогда сущу и не пустиша в город князя Скиркгаила”. На карысць таго, што на месцы падкрэсленай фразы павінен быць выраз са значэннем „лядская”, а не „люд свой” сведчыць, з аднаго боку, прысутнае ў самім Вавельскім спісе паведамленне пра „лядскага” старасту, якога кароль Ягайла прызначыў на кіраванне Вільняй[24], з іншага — параўнанне гэтага месца з адпаведнымі месцамі ў іншых спісах агульнадзяржаўнага беларуска-літоўскага летапісання, дзе таксама прысутнічаюць выразы „лядская застава”[25];
- „и пришли | к городу Пскову, ѡни же велику чес*т* воздали |332|

[22] У „Хроніцы Быхаўца” адваротны парадак слоў — „tohda horode suszczy”, с. 31

[23] *Pomniki do dziejów litewskich...*, s. 31

[24] „кн(я)зь велики*и* Ски*р*кга*и*ло по*и*де въ свою <землю> | Ли*т*(о)*в*скую, и начал кн(я)жити въ Троце*х*. К Ви<лни>; | при*с*ла*л* коро*л* Якго*и*ло старосту своего ля<*д*>|ского” (с. 329). У „Хроніцы Быхаўца” — „kniaź weliki Skirgaiło, poyde wo swoiu zemlu Litowskuiu, y naczał kniażyty wo Trocech, a k Wilni prysłał korol Jagoyło, starostu swoiego Ladckoho” (c. 31).

[25] Напрыклад, у Віленскім спісе „А лядскои заставѣ, тогда бывъшу [у Вы]соком городе” (с. 89); у Слуцкім спісе „А лядскои заставе, у Высокомь городе тогда сущу” (с. 71); у спісе Рачынскага „была застава лядская на Вышшом городѣ” (с. 158); у Румянцаўскім спісе „была зостава лядская на Высоком городѣ” (с. 206); у Еўраінаўскім спісе „застава была лядцкая а на Высоком городе” (с. 227). Прыклады прыводзяцца па выданні *Полное собрание русских летописей*, Москва 1980, т. 35.

<и>*м*, и проводили и*х*, че*ст* велику и*м* воздали и че*ст*но | их ѿпровадили до Велико*г*о Новагорода.” (с. 331-332). Для параўнання ў адпаведным месцы „Хронікі Быхаўца” „y pryszli k Pernowu y k horodu Pskowu. Oniże weliku czest’ wozdali im, y prowodyli ich czestno, do welikoho Nowohoroda”[26].

Той факт, што Вавельскі спіс уяўляе сабой копію больш ранняга кірылічнага пратографа, з’яўляецца дадатковым доказам (на падставе крыніц, а не тэарэтычных здагадак) гіпотэзы, што поўны звод агульнадзяржаўнага летапісання ВКЛ у сярэдзіне XVI ст. ужо існаваў[27].

Абмежаваная колькасць захаваных спісаў поўнага зводу — толькі два, а таксама няпоўны склад Вавельскага спісу не дазваляюць дакладна высветліць пытанне ўзаемаадносін пратографаў гэтых спісаў. Сыходзячы з розначытанняў Вавельскага спісу і „Хронікі Быхаўца”, на якіх мы не будзем асобна спыняцца ў межах дадзенага артыкула, але існаванне якіх бачна нават з вышэйпрыведзеных прыкладаў, можна выказаць меркаванне, што тэкст Вавельскага спісу не з’яўляецца пратографам адпаведнага фрагмента „Хронікі Быхаўца”, на што звяртае ўвагу таксама і К. Гудмантас[28]. Разам з тым наяўны матэрыял дае ўсе падставы сцвярджаць, што Вавельскі спіс і „Хроніка Быхаўца” з’яўляюцца спісамі аднаго твора і адлюстроўваюць адзін архетып.

[26] *Pomniki do dziejów litewskich...*, s. 31.

[27] Згодна з Мечыславам Ючасам, поўны звод агульнадзяржаўнага летапісання быў створаны ў 30-я гады XVI ст. М. А. Ючас, *Хроника Быховца*, [у:] *Летописи и хроники. 1973. Посвящен памяти А. Н. Насонова*, Москва 1974, с. 230. Такога ж меркавання прытрымліваецца і Вячаслаў Чамярыцкі. В. Чамярыцкі, *Да гісторыі фарміравання трэцяга беларуска-літоўскага летапіснага зводу — „Хронікі Быхаўца”*, [у:] *Беларуская пісьмовая спадчына ў кантэксце еўрапейскага культурна-гістарычнага працэсу XI-XIX стагоддзяў: вытокі, традыцыі, уплывы*, рэдкал. А. Бразгуноў і інш., Мінск 2010, с. 51-60. Літоўская даследчыца Надзея Марозава датуе стварэнне „Хронікі Быхаўца” 1542-(43) годам. N. Morozowa, *Lietuvos Didžiosios Kunigaikštystės metraščių Kalbos ir tekstologijos problemos: Bychovco kronika. Daktaro disertatios santrauka Humanitariniai mokslai, filologia, baltų ir slavų kalbos ir literatūra* (H590), Vilnius 2001, s. 17.

[28] У сваіх высновах даследчык абапіраецца на паасобных тэксталагічна-зместавых неадпаведнасцях спісаў: прысутнасць у „Хроніцы Быхаўца” даты пры апісанні бітвы на Сініх Водах, у той час, як у Вавельскім спісе выкарыстана фраза „И пото*м*...”; адсутнасць у Вавельскім спісе даты смерці вялікага князя Альгерда, у той час як у „Хроніцы Быхаўца” дата прысутнічае; пазначэнне рознымі імёнамі кума Кейстута — імя „Гуностым” у Вавельскім спісе і „Liebestyn” у „Хроніцы Быхаўца”; адрознае напісанне паасобных імёнаў — „Ива*н* Жадевидъ”, „Ви*н*кго*н*т Андре*и*” (Вавельскі спіс); „Iwan Żedewid”, „Wingolt Andrey” („Хроніка Быхаўца”) і інш. K. Gudmantas, *Lietuvos metrašèio Vavelio nuorašas (fragmentas)*, „Senoji Lietuvos literatūra”, 2012, kn. 34, p. 127-130.

* * *

Адкрыццё новага Вавельскага спісу дае таксама падставы закрануць пытанне распаўсюджанасці спісаў поўнага зводу агульнадзяржаўнага летапісання ВКЛ — як іх колькаснага складу, так і арэала бытавання. Нягледзячы на тое, што на сённяшні дзень знойдзена толькі два помнікі гэтага зводу (у адрозненне ад кароткага і сярэдняга зводаў, копій якіх адкрыта значна больш)[29], відавочна, што гэтымі двума помнікамі агульная колькасць спісаў поўнага зводу не абмяжоўваецца.

Да знаходкі Вавельскага спісу на карысць існавання іншых, акрамя „Хронікі Быхаўца", спісаў поўнага зводу агульнадзяржаўнага летапісання ВКЛ (калі не ўлічваць незахаваны кірылічны пратограф, з якога быў транслітараваны спіс „Хроніка Быхаўца") сведчылі некаторыя адсылкі і тэкстава блізкія да спісу „Хроніка Быхаўца" вытрымкі, прадстаўленыя на старонках паасобных гісторыка-літаратурных помнікаў.

Так, на знаходжанне ў бібліятэцы князёў Заслаўскіх аднаго са спісаў поўнага зводу агульнадзяржаўнага летапісання ВКЛ указваюць сведчанні М. Стрыйкоўскага. Прыводзячы ў сваёй „Хроніцы Польскай, Літоўскай, Жамойцкай і ўсёй Русі" летапісны ўрывак, М. Стрыйкоўскі зазначае, што гэты ўрывак быў перапісаны з летапісу, атрыманага ад князёў Заслаўскіх з Вялікай Бераставіцы[30].

Аб тым, што адзін са спісаў поўнага зводу агульнадзяржаўнага летапісання ВКЛ быў у князёў Астрожскіх-Заслаўскіх, сведчаць таксама спасылкі на крыніцу ў творах Войцеха Руфіна „Гісторыя пра дрэва Святога Крыжа, на Лысую гару прынесенага" (1611)[31] і Яцака Яблоньскага „Дрэва жыцця" (1737)[32]. Апошні, верагодней за ўсё, абапіраўся на працу В. Руфіна і не меў перад сабой уласна летапісу.

[29] Спісы Супрасльскі, Слуцкі, Акадэмічны, „Origo regis", Віленскі, Красінскага, Альшэўскі, Археалагічнага таварыства, Румянцаўскі, Познанскі, Еўраінаўскі і інш.

[30] „Drugi zaś Latopiszec / ktoregom dostał w Berestowicy więtszey / u ich miłości xiążąt Zasławskich / tak też Kronikę Litewską y Zmodzską / poczyna prostymi słowy / ktorych ia tu text własny (acz sie go poprawić godziło) własnie kładę", M. Stryjkowski, *Która przed tym nigdy świata nie widziała Kronika Polska, Litewska, Żmodzka y Wszystkiey Rusi ... przez Macieja Osostewiciusa Stryjkowskiego...*, Królewiec 1582, s. 48.

[31] W. Ruffin, *Historya o Drzewie Krzyża Świętego na Górę Łysą przyniesionym. Spisana przez X. Woyciecha Ruffina w Krakowie*: w Drukarni Jakuba Sibeneychera, 1604, k. C2 (Biblioteka Książąt Czartoryskich, sygn. 2a.I.5346).

[32] J. Jabłoński, *Drzewo żywota, z Raiu Naprzod na Gorze Jerozolimskiej Kalwaryi, złośliwą ręką potym na Górze Łysiec Przez Ręce Swiętego Emeryka Krolewica Węgierskiego, Roku Pańskiego Tysiącnego szostego, Przesadzone; Nieustannemi Cudami, y Łaskami kwitnące, w wszelkich przypadkach ludzkich zdrowy Owoc, Pociech y Ratunku, rodzące; Pod strażą Zakonników Oyca S. Benedykta Kongrega-*

Апісваючы гісторыю выкрадання святога крыжа, якая з усіх спісаў агульнадзяржаўнага летапісання ВКЛ прысутнічае толькі ў „Хроніцы Быхаўца” і Вавельскім спісе, В. Руфін падае дакладныя звесткі пра крыніцу, з якой бралася інфармацыя: „літоўская хроніка, рускім пісьмом пісаная” з уладанняў заслаўскага князя Януша з Астрога, валынскага ваяводы, якая, па словах самога ваяводы, паходзіць з каралеўскай бібліятэкі Жыгімонта Аўгуста і была знойдзена там пасля смерці караля. Па просьбе прыёра Лысагорскага манастыра Лукаша Яноўскага, заслаўскі князь Януш зрабіў гэтую хроніку, ці яе частку, даступнай манастырскім перапісчыкам[33].

Такім чынам, можна сцвярджаць, што князі Заслаўскія-Астрожскія валодалі адным са спісаў поўнага зводу агульнадзяржаўнага летапісання ВКЛ. Прычым спіс, якім карыстаўся М. Стрыйкоўскі, не ідэнтычны „Хроніцы Быхаўца” ці яе кірылічнаму пратографу[34]. На жаль, сыходзячы з наяўных крыніцазнаўчых матэрыялаў, немагчыма дакладна вызначыць, ці Вавельскі спіс з’яўляецца спісам, якім карысталіся пры напісанні сваіх твораў М. Стрыйкоўскі і В. Руфін. Абсалютна не выключана і тое, што знойдзены Вавельскі спіс мог належаць князям Сангушкам[35], а спіс з бібліятэкі князёў Астрожскіх-Заслаўскіх яшчэ чакае свайго адкрыцця.

*cyi Polskiey Benedyktyńskiey, zostające, Teraz Nowo Historycznie Opisane, Przez X Jacka Jabłonskiego, Tegoż Klasztoru S. Krzyża Professa, Proboszcza S. Michała w Słupi, na zgłodzony ludzki appetyt, y na posiłek pospolity do druku podane ... w Krakowie*: w Drukarni Jakuba Matyaszkiewicza, J. K. M. y J. O. Jm i X. Biskupa Krakowskiego, Xiążęcia Siewierskiego, Ordynaryinego Typografa, [1736/1737], s. 58-60 (Biblioteka Narodowa w Warszawie, XVIII.2.908).

33 „Janusz z Ostroga Książę Zasławskie / Woiowoda Wołyński / ten iż na tym świętym mieyscu zwykł często bywać / y osobne nabożeństwo swoie odprawować / proszony będąc w liście swoim od X. Łukasza Janowskiego / tego Klasztoru teraźnieyszego Przeora / z Kroniki Litewskiey Ruskim charakterem pisaney / która w Bibliotece / iako samże powiadał / po śmierci Krola Augusta naleziono / w ten sens te historia opisuje”, W. Ruffin, *Historya o Drzewie Krzyża Świętego*, k. C2. Для параўнання ў Я. Яблоньскага: „Odmienny zaś z Ostroga Xiążę Zasławskie Woiewoda Wołyński, z kroniki Litewskiey Ruskim charakterem pisaney, ktora w bibliotece iako samże powiedał, po śmierci Krola Augusta naleziono, w ten sens tę historya opisuje”, J. Jabłoński, *Drzewo Zywota*..., s. 58.

34 Выснова, што сярод крыніц, якім карыстаўся М. Стрыйкоўскі пры напісанні сваёй хронікі, не было ніводнага з дайшоўшых да нас беларуска-літоўскіх спісаў, прадстаўлена ў манаграфіі Аляксандра Рогава. А. И. Рогов, *Русско-польские культурные связи в эпоху Возрождения: Стрыйковский и его хроника*, Москва 1966, с. 249.

35 Звяртае на сябе ўвагу, у прыватнасці, акцэнтацыя ў „Хроніцы Быхаўца” прысягі валынскіх князёў, і менавіта Сангушкаў, вялікаму князю Казіміру Ягелончыку, пры апісанні яго ўзыходжання на вялікакняскі сталец: „... po male czasu pryiechali kniazi Sanguszkowiczy z Wołynia, y onyie wsi kniazi y Boiare

Цікавую думку выказвае таксама К. Гудмантас, які адзначае, што гіпатэтычна падзел Вавельскага спісу (і тое, што быў знойдзены толькі фрагмент), можа быць звязаны з адказам Яна Заслаўскага на ліст прыёру Лукашу Яноўскаму: князь мог аддзяліць неабходны летапісны фрагмент з усяго кодэксу, а пасля забыцца вярнуць яго назад[36].

Істотна, аднак, што адкрыццё Вавельскага спісу, а таксама прыведзеныя спасылкі на спіс з бібліятэкі князёў Астрожскіх-Заслаўскіх даюць крыніцазнаўчыя падставы казаць пра як мінімум дзве мясцовасці, на тэрыторыі якіх захоўваліся спісы поўнага зводу, — Случчына і землі сучаснай паўднёва-заходняй Беларусі (спіс „Хроніка Быхаўца")[37], а таксама тэрыторыя сучаснай паўночна-заходняй Украіны — Ровенская і Валынская вобласці (Вавельскі спіс). Крыніцазнаўчае пацвярджэнне таго, што адзін са спісаў поўнага зводу захоўваўся на Валыні і мае дачыненне да двароў князёў Сангушкаў альбо Заслаў-

Wołynskyj pryiechali, y wdaryli czołom welikomu kniaziu Kazimiru służyty, y prysiahu na tom swoiu dali, werne służyty iemu, i welikomu kniastwu Litowskomu. || Y kniaź weliki Kazimir pryniawszy Wołyńcow, y zo wsimi tymi kniazi, y pany radoiu Litowskoiu poiechał do Wilni, na stolec otca swoieho, y diady swojeho kniazia Witolta", *Pomniki do dziejów litewskich...*, s. 51. Менавіта валынскія землі побач з літоўскімі і рускімі пазначаны ў назве княства, валадаром якога абвяшчаецца Казімір Ягелончык: „A potym weliki kniaź Kazimir pryiechał do Wilna, y seł na stolcy diady, y otca swoieho welikoho kniazia Witolta [памылка ў тэксце, павінны быць фразы са значэннем „дзядзі Вітаўта" і „бацькі Ягайлы" — Г. М.] na Wilni i na wsem welikom kniastwi Litowskom y Ruskom y Wołyńskim", *Pomniki do dziejów litewskich...*, s. 51.

36 K. Gudmantas, *Lietuvos metraščio Vavelio nuorašas (fragmentas),* „Senoji Lietuvos literatūra", 2012, kn. 34, p. 134.

37 Цікавым з'яўляецца той факт, што М. Стрыйкоўскі, працуючы над напісаннем свайго твора „Аб пачатках..." (Stryjkowski Maciej, *O początkach, wywodach, dzielnościach, sprawach rycerskich i domowych sławnego narodu litewskiego, żemojdzkiego i ruskiego, przedtym nigdy od żadnego ani kuszone, ani opisane, z natchnienia Bożego a uprzejmie pilnego doświadczenia* (rękopis, Biblioteka Narodowa w Warszawie, sygn. III 6806) пры апісанні гісторыі аб скрадванні дрэва святога крыжа таксама спасылаецца на „рускі летапіс" і „рускія летапісцы" („W ruskim latopiscu dalej pisze...", M. Stryjkowski, *O początkach...*, s. 300; „według ruskich starych latopisców", M. Stryjkowski, *O początkach...*, s. 301, цытаты па выданні: M. Stryjkowski, *O początkach, wywodach, dzielnościach, sprawach rycerskich i domowych sławnego narodu litewskiego, żemojdzkiego i ruskiego, przedtym nigdy od żadnego ani kuszone, ani opisane, z natchnienia Bożego a uprzejmie pilnego doświadczenia*, oprac. J. Radziszewska, Warszawa 1978). З улікам таго, што гэты твор М. Стрыйкоўскі пісаў у 70-я гады XVI ст., знаходзячыся пры двары князёў Алелькавічаў Слуцкіх, і дадзены сюжэт сустракаецца толькі ў спісах поўнага зводу агульнадзяржаўнага летапісання ВКЛ, то можна меркаваць, што М. Стрыйкоўскі, працуючы над творам „Аб пачатках", акурат і карыстаўся адным са спісаў поўнага зводу агульнадзяржаўнага летапісання ВКЛ.

скіх-Астрожскіх, з'яўляецца цікавым момантам для вывучэння гісторыі фарміравання поўнага зводу агульнадзяржаўнага летапісання ВКЛ і тых асяродкаў, якія мелі ўплыў на стварэнне яго частак.

У прыватнасці, беручы пад увагу моўныя асаблівасці „Хронікі Быхаўца", наяўнасць у гэтым тэксце рыс палескага дыялекту[38], ёсць сэнс казаць аб тым, што пры вывучэнні фарміравання і гісторыі поўнага зводу беларуска-літоўскага летапісання варта ўлічваць не толькі віленскі і слуцкі, але таксама і валынскі асяродкі, якія маглі ўплываць калі не на гісторыю стварэння ўсяго поўнага зводу, то яго паасобных частак[39].

**Высновы:**

Знойдзены ў фондах Нацыянальнага архіва ў Кракаве фрагмент летапіснага тэксту (Вавельскі спіс) уяўляе сабой фрагмент аднаго са спісаў поўнага зводу агульнадзяржаўнага беларуска-літоўскага летапісання. Гэта адзіны вядомы на сёння кірылічны спіс поўнага зводу, стварэнне якога, паводле палеаграфічнага аналізу, можна датаваць 70-90-мі гадамі XVI ст. Фрагмент з'яўляецца копіяй больш ранняга спісу, а не першасным тэкстам.

Нягледзячы на тэксталагічную блізкасць са спісам „Хроніка Быхаўца", Вавельскі спіс не з'яўляецца пратографам „Хронікі". Вавельскі спіс і „Хроніка Быхаўца" з'яўляюцца спісамі аднаго твора і адлюстроўваюць адзін архетып.

Паколькі летапісны фрагмент быў знойдзены ў фондах сямейнага архіва князёў Сангушкаў, у спадчыну да якіх перайшоў архіў князёў Астрожскіх-Заслаўскіх, можна меркаваць, што адкрыты летапісны фрагмент можа быць часткай спісу, які належаў да бібліятэкі князёў Астрожскіх-Заслаўскіх. З іншага боку, таксама не выключана, што Вавельскі спіс паходзіць са збораў Сангушкаў і быў іх уласнасцю ад пачатку, а ў бібліятэцы Астрожскіх-Заслаўскіх захоўваўся іншы, не знойдзены да сённяшняга часу спіс. Адзін са спісаў поўнага зводу

[38] Больш падрабязна аб мове „Хроніка Быхаўца" і наяўнасці ў яе тэксце рыс, характэрных для палескіх гаворак і паўднёва-заходняга дыялекту беларускай мовы, у манаграфіі Ліліі Цітко (L. Citko, *„Kronika Bychowca" na tle historii i geografii języka białoruskiego*, Białystok 2006, ss. 503).

[39] Больш падрабязна аб гісторыі фарміравання поўнага зводу агульнадзяржаўнага летапісання ВКЛ у працах М. Ючаса, (М. А. Ючас *Хроника Быховца*, [у:] *Летописи и хроники. 1973...*, с. 220-231), Ежы Ахманьскага (J. Ochmański, *Nad Kroniką Bychowca*, „Studia Źródłoznawcze", 1967, t. XII, s. 155-163), В. Чамярыцкага (В. Чамярыцкі, *Да гісторыі фарміравання трэцяга беларуска-літоўскага летапіснага зводу — „Хронікі Быхаўца"*, [у:] *Беларуская пісьмовая спадчына ў кантэксце еўрапейскага культурна-гістарычнага працэсу XI-XIX стагоддзяў: вытокі...*, с. 51-60).

агульнадзяржаўнага летапісання ВКЛ, такім чынам, захоўваўся на тэрыторыі сучаснай паўночна-заходняй Украіны. Не выключана таксама і тое, што менавіта Вавельскі спіс быў у карыстанні М. Стрыйкоўскага і В. Руфіна і служыў крыніцай для іх твораў.

Адкрыццё Вавельскага спісу з'яўляецца этапнай з'явай у гісторыі даследавання беларуска-літоўскага летапісання. Гэтая падзея не толькі аспрэчвае сумненні наконт арыгінальнасці рукапісу, апублікаванага Тэадорам Нарбутам у 1846 годзе, пацвярджае гіпотэзу аб існаванні кірылічных спісаў поўнага зводу ў XVI ст., кірылічным пратографе „Хронікі Быхаўца", але таксама адкрывае новыя гарызонты для даследаванняў беларуска-літоўскіх летапісаў, вынікі якіх уяўляюць каштоўнасць як для беларускага, так і для літоўскага, польскага, украінскага крыніцазнаўства, гісторыі, філалогіі.

## Расчытаны тэкст Вавельскага спісу

**Выкарыстаныя правілы перадачы тэксту:** Пры перадачы тэксту захоўваюцца наступныя літары: ѧ, ѹ, ѡ, є, ѳ, ѣ, дыграф ѿ. „А" ётавае перадаецца як „я". „Ер" (ъ), „яць" (ь), дыграф „кг" перадаюцца паслядоўна па ўсім тэксце. Еры і яці, непазначаныя пасля вынасных літар, але пра прысутнасць якіх можна меркаваць, у тэксце не ўзнаўляюцца.

Вынасныя літары ўносяцца ў радок і пазначаюцца курсівам. Скарачэнні раскрываюцца, скарочаныя і прапушчаныя літары ўносяцца ў радок у дужкі. Узноўлены пашкоджаны альбо складаны для расчытання тэкст уносіцца ў ламаныя дужкі. Паўторы слоў, недапісаныя літары не выпраўляюцца, але агаворваюцца ў каментарыях.

Тэкст падзелены на словы і сказы. Знакі прыпынку расстаўлены ў адпаведнасці з правіламі пунктуацыі сучаснай беларускай мовы. Вялікая літара прадстаўлена паводле сучасных правілаў арфаграфіі. Прадстаўленыя ў рукапісе знакі прыпынку не агаворваюцца ў каментарыях. Для перадачы простай мовы выкарыстаны двукоссі.

Канец радка адзначаецца адной вертыкальнай рысай („|"), мяжа паміж старонкамі — дзвюма вертыкальнымі рысамі з нумарам старонкі ў іх.

Розначытанні са спісам „Хроніка Быхаўца" прыводзяцца па публікацыі ў выданні „Pomniki do dziejów litewskich"[40] (1846 г.) і толькі ў выпадку семантычных неадпаведнасцей паміж тэкстамі, звязаных з пропускамі слоў, прысутнасцю семантычна адрозных лексем і граматычных форм.

[40] *Pomniki do dziejów litewskich...*

|285| а брата, кн(я)зѧ велико*г*(о) Е*в*нутия, по|има*л*. И стрети*л* е*г*(о) гоне*ц* ꙋ Креве. | И кн(я)зь велики*и* Ѡлкги*рд*ъ по|*с*пеши*л*ся воскоре и приеха*л* ко брату | своему великому кн(я)зю Ке*с*ту*т*ю. И | кн(я)зь велики*и* Кестуте*и* ре*к* брату | брату (!) своему, великому кн(я)зю Ѡлкги*р*|ду: «Тобе годи*т*ся быти велики*м* кн(я)зе*м* | ꙋ Ви*л*ни, ты на*м* ста*р*ши*и* бра*т*, а я | с тобою за*ѡд*но живу». И посади*л* его | на великомъ кн(я)же*н*и ꙋ Ви*л*ни, а Евну|тю дали Жеславль. А доко*н*чаю*т* ме|жи собою, што все*и* бра*т*и быти | послу*ш*но*и* великого кн(я)зя Ѡлкги*р*да. А во|лости межи собою розделили, и на*д* | то межи собою вмовя*т*, што собе | придобуду*т*, городо*в* или волостеи, |286| то и*м* делити наполи, а быти имъ | до живота ꙋ велико*и* пра*в*де и лю*б*ви | бра*т*ско*и*. И на то*м* межи себе и при|сягу вчинили, што и*м* собе на ѡбе | стороне лиха не мы*с*лити, так же | были и до живота своего в то*и* пра*в*|де.

И пото*м* кн(я)зь велики*и* Ѡлкги*р*дь, | собра*в*шися сь силами свои*м*(и) ли*т*(о)*в*ски|ми, нашо*д*ши, поби*л* тата*р* на Сине*и* | Воде, тре*х* брато*в* — кн(я)зя Хачибея, | а Кутлубугу, а Дмитрея. А тые три | браты ꙋ ѡ*р*де пановали, и ѿчичи | и дедичи были Подо*л*ское земли. И ѿ| ни*х* положоны были на Подо*л*и атама|ны, которые вси доходы заведали. | А к ни*м* прие*ж*дали баскаки тата*р*ские, | и в ты*х* атамано*в* беручи дани, к о*р*де |287| воживали. Бра*т* же великого кн(я)зя Ѡл|кги*р*да кн(я)зь Ко*рят* де*р*жа*л* Но*ва*городокъ | Ли*т*(о)*в*ски*и*, а в не*г*(о) были чотыри сыны — | кн(я)зь Юре*и* и кн(я)зь Алекса*н*де*р*, кн(я)зь | Косте*н*ти*н* а кн(я)зь Федо*р*. Ино тые кня|жата Ко*р*ятовичи три браты з до*з*|воле*н*я кн(я)зя Ѡлкги*р*да, дяди своего, | и *с* помо*ч*ю ли*т*(о)*в*скою пошли в Подо*л*скую | землю. А в то*т* ча*с* в Подо*л*ску*и*[41] земли | не бы*л* ни ѡди*н* горо*д* ни дерево*м* рубленъ, | ни камене*м* будованы*и*. Тогды тые кня|жата, пришо*д*чи в Подо*л*скую землю, | и вошли во приязнь со атаманы, а | почали боронити Подо*л*скую землю | ѿ тата*р* и баскако*в*[42] выхода не почали давати. |

Напе*р*ве*и* нашли собе тве*р*жу на реце |288| на Смо*т*ричи, и ту*т* собе нарадили городь | Смо*трич*. В друго*м* месте были че*р*ньцы | в горе, и в то*м* месте нарадили горо*д* Бо|коту. И ловячи в лова*х*, пригодилося | и*мъ* ꙋгонити ѡлене*и* много в томъ | ѡ*с*трове, где нине Камене*ц* лежи*т*. И по|секши ле*с*, ꙋмуровали горо*д* Каменець. | А с того вси городы по*л*ские[43] поделали | и всю землю Подо*л*скую ѡсели.

[41] Так у рукапісе.

[42] Так у рукапісе, у адпаведным фрагменце „Хронікі Быхаўца” (далей: ХБ) — „y poczali boronity Podolskuju zemlu od Tatar, y Bayskakom wyhoda poczali nedawaty” (с. 19).

[43] Так у рукапісе. У адпаведным фрагменце ХБ лексема „подольския” — „wsi horody Podolskija podełali y wsiu zemlu Podolskuiu osieli” (с. 19).

бежанская рэчаіснасць закранула іх ці службаю ў розных войсках, ці вучобаю, ці чарадою смерцяў родных, і перакрыла ў памяці сталых людзей характар стасункаў з жыхарамі розных краёў Расіі. Адсюль можна сцвярджаць аб тым, што добразычлівасць і гасціннасць насельніцтва, яго дабрачыннае стаўленне да бежанцаў з Беларусі і Польшчы было тыповым і пераважным стаўленнем. Слова Язэпа Падлашчыка з Алексіч, якому ў 1915 г. было шэсць гадоў, пра тое, што „сярод рускіх добра было жыць, бо гэта быў незвычайна добры народ", можна разглядаць у якасці сапраўднага рэфрэна пераважнай часткі ўспамінаў[10].

Змест беластоцкіх успамінаў мае ўнікальнасць яшчэ і таму, што ўбірае ў сабе асобныя характарыстыкі, рысы, дробязі жыцця, якіх у большасці не маюць іншыя крыніцы па гісторыі бежанства гэтай вайны. Уражанні, якія згадваюць сталыя людзі пра пачаткі свайго жыцця, якое супала з бежанствам, умяшчаюць у сябе самае рознае. Гэта, для прыкладу, захаваныя ў памяці яскравыя эмоцыі пра знамёны французскай і рускай армій з вайны 1812 г. у маскоўскім храме Хрыста Збавіцеля[11]. Альбо неаднаразовы напамін пра разнастайныя этнічныя абрады, кулінарныя звычаі, гульні, традыцыі ў розных народаў — башкіраў, татар, кітайцаў, чувашоў, кіргізаў[12]. Увогуле, важным феноменам дадзеных успамінаў выступае ўвесь спектр прадметаў увагі, якія згадалі бежанцы, як дзеці сялян, альбо іх бацькі-сяляне. Асобная каштоўнасць такой памяці таму, што яна фармавалася ў бежанцаў падчас выпрабаванняў, якія зусім не спрыялі краязнаўчаму пазнавальнаму працэсу. Але, міжволі, з прыроднай цікавасцю людзі з заходнебеларускіх зямель, калі сустракаліся з чымсьці новым, нязвыклым і, нават, дзіўным, заўважалі гэта, і памяць пра адметнасці іншага свету людзей пранеслі праз усё сваё жыццё.

Бежанства часоў Першай сусветнай вайны стала своеасаблівай самаадукацыяй тысяч і тысяч людзей, павелічэннем іх кругагляду, працэсам свядомага ці часцей несвядомага супараўнання ўласнай культуры з іншымі культурамі. Шматтысячны характар такой самаадукацыі робіць яе гістарычнай з'явай, якая патрабуе асобнага даследавання.

На канферэнцыі „Бежанства 1915 года ў гісторыі і традыцыі беларусаў Падляшша", якая мела месца 12-13 лістапада 2015 г. было, у прыватнасці, слушна заўважана, што мэтазгодным навуковым кірункам

[10] Там жа, с. 295. Адначасова, варта адзначыць, што вялікая колькасць тых жа рэспандэнтаў адзначае істотныя змены ў настроях насельніцтва, выкліканых вэрхалам рэвалюцыі і грамадзянскай вайны, калі голад і нэндза апанавалі нават самыя хлебародныя абшары Расіі, дзе „пірагі былі штодзень".

[11] Там жа, с. 45-46.

[12] Там жа, с. 94, 184, 226.

вывучэння гэтай гісторыі з’яўляецца даследаванне асобных сацыяльных груп бежанцаў — сялян, мяшчан, купецтва, прадстаўнікоў інтэлігенцыі. Калекцыя беластоцкіх бежанскіх успамінаў і ў гэтым аспекце навуковага пошуку выступае каштоўным набыткам. Паколькі абсалютная большасць рэспандэнтаў паходзіла з сялян, то менавіта сялянскі пункт гледжання выразна адлюстраваны на розных старонках кнігі. Сялянскае вока заўважала ўсе адметнасці вядзення гаспадаркі, асаблівасці працы на палетках, арганізацыю хатняга дабрабыту, кулінарныя цікавосткі. Асобную ўвагу выклікалі прыродныя магчымасці розных куткоў Расіі: багацце прыроды, ураджайнасць глебы. Падрабязна, са слоў бацькоў (пэўна неаднаразова імі паўтораных) апавядае Павел Семянюк з Рэпіскаў пра тое, як у Кірсанаўскім павеце Тамбоўскай губерні вялася сельская гаспадарка. Падкрэсліваецца ва ўспамінах пра „плантацыі сланечніку”, пра пшаніцу і проса, як галоўныя культуры, пра пшанічныя булкі і прасяную кашу, як штодзённы рацыён харчавання мясцовага насельніцтва, пра механізм нарыхтоўкі ялавічыны[13]. Кідаліся ў вочы бежанцам з беларускіх падляшскіх краёў адрозненні чужога гаспадарчага ладу. Сялянская памяць занатавала на дзесяцігоддзі самыя розныя дробязі. „Збожжа касілі косамі. Снапоў не ставілі. Клалі проста на зямлю на ўскрыж. Яны доўга не сохлі. У час дажджу прарастала зерне. Калі мой бацька растлумачыў свайму гаспадару, як гэта ў нас робіцца, той адобрыў ідэю і пахваліў яго за гэта”, — успамінае Аляксей Лагвінюк са Ставішчаў, які, напраўду і сам ведаў пра тое толькі са слоў бацькоў[14]. Паколькі бульба была вядучай сельскагаспадарчай культурай беларусаў і палякаў, то яе неперав珍жная роля ў рацыёне харчавання іншых народаў таксама кідалася ў вочы, і была замацаванай у іх бежанскай памяці: „Бульбы там (Самарская губерня) амаль не вырошчвалі. Падавалі яе на стол гасцям пры большым свяце, як своеасаблівую страву...Татары спажывалі адну каніну...Звычаем мясцовых жыхароў... было піццё гарбаты”[15].

Школай талерантнасці можна ў пэўнай ступені назваць падзеі бежанства, бо яго геаграфія стала магчымасцю непасрэднага і працяглага знаёмства і суіснавання людзей з Падляшша, таксама і з іншых рэгіёнаў Беларусі, Польшчы і Літвы з ладам жыцця розных іншых народаў тагачаснай Расіі.

Памяць былых бежанцаў захавала самыя розныя прыклады і ўзоры іншых нацыянальных культур. На змест таго, што запаміналася, уплывалі адукацыя, якую мелі асобныя бежанцы, іх жыццёвы папя-

[13] Там жа, с. 389-390.
[14] Там жа, с. 239.
[15] Там жа, с. 240.

рэдні досвед, жыццёвы арыенціры. Адзначэнне новага этнакультурнага свету не заўсёды спалучаецца ва ўспамінах бежанцаў з нейкай іх ацэнкай. Ды і самое адзначэнне вельмі рознае. Возьмем да прыкладу радкі са слоў Марыі Кулакоўскай з Крушынянаў, якая пра бежанства пераказвае са слоў сваёй сястры Людмілы, якой самой у 1915 годзе было толькі чатыры гады, але вярталася сястра з бежанства, са слоў Марыі, „ужо падлеткам”[16]. Таму не могуць моцна здзіўляць вызначэнні этнічных назваў насельніцтва, якое акружала маленькую Людмілу: „Жылі там хахлы, рускія і кацапы. Хахлы — гэта ўкраінцы. А кацапы — невядома якія, папросту іх так называлі...Нашых, здаецца, называлі палякамі”[17]. Вядомы ёсць больш дакладныя адзначэнні прыкмет людзей розных нацыянальнасцей, тым больш калі згадваецца непасрэдны кантакт гэтых людзей з бежанцамі. Так яўрэі ў памяці тады малалетняй Галены Кубаеўскай з Орлі засталіся тым, што „ў час шабату наймалі хрысціян тапіць у печах...за 10 грошаў ад печкі”[18].

Шмат згадак у тэкстах пра адметнасці кулінарнага мастацтва, стравы і прысмакі, якімі частавалі бежанцаў. Кіргізскія бурсакі (пончыкі), гарбузы, якія на Доне „кісілі, запякалі ў цесце, з якіх выціскалі сок”, вяндліна з каніны ў татар, вялікія рускія белыя бліны на ўсю патэльню, разнастайныя хлебабулачныя вырабы з пшаніцы, якія былі асноваю харчавання для мясцовага насельніцтва ў розных раёнах рассялення бежанцаў — такія прыклады раскіданы на розных старонках успамінаў[19].

Жывы кантакт з носьбітамі іншых культур падчас працы, у ходзе вядзення бежанскай хатняй гаспадаркі, пры розных міграцыях вёў да абставін знаёмства з іншымі мовамі. Хтосьці, як маленькая Тацяна Данілюк з Орлі „навучылася добра размаўляць па-чувашску”, іншы, як Уладзіслаў Патаповіч з Бобінкі-Старыны „хутка авалодаў татарскаю мовай”, але пераважная большасць бежанцаў паступова навучылася гутарыць па-руску, авалодалі рускай пісьменнасцю, а цераз гэта, у рознай ступені, дакрануліся да рускай культуры[20]. Апошнія веды большасць былых бежанцаў захавала на ўсё жыццё, а ў час іх вяртання на Бацькаўшчыну, якая на пачатку 1920-х гг. была ў складзе Польшчы, веданне рускай мовы стала істотнай праблемай для працаўладкавання пад польскай уладаю.

Іншы свет, у якім апынуліся бежанцы, міжволі, але стымуляваў пазнавальную матывацыю. А сярод тысяч бежанцаў былі тыя, хто з пры-

[16] Нават калі вяртанне сям’і Кулакоўскіх адбылося ў 1923 г., Людміла мела тады 12-13 гадоў.

[17] *Бежанства 1915 года*, Беласток 2015, с. 226.

[18] Там жа, с. 219.

[19] Там жа, с. 226, 239, 270.

[20] Там жа, с. 123, 307.

роды ўласцівай ім чалавечай кемлівасці і дапытлівасці, нягледзячы на ўсе непрыдатныя ўмовы бежанскай рэчаіснасці, захоўвалі ў свядомасці гэтыя новыя ўражанні ад іншай прыроды, ад новых людзей, ад адметнай архітэктурнай прасторы. Надзея Руско з Белавежы, маючы ў 1915 г. дзевяць гадоў, апынулася з сям'ёю ў Ніжнім Ноўгарадзе. „Не ведаючы расійскай мовы і гаворачы на белавежскай гаворцы, — па яе ўспамінах, — яна „не траціла ахвоты спазнаць горад, наведваць шматлікія цэрквы, знаёміцца з вуліцамі горада і набярэжнай Волгі"[21]. У Конана Міхальчука найпершымі ўражаннямі дзяцінства сталі казакі. „А як тыя людзі ездзілі!...Казак ехаў канём, заўсёды спяваў, а вецер падымаў яго чуб", — згадвае праз дзясяткі гадоў сталы селянін[22]. А для 18-гадовай Зосі Хірсюк з Кожына краявідам за вокнамі хаты на цэлыя сем гадоў стаў Эльбрус[23]. Такая геаграфічная мазаіка, памножаная на колькасць тысяч бежанскіх уражанняў ад яе, можа быць разгледжана як істотны фактар уплыву на светапогляд гэтых людзей, дзе адным з яго наступстваў мусова палічыць больш абвостранае, больш свядомае адчуванне бежанцамі сваёй этнічнай адметнасці.

Яшчэ адзін істотны фактар уплыву на светапогляд бежанцаў, які шмат разоў адлюстраваны на старонках дадзенай кнігі, быў звязаны з бурлівымі і драматычнымі ваенна-палітычнымі і сацыяльна-палітычнымі пераменамі і з'явамі 1917-1921 гг. Змест успамінаў сведчыць, што ў падзеях рэвалюцыі і грамадзянскага супрацьстаяння ў Расіі бежанцы прымалі ўдзел па-рознаму. Хтосьці актыўна, іншыя павольна, пад прымусам, трэція спрабавалі ўсяляк адысці ад сутыкнення з ваяўнічымі палітычнымі сіламі, маючы толькі адзіную мэту захавання сям'і і вяртання да родных мясцін. Аднаму — Дзмітрыю Несцеруку з Ахрымоў — лёс прызначыў стаць „веставым" Будзённага, другія — як Піліп Раманчук з Альхоўкі — кінуліся ў „народную міліцыю", трэція — на прыкладзе Максіма Рудчыка з Вулькі-Нурэцкай — трапілі на курсы „чырвоных настаўнікаў"[24]. А Аляксандр Пэршка нават патрапіў у якасці матроса паўдзельнічаць у штурме Зімовага палаца ў кастрычніку 1917 года[25]. Такі спектр актыўнасці ў палітычным і грамадскім працэсе істотна ўплываў на хаду тагачаснай думкі такіх бежанцаў, і, між іншым, яны самі аб гэтым неаднаразова прызнаюцца[26].

Паколькі мы разглядаем выданне *Бежанства 1915 года* з пункту гледжання адлюстравання фактараў фармавання бежанскага света-

[21] Там жа, с. 344.
[22] Там жа, с. 270.
[23] Там жа, с. 442.
[24] Там жа, с. 285, 335, 341.
[25] Там жа, с. 330.
[26] Там жа, с. 341, 400.

погляду і кругагляду, то нельга не згадаць стапрацэнтны аспект, які па-рознаму, але прысутнічае ў кожных, нават самых сціплых, самых лаканічных успамінах. Гэта думкі і словы пра вяртанне на Бацькаўшчыну. Гэтая думка была галоўнай ідэяй, мараю і мэтаю абсалютнай большасці бежанцаў. І змест дадзеных успамінаў з'яўляецца доказам таго, што самыя розныя абставіны — адмоўныя, катастрафічныя і прывабныя, лагодныя (а ёсць нямала згадак ва ўспамінах аб тым, як бежанцаў прасілі застацца, не з'язджаць з прычыны іх чалавечых і прафесійных якасцей) — не спынялі ў бежанцаў галоўнага натхнення: да дому, да роднай хаты. Словамі шматлікіх бежанцаў з Беларусі і Польшчы кажа Іван Палецкі з Сушчы: „Можна было вядома пасяліцца там, дзе падабалася і распачаць працоўнае жыццё. Але перамагла цяга да роднай вёскі. Пачаў я афармляць дакументы на выезд...”[27].

Тое, што бежанцы па вяртанню апынуцца ў „новай радзіме”, і пачнуць усё з пачатку — стане іх новым адрэзкам жыцця. Пра гэтыя старонкі жыцця бежанцаў, таксама нямала пазначэнняў у новай кнізе. І яны цалкам спалучаюцца са звесткамі ранейшага канцэптуальна блізкага беластоцкага выдання *У новай айчыне*[28]. Але ў гэтым павaенным адліку часу жыцця ў гэтых людзей будзе бежанскі досвед, частку якога зоймуць уражанні ад знаёмства з іншымі землямі і людзьмі іншых культур. Як паўплывае гэта? У жыцці кожнага — па-свойму, толькі бясследна памяць пра гады бежанства не сцерлася ніколі.

Звяртаючы ўвагу на новае выданне *Бежанства 1915 года* можна падзякаваць складальнікам і выдаўцам гэтай кнігі, ясна разумеючы, што багацце сабранага ў ёй матэрыялу цяжка пераацаніць, бо з цягам часу яго каштоўнасць будзе толькі павялічвацца, а запатрабаванасць у гісторыкаў будзе ўзрастаць у непасрэднай залежнасці ад з'яўлення новай праблематыкі даследаванняў падзей векапомнага бежанства Першай сусветнай вайны.

**Wital Karnialuk** — białoruski historyk i regionalista, kierownik muzeum im. E. F. Karskiego w Gimnazjum nr 1 w Grodnie, docent Katedry Turystyki i Dziedzictwa Kulturalnego Grodzieńskiego Państwowego Uniwersytetu im. J. Kupały. W 2001 r. w Białoruskim Uniwersytecie Państwowym w Mińsku obronił pracę kandydacką na temat „Czynniki zmian historyczno-demograficznych w strukturze ludności Białorusi w latach 1913-1918”. Zainteresowania badawcze: problemy historii I wojny światowej na Białorusi, metodyka wykładania regionalistyki, demografia historyczna Białorusi. Autor książek „Крынкі ў 1795-1918 гг. Нарысы гісторыі мястэчка”, „Гродназнаўства” i podręcznika „Найноўшая гісторыя Беларусі 1917-1945 гг.”.

[27] Там жа, с. 300.

[28] *У новай айчыне. Штодзённае жыццё беларусаў Беласточчыны ў міжваенны перыяд*, Беласток 2001, 301 с.

## Wojciech Śleszyński, *Województwo poleskie*, Kraków 2014, ss. 336.

У 2014 г. выйшла ў свет чарговая кніга беластоцкага даследчыка прафесара Войцеха Сляшыньскага, прысвечаная гэтым разам развіццю Палескага ваяводства ў міжваенны перыяд. Яна прадстаўляе сабой міждысцыплінарную працу, у якой палітычная, эканамічная, сацыяльная гісторыя спалучаецца з этнаграфіяй.

Ва ўводзінах аўтар акрэслівае мэту даследавання — паказаць складаныя сацыяльна-эканамічныя ўмовы і ахарактарызаваць палітыку польскіх улад у Палескім ваяводстве. В. Сляшыньскі зазначае, што пры вывучэнні гісторыі памежжа неабходна адмовіцца ад доказу ўласных палітычных, нацыянальных і грамадскіх інтарэсаў і імкнуцца да аб'ектыўнага адлюстравання падзей, але сам прызнае, што прадстаўлены ў кнізе матэрыял адлюстроўвае пазіцыю польскай адміністрацыі і яе бачання сітуацыі.

Разгляданая манаграфія складаецца з чатырох частак. У першай раскрываецца барацьба за „крэсы" і будаўніцтва польскай адміністрацыі на Палессі ў 1919-1920 гг. Аўтар адзначае ваенныя падзеі 1919 г., цяжкасці ў фарміраванні і дзейнасці дзяржаўных органаў кіравання, згадвае рэакцыю мясцовага насельніцтва на перамены, што адбыліся пасля заканчэння Першай сусветнай і польска-савецкай войнаў, і падкрэслівае, што толькі палякі віталі ўключэнне Палесся ў склад Польскай Рэспублікі.

Большая частка кнігі прысвечана апісанню дзейнасці адміністрацыі і грамадскаму жыццю ў Палескім ваяводстве. Аўтар дае характарыстыку органаў улады рознага ўзроўню, падрабязна спыняецца на асобах палескіх ваяводаў і іх палітыцы, вызначае ўплыў майскага перавароту 1926 г. на сітуацыю ў рэгіёне. Сляшыньскі прыводзіць статыстычныя дадзеныя, звязаныя з колькасцю насельніцтва, яго нацыянальным, сацыяльным і канфесійным становішчам, апісвае палітычныя сімпатыі розных груп. У асобных раздзелах аўтар характарызуе рэлігійную сітуацыю ў ваяводстве, арганізацыю гаспадарчага жыцця, звяртае ўвагу на развіццё медыцынскага абслугоўвання, сацыяльнай апекі, асветы, культуры. У кнізе кожны раз падкрэсліваецца жаданне польскіх улад розным чынам аблегчыць жыццё палешукоў, асабліва ў гады сусветнага эканамічнага крызісу, але, як вынікае з тэксту, змены да лепшага ішлі вельмі марудна.

Значнае месца ў даследаванні адводзіцца апісанню мерапрыемстваў па ліквідацыі непісьменнасці ў ваяводстве і стварэнні нацыянальных школ. Сляшыньскі справядліва зазначае, што ў першыя гады пасля ўсталявання польска-савецкай мяжы найменш шансаў на з'яўленне школ

мелі беларусы. Прычынай гэтага быў як нізкі ўзровень самасвядомасці насельніцтва, так і адсутнасць дакладна акрэсленых ідэй і палітычных сіл, якія б сталі аб'яднаўчым цэнтрам. Гэтыя ж самыя абставіны давалі прыхільнікам інкарпарацыйных ідэй надзею на фарміраванне ў мясцовага насельніцтва польскай самасвядомасці. Важным фактарам на шляху да гэтага павінны былі стаць адукацыйныя ўстановы. Сляшыньскі звяртае ўвагу на тое, што беларускія дзеці пачыналі навучанне на роднай мове і толькі паступова далучаліся да польскай мовы, на якой выкладаліся асобныя прадметы, аднак ужо ў старэйшых класах апошняя была дамінуючай (с. 205). Такія змены ў суадносінах моў польскія ўлады тлумачылі павелічэннем магчымасцей для сацыяльнага росту моладзі. Аднак, калі, з аднаго боку, паглядзець на закон і яго практычную рэалізацыю ў сукупнасці ўсіх фактараў унутрыпалітычнага развіцця польскай дзяржавы, а з другога — з нацыянальнага, беларускага пункту гледжання, то выснова просіцца адназначная — гаворка ідзе пра мэтанакіраваную асіміляцыю няпольскага насельніцтва. І прыклады, якія прыводзіць Сляшыньскі ў сваім даследаванні, яскравы гэтаму доказ.

Ад апісання адносін у грамадстве аўтар пераходзіць да пытання арганізацыі і падтрымання бяспекі ў ваяводстве. Ён зазначае, што на працягу ўсяго міжваеннага перыяду на Палессі ішла барацьба з дыверсійнымі групамі, якія накіроўваліся сюды савецкім бокам. У гэтай сувязі Сляшыньскі паказвае працу дзяржавы па ўмацаванні мяжы і ўзмацненні памежнага кантролю.

Польскаму „анклаву" на Палессі прысвечана асобная частка манаграфіі. Аўтар зазначае, што галоўнай мэтай усходняй палітыкі Другой Рэчы Паспалітай была паланізацыя мясцовага насельніцтва. У гэтай сувязі ён падрабязна спыняецца на апісанні плана дзеянняў палескага ваяводы Станіслава Даўнаровіча, характарыстыцы асадніцтва і захадаў па асіміляцыі і яе форме (нацыянальнай, дзяржаўнай і нацыянальна-дзяржаўнай).

Завяршаецца праца апісаннем падзей 1939 г. на Палессі, якія ў пэўным сэнсе адлюстроўвалі вынікі польскай палітыкі ў рэгіёне на працягу міжваеннага дваццацігоддзя. Даследчык зазначае, што калі напад Германіі быў успрыняты мясцовым насельніцтвам з трывогай і страхам, то пераход мяжы Чырвонай Арміяй — са спадзяваннямі на перамены да лепшага. Прычына такой розніцы ў падыходах была звязана як са складанай палітычнай і сацыяльна-эканамічнай сітуацыяй у рэгіёне, так і з уплывам савецкай прапаганды. Такім чынам, канстатуе Сляшыньскі, нацыянальная палітыка, якую праводзілі польскія ўлады на дзяржаўным і мясцовым узроўнях, фактычна пацярпела паразу. Сведчаннем гэтага стала хваля переважна спантанных антыпольскіх выступленняў на Палессі.

Варта заўважыць, што разгляданае выданне напісана на падставе шырокага кола польскіх і беларускіх крыніц і даследаванняў, што дазволіла В. Сляшыньскаму паказаць вельмі разнастайны вобраз Палесся. Аўтар прыводзіць у кнізе шмат статыстычных дадзеных, энцыклапедычных і этнаграфічных звестак, а багаты ілюстрацыйны матэрыял дазваляе сфарміраваць яскравыя ўяўленні пра міжваеннае жыццё рэгіёна.

На заканчэнне хацелася б выказаць некалькі назіранняў-заўваг, якія выклікала кніга В. Сляшыньскага ў аўтара гэтых радкоў. Не так даўно ў беларускім навуковым часопісе „Российские и славянские исследования" быў надрукаваны ліст польскага прафесара Багдана Хальчака, які закрануў праблему тэрміна „крэсы ўсходнія" і яго выкарыстання ў навуковых працах[1]. Можна па-рознаму ацэньваць выказаныя Хальчакам ідэі і назіранні, але ў аўтара гэтых радкоў пасля знаёмства з кнігай Сляшыньскага ўзнікла ўражанне, што беластоцкі даследчык фактычна прызнае, што „крэсы", хаця б у выглядзе Палесся, не з'яўляюцца спрадвеку польскімі землямі, як лічаць некаторыя ў сучаснай Польшчы. Гэта было штосьці ўнікальнае, што не ўпісваецца ў катэгорыю „свой"-„чужы". З пункту гледжання тэрытарыяльнай прыналежнасці Палессе ў міжваенны перыяд было „сваім", польскім, але з пункту гледжання светапогляду і нацыянальнага складу мясцовага насельніцтва, яго традыцый, яно было „чужым". З такіх пазіцый можна ўспрымаць і саму серыю, у якой выйшла кніга В. Сляшыньскага, — „Крэсавыя ваяводствы II Рэчы Паспалітай" — як тугу па чымсьці страчаным, але нацыянальна і гістарычна не сваім.

Кніга В. Сляшыньскага выклікала і іншую думку. Польскія гісторыкі вельмі актыўна ў апошнія дзесяцігоддзі даследуюць гісторыю ўсходніх ваяводстваў міжваеннай Польскай Рэспублікі і адлюстроўваюць падзеі пераважна праз прызму польскай дзяржавы і яе інтарэсаў. Цікава было б паглядзець на гісторыю з іншага боку — вачыма звычайнага беларускага (ці габрэйскага) насельніцтва і яго ўспрымання той рэчаіснасці і палітыкі, якая праводзілася польскімі ўладамі. Не менш цікавым было б і даследаванне, у якім з перспектывы „малога чалавека" было б параўнана жыццё беларусаў у польскай і савецкай дзяржавах. Штуршком да такіх навуковых пошукаў могуць стаць калі не архіўныя матэрыялы ці ўспаміны сведак, то працы сучасных польскіх даследчыкаў, пачэснае месца сярод якіх займае В. Сляшыньскі.

**Любоў Козік**
(Мінск)

[1] Б. Хальчак, *Синдром «кресов всходних» в Польше*, „Российские и славянские исследования", 2014, вып. 9, с. 347-350.

## „Migracje a tożsamość narodowa mieszkańców Europy Wschodniej w XIX i na początku XX wieku", Ciechanowiec 2-3 czerwca 2016

W dniach 2-3.06.2016 roku w Muzeum Rolnictwa im. ks. Krzysztofa Kluka w Ciechanowcu miała miejsce międzynarodowa konferencja pod tytułem „Migracje a tożsamość narodowa mieszkańców Europy Wschodniej w XIX i na początku XX wieku".

Współorganizatorami konferencji były: Muzeum Rolnictwa im. ks. Krzysztofa Kluka w Ciechanowcu, Departament Kultury i Dziedzictwa Narodowego Urzędu Marszałkowskiego Województwa Podlaskiego, Zarząd Główny Polskiego Towarzystwa Historycznego, Instytut Historii Litwy w Wilnie, Wydział Politologii i Studiów Międzynarodowych Uniwersytetu Mikołaja Kopernika w Toruniu, Naczelna Dyrekcja Archiwów Państwowych oraz Archiwum Główne Akt Dawnych.

Tegoroczna konferencja była elementem programu naukowo-badawczego, mającego na celu podjęcie studiów nad dziejami Podlasia i jego mieszkańców, jak również szeroko rozumianego północno-wschodniego pogranicza dawnej i obecnej Rzeczypospolitej. Powyższe sympozjum naukowe było już czwartym z corocznych spotkań historycznych organizowanych od 2013 roku. Pozwoliły one na poszerzenie naszej wiedzy na temat mieszkańców Europy Wschodniej i ich wzajemnych relacji w różnych okresach historycznych.

Konferencja miała charakter międzynarodowy. Tradycyjnie wzięli w niej udział historycy z wielu placówek badawczo-naukowych z Polski, Białorusi, Litwy, Łotwy i Rosji. Po raz pierwszy w sympozjum uczestniczyła również badaczka z Ukrainy prof. Irina Matiasz.

W dniu 2 czerwca 2016 roku referaty dotyczące migracji z XIX i początków XX w. wygłosili: Artur Rogalski, *Cudzoziemcy w departamencie siedleckim i w województwie podlaskim w latach 1810-1830*, Pilip Niekraszewicz, *Rusyfikacja osób urodzonych w guberniach białoruskich — uczestników działań bojowych na Kaukazie w I poł. XIX w. (na przykładzie generalicji)*, Dzmitry Matwiejczyk, *Emigracja z Białorusi i Litwy po powstaniu listopadowym i jej wpływ na kształtowanie się tożsamości narodowej mieszkańców Białorusi w XIX w.*, Norbert Kasparek, *Mozaika narodowościowa Prus Wschodnich i pogranicza widziane z Wielkiej Emigracji (1832-1863)*, Roman Jurkowski, *Wymuszona migracja. Osadnictwo chłopów rosyjskich w guberniach litewsko-białoruskich po powstaniu styczniowym jako element rusyfikacji Ziem Zabranych*, Jolanta Sikorska-Kulesza, *Inteligenci z ziem litewsko-białoruskich w głębi Cesarstwa Rosyjskiego — autorefleksje o tożsamości narodowej*, Adam Dobroński, *Migracje w guberni łomżyń-*

*skiej i ich skutki (1864-1915)*, Rimantas Miknys, *Zmiany stanu społecznego i narodowego w strukturze mieszkańców Szawel podczas XIX w. i na początku XX w.*, Norbert Tomaszewski, *Polacy na kresach Cesarstwa Rosyjskiego. Listy z Mandżurii Stanisława s. Juliana Kołyszko do Melchiora Bortkiewicza z lat 1903-1905*, Siergiej Piwowarczyk, *Nabycie przez cudzoziemców rosyjskiego obywatelstwa w końcu XIX i na początku XX wieku.*

Po wygłoszeniu referatów odbył się panel dyskusyjny pod tytułem *Wpływ migracji XIX i początku XX wieku na przemiany narodowościowe na Podlasiu*, prowadzony przez prof. Dorotę Michaluk. Uczestniczyli w nim Adam Dobroński, Witold Jemielity, Eugeniusz Mironowicz, Rimantas Miknys. W dyskusji wskazano na wiele interesujących tematów badawczych czekających na opracowanie.

W drugim dniu konferencji poruszono tematykę migracyjną z okresu pierwszej wojny światowej i początku lat dwudziestych XX w. 3 czerwca 2016 roku referaty wygłosili: Dariusz Tarasiuk, *Wpływ uchodźstwa na świadomość narodową ludności polskiej w Cesarstwie Rosyjskim w latach I wojny światowej*, Mariusz Korzeniowski, *Świadomość narodowa uchodźców z ziem polskich w Rosji w latach 1915-1918*, Tatiana Kuzniecowa, *Polacy w świetle prasy łotewskiej z lat 1920-1923*, Jonas Vaičenonis, *Litewskie doświadczenia emigracyjne z czasów pierwszej wojny światowej. Historia rodziny Gemžów*, Krzysztof Buchowski, *Powroty ziemian z wojennej tułaczki na Litwę w latach 1918-1919 (w świetle dziennika Eugeniusza Romera)*, Irina Biełowa, *Reewakuacja uchodźców z I wojny światowej do Polskiej i Litewskiej Republiki (na podstawie materiałów guberni kałuskiej)*, Piotr Cichoracki, *Powracający i przybysze. Wpływ doświadczeń zewnętrznych na życie polskiej wsi po I wojnie światowej*, Irina Matiasz, *Z Podlasia do Kijowa. Wkład Iwana Kraskowskiego w organizację służby dyplomatycznej i konsularnej Ukrainy*, Waldemar Rezmer, *Geneza internowania 3. Korpusu Kawalerii Armii Czerwonej w Prusach Wschodnich w sierpniu 1920 r.*, Tomasz Błaszczak, *Między Wilnem a Kownem. Migracje w obliczu konfliktu polsko-litewskiego po 1920 roku.*

W wystąpieniach poszczególnych referentów oraz dyskusjach zawiązujących się po ich wygłoszeniu została nakreślona cała złożoność i wieloaspektowość problematyki migracyjnej. Szczególną uwagę badacze zwrócili, na kwestie narodowe, jaskrawo widoczne w trakcie przemieszczeń wielkich mas ludności. Pozwalały one na dostrzeżenie różnic kulturowych i obyczajowych nie tylko emigrantów, ale szerszych mas społecznych. Te i wiele innych aspektów zostaną szerzej nakreślone na łamach wydawnictwa pokonferencyjnego, którego ukazanie się planowane jest na koniec bieżącego roku.

**Eryk Kotkowicz**

## Ojciec Grzegorz Sosna
## (30 kwietnia 1939 - 6 stycznia 2016)



*Фота Аляксандра Васылюка - orthphoto.net*

Trudno jest pisać o człowieku, duchownym, historyku, którego traktowało się jak swojego ojca duchowego. 6 stycznia 2016 r. w godzinach rannych odszedł od nas o. dr Grzegorz Sosna, pełen energii i sił twórczych. Pożegnaliśmy Go trzy dni później w cerkwi świętych Kosmy i Damiana w Rybołach z wielkim żalem, odszedł bowiem od nas duchowny, który nie bał się być Białorusinem, obrońcą swej wiary, człowiekiem oddanym Cerkwi i ludziom. Jego życie i nieoczekiwana śmierć była wpisana w losy naszej społeczności. Okres, w którym o. Grzegorz spędził swoje życie to lata wielkich przemian, w których sam uczestniczył. O. Sosna nie tylko był obserwatorem ważnych wydarzeń w życiu naszej Cerkwi i społeczności białoruskiej, ale i ich dociekliwym badaczem. Duchowny pragnął zrozumieć zachodzące procesy, poznać przeszłość Cerkwi prawosławnej na Białostocczyźnie i losy jej wyznawców. Pragnął utrwalić przeszłość parafii, poszczególnych duchownych i wiernych. Zawsze o. Grzegorz powiadał, że pełnia naszej Cerkwi składa się z hierarchii, duchowieństwa i wiernych. Bez wiernych nie byłoby pełni życia cerkiewnego. Jak mało kto rozumiał, że los wiernych jest wpisany w dzieje każdej parafii. Znakomity duchowny wiedział, że budynek cerkiewny i proboszcz to nie parafia. Wychodząc z takiego założenia, o. Grzegorz koncentrował się w swej analizie przeszłości na wspólnocie parafialnej, małej Cerkwi, małej Ojczyźnie, w której odbywały się wydarzenia radosne i tragiczne. O. Grzegorz próbował je zrozumieć, opisać, przekazać następnym pokoleniom.

O. Grzegorz urodził się w Szerniach koło Orli. W Szerniach i Orli spędził dzieciństwo i tam zdobył pierwszą edukację. Główny wpływ na jego wychowanie mieli rodzice Atanazy Sosna i Maria z domu Kukułka. Po ukończeniu Liceum Ogólnokształcącego z Białoruskim Językiem Nauczania w 1957 roku rozpoczął naukę w Prawosławnym Seminarium Duchownym w Warszawie. Następnie studiował teologię w Chrześcijańskiej Akademii Teologicznej w Warszawie, gdzie w 1966 r. obronił pracę magister-

ską. W 2000 r. uzyskał stopień doktora nauk teologicznych za rozprawę *Dzieje diecezji warszawsko-bielskiej.* Jestem dumny, że formalnie mogłem być promotorem Jego rozprawy doktorskiej, chociaż naprawdę to ja byłem Jego uczniem. Pracę duszpasterską o. Grzegorz prowadził w Kalnikowie w powiecie małopolskim, Kodniu (1960-1964), Siemiatyczach (1965-1987) i Rybołach (1987-2016). W latach 1977-1982 dodatkowo administrował cerkwią filialną parafii siemiatyckiej w Ciechanowcu[1]. Parafii rybołowskiej duchowny poświęcił około trzydziestu ostatnich lat swojego życia.

O. Grzegorz Sosna pracę duszpasterską łączył z działalnością naukową[2]. Nie sposób obecnie ocenić jego całego dorobku naukowego. Duchowny-historyk był tytanem pracy, pracował od wczesnych godzin rannych: najpierw przy papierowych fiszkach, maszynie do pisania, a później przy komputerze. Wykonał tak wiele, że wypracowany dorobek wystarczyłby do pozytywnej oceny całego instytutu naukowego z wieloma pracownikami. Niekiedy byłem pytany: kto pomaga księdzu Sośnie w pisaniu kolejnych ksiąg i bibliografii? Trudno było zrozumieć pytającemu, że niemal całość swych dokonań wykonał samodzielnie. Jedyną osobą, która zawsze była przy Nim to matuszka Antonina Troc. To On wciągnął swą wierną towarzyszkę życia do pracy twórczej i uczynił z Niej swojego partnera naukowego. Wkrótce matuszka Antonina stała się dla Niego pierwszym recenzentem prac, korektorem, a w końcu i współautorem. Stanowili doskonałą parę badaczy dziejów Podlasia, Cerkwi prawosławnej, kultury białoruskiej. Efektem ich pracy stały się dziesiątki książek, setki artykułów i not naukowych. Ich trud pozostał i będzie służył następnym pokoleniom, tak jak tego pragnął o. Grzegorz.

O. Grzegorz pozostawił po sobie kilkadziesiąt monografii historycznych poszczególnych parafii. Badał w nich zagadnienia demograficzne i genealogiczne. Doceniał księgi cerkiewne i metrykalne, które dla Niego były cennym źródłem historycznym. Nie ulega wątpliwości, że największe sukcesy przyniosły o. Grzegorzowi prace bibliograficzne. Cała seria „Bibliografii parafii prawosławnych na Białostocczyźnie" z licznymi suplementami sta-

[1] Obszerniejsze opracowanie o o. Grzegorzu Sośnie, por.: A. Mironowicz, *Ksiądz Grzegorz Sosna*, „Białoruskie Zeszyty Historyczne", 1994, nr 1, s. 169-172; G. Pelica, *Ks. mitrat dr Grzegorz Sosna. Umarł, bo narodził się do życia wiecznego*, „Wiadomości Polskiego Autokefalicznego Kościoła Prawosławnego", 2016, nr 2 (315), s. 8-10.

[2] O działalności naukowej o. G. Sosny i wartości jego publikacji do badań historycznych, por.: A. Mironowicz, *Wprowadzenie*, [w:] Ks. G. Sosna, *Wstępna bibliografia chrześcijaństwa wschodniego*, Ryboły 1994, s. III-VIII; tenże, *Wprowadzenie*, [w:] Ks. G. Sosna, *Bibliografia chrześcijaństwa wschodniego. Druki polskojęzyczne okresu współczesnego*, cz. III, Ryboły 1998, s. VII-XV; tenże, *Bibliografia podsumowania*, [w:] Ks. G. Sosna, *Bibliografia parafii prawosławnych na Białostocczyźnie. Część alfabetyczna. Suplement IV*, Ryboły 2001, s. 11-14.

nowi dziś podstawową wskazówkę bibliograficzną do dziejów Cerkwi. Każda z nich obejmowała po kilkanaście tysięcy pozycji, które były efektem wieloletnich poszukiwań i dociekań autora. Każdy z tomów bibliograficznych i opracowań monograficznych parafii spotykał się z wielkim uznaniem środowiska naukowego, o czym świadczą liczne pozytywne recenzje i noty informacyjne. Oceniający podkreślali pionierskość badań o. Grzegorza, ogrom wysiłku naukowego i doniosłość osiągnięć naukowych. Jakże ważna była opinia jednego z oceniających, że „żaden z mniejszościowych Kościołów i związków religijnych nie doczekał się tak udokumentowanej bibliograficznie historii i bieżącej działalności". Cerkiew prawosławna też by tego nie miała, gdyby nie praca o. Grzegorza Sosny.

Podobne znaczenie i wartość naukową miała seria wydawnicza „Wstępna bibliografia chrześcijaństwa wschodniego" z licznym suplementami i uzupełnianiami. Ta seria miała charakter przewodnika, który ułatwiał badaczom dostęp do potrzebnej im literatury. Wszyscy podkreślali, że korzystanie z prac o. Grzegorza znacznie przyspieszało badania i określało stan wiedzy o Cerkwi wschodniej. Nic też dziwnego, że książki o. Sosny cieszyły się wielką popularnością wśród pracowników naukowych, studentów, badaczy regionu, genealogów, teologów i historyków.

Szczególne znaczenie w dorobku naukowym o. Grzegorza mają dwa opracowania: *Wykaz hierarchii i kleru parafialnego oraz opiekunów cerkiewnych Kościoła prawosławnego na Białostocczyźnie w latach 1839-1986* (Białystok 1986) i *Hierarchia i kler Kościoła prawosławnego w granicach II Rzeczypospolitej i Polski powojennej w XIX i XX wieku* (Ryboły 2012). Ta ostatnia pozycja, licząca ponad 1000 stron, jest zwieńczeniem intelektualnego trudu i dorobku całego życia o. Grzegorza Sosny. Starannie dobrane dane dotyczące duchowieństwa i służby cerkiewnej nie mają sobie równych wśród innych opracowań tego typu. Wykonany katalog stanowi usystematyzowaną informację o hierarchii i duchowieństwie prawosławnym. Podano w nim dla każdego z zamieszczonych duchownych jego wykształcenie, formacje pastoralne, pełnione funkcje i otrzymane nagrody. Opracowany wykaz duchowieństwa stał się niezbędnym w badaniach nad losami Cerkwi w Rzeczypospolitej, dziejami poszczególnych parafii, duchowieństwa i wiernych.

Równie użyteczne są inne opracowania o. Grzegorza Sosny. Wydany w Białymstoku w 2004 r. zbiór materiałów *Cerkiewna własność ziemska na Białostocczyźnie w XV-XX wieku*, opracowany został wraz z matuszką Antoniną Troc. Praca stanowiła pierwsze uporządkowane opracowanie dokumentów dotyczących własności ziemskiej Cerkwi prawosławnej od XV do końca XX wieku na Białostocczyźnie. Zebranie, opracowanie i edycja źródeł do każdej byłej i obecnej jednostki parafialnej wymagało ogromnego nakładu pracy. Nie ulega wątpliwości, że ów zbiór materiałów dotyczą-

cy własności cerkiewnej jest dziś jedynym kompendium informacji, chętnie wykorzystywanym nie tylko w badaniach historycznych, ale i w aktualnych sporach majątkowych.

Kolejnym nurtem publikacji o. Grzegorza była edycja źródeł: publikacja wizytacji parafii na Podlasiu czy dokumentów dotyczących statusu prawno-majątkowego Cerkwi. Na szczególną uwagę zasługuje wybór dokumentów *Sprawy narodowościowe i wyznaniowe na Białostocczyźnie (1944-1948) w ocenie władz RP.* W wykazie znalazły się tak drażliwe z politycznego i narodowościowego punktu widzenia sprawy jak sprawa zabójstwa furmanów w 1946 r. czy działania oddziałów „Łupaszki" na Podlasiu. Zasadniczo cały obszar zainteresowania o. Grzegorza Sosny można podzielić na cztery segmenty: badanie i popularyzowanie historii poszczególnych parafii prawosławnych; analiza demograficzno-statystyczna wiernych na podstawie ksiąg metrykalno-parafialnych; opracowanie bibliografii do dziejów parafii i całej Cerkwi prawosławnej w Polsce oraz animacja działań badawczych, publicystycznych i kulturowych. W tym ostatnim segmencie należy przynajmniej wspomnieć o powołanym z jego inicjatywy w 2009 roku Muzeum Białoruskiej Kultury Materialnej, kierowanym przez matuszkę Antoninę czy remoncie zabytkowych kaplic i cerkwi w Wojszkach, Pawłach i Rybołach.

Dla nas, Białorusinów, o. Grzegorza zawsze będzie brakować w programach radiowych i telewizyjnych. Jego gościnność i otwartość pozwalała czuć się na plebanii rybołowskiej jak u siebie w domu. O. Grzegorz był też pierwszym nauczycielem dla wielu młodych badaczy historii. Zawsze był gotowy służyć życzliwą radą i pomocą. Nie zamykał drzwi swego domu przed największymi polemistami. Swoją dobrocią i wiedzą potrafił przyciągnąć nawet tych, którym obojętne były losy swojej Cerkwi i wiernych. Prostymi słowami trafiał do nich, próbując wytłumaczyć, kim są i co powinni robić w życiu. Jak mało który ze współczesnych duchownych nie ograniczał się do pracy duszpasterskiej. Próbował bezinteresownie rozwiązywać problemy społeczności lokalnej. Tak było z budową chodnika we wsi Ryboły. O. Grzegorz nie mógł obojętnie patrzeć na śmierć mieszkańców wsi pod kołami rozpędzonych samochodów.

Drogi o. Grzegorzu, dziękujemy Ci za to wszystko, co uczyniłeś Cerkwi, swojemu narodowi białoruskiemu i każdemu z nas. Nie ma Cię fizycznie wśród nas, ale pozostały efekty Twej pracy: ogromny dorobek naukowy, porady i wskazówki, stała obecność Twojego serca i modlitwa.

**Antoni Mironowicz**

# Profesor Stanisław Alexandrowicz (1931-2015). Historyk kartografii Wielkiego Księstwa Litewskiego, badacz dziejów Podlasia, nauczyciel akademicki



www.wyborcza.pl

W 2015 r. środowisko historyczne w Polsce poniosło ogromną stratę. Przeżywszy 84 lata, 9 kwietnia zmarł Profesor Stanisław Alexandrowicz, wybitny lituanista, badacz dziejów Wielkiego Księstwa Litewskiego i Podlasia od średniowiecza po czasy najnowsze, nieoceniony dydaktyk i współorganizator białostockiego środowiska naukowego.

**Kariera naukowa**

Stanisław Alexandrowicz urodził się 5 kwietnia 1931 r. w Wilnie, ale od 1938 r. państwo Alexandrowiczowie mieszkali wraz z synem i dwiema córkami w Łucku. Ojciec Bohdan pracował w Urzędzie Wojewódzkim Wołyńskim w Łucku jako kierownik oddziału polityczno-narodowościowego, a matka, Maria z Kukowiczów była nauczycielką. Po wybuchu II wojny światowej i wkroczeniu wojsk sowieckich ojciec Profesora, jako urzędnik polskich struktur administracyjnych, został aresztowany, a następnie pod koniec 1939 r. stracony. Marię Alexandrowicz i jej dzieci wywieziono do Kazachstanu, gdzie zmarły obie siostry Profesora. On sam wraz z matką powrócił do Polski w 1946 r. Zamieszkali w Toruniu. Tam Profesor podjął studia historyczne I stopnia (specjalność archiwalna). Studia II stopnia ukończył w Poznaniu, gdzie organizowało się środowisko badaczy Polski średniowiecznej i Wielkiego Księstwa Litewskiego. Był uczestnikiem seminariów prof. Gerarda Labudy i prof. Henryka Łowmiańskiego. Pod kierunkiem tego ostatniego przygotował i w 1955 r. obronił pracę magisterską. Zanim rozpoczął karierę uniwersytecką, pracował jako archiwista, następnie został zatrudniony na Uniwersytecie im. Adama Mickiewicza, gdzie, również pod kierunkiem prof. Henryka Łowmiańskiego, powstała jego praca doktorska *Funkcje gospodarcze miasteczek Białorusi i Litwy (XVI — pierwsza połowa XVII w.)*, obroniona w 1960 r. W latach 1961-1972 zatrudniony był na stanowisku adiunkta w katedrze Historii Narodów ZSRR, którą kierował prof. Henryk Łowmiański, a następnie (od 1968 r.) prof. Jerzy Ochmański. W maju 1972 r. Stanisław Alexandrowicz uzyskał stopień doktora habilitowanego (na pods-

tawie pracy *Rozwój kartografii Wielkiego Księstwa Litewskiego od XV do połowy XVIII wieku*) i do 1977 r. pracował jako docent na Uniwersytecie im. Adama Mickiewicza w Poznaniu. W tym bowiem roku otrzymał propozycję podjęcia pracy w Zakładzie Historii Filii Uniwersytetu Warszawskiego w Białymstoku. Pracował tam nieprzerwanie, także po przemianowaniu Zakładu Historii na Instytut Historii, na całym etacie do 1987 r., a do 1989 r. jeszcze na pół etatu. Przez cały czas, do 1987 r., kierował Zakładem Historii Starożytnej i Średniowiecznej. W 1987 r. Profesor podjął pracę na głównym etacie na Uniwersytecie im. Mikołaja Kopernika w Toruniu jako kierownik Zakładu Historii Narodów ZSRR (później Zakładu Historii Europy Wschodniej). W 1989 r. otrzymał tytuł profesora nadzwyczajnego, a w 1994 r. profesora zwyczajnego nauk humanistycznych. W tym czasie współpracował też z Polskim Uniwersytetem Ludowym w Mińsku. W 1995 r., po kilkuletniej przerwie, Profesor ponownie nawiązał współpracę z Instytutem Historii FUW w Białymstoku, a w 1997 r. przyjął tu, już na samodzielnym Uniwersytecie w Białymstoku, drugi etat oraz prowadził zajęcia dydaktyczne i badania naukowe, podobnie jak na UMK w Toruniu, do czasu przejścia na emeryturę w 2001 r. Później pracował jeszcze przez kilka lat w Instytucie Stosunków Międzynarodowych na Wydziale Nauk Historycznych UMK, wykładał też w Wyższej Szkole Kultury Społecznej i Medialnej w Toruniu.

**Problematyka i znaczenie badań**

Studia magisterskie, a następnie praca naukowa w ośrodku poznańskim, gdzie uformowało się środowisko wybitnych lituanistów, mediewistów i znawców dziejów miast z Henrykiem Łowmiańskim, Gerardem Labudą, Kazimierzem Tymienieckim, a później także z Jerzym Ochmańskim, niemożność w ówczesnej rzeczywistości politycznej rzetelnego badania historii najnowszej, którą także bardzo się interesował, zapewne także pamięć o miejscu urodzenia i wydarzeniach późnego dzieciństwa spowodowały, że początkowo zainteresowania badawcze Profesor skoncentrował na dziejach Wielkiego Księstwa Litewskiego w średniowieczu i epoce wczesnonowożytnej ze szczególnym uwzględnieniem historii miast i gospodarczej. Przypomnijmy, że pracę doktorską poświęcił funkcjom gospodarczym miast i miasteczek Wielkiego Księstwa Litewskiego i, zdaniem dzisiejszych historyków gospodarczych, stosował nowatorskie, elastyczne podejście do szacunków ludności, przyjmując różne przeliczniki (liczba osób na dym od 6 do 8). Problematykę rozwoju sieci miejskiej i funkcji gospodarczych ośrodków miejskich na obszarach dzisiejszej Litwy, Białorusi i Podlasia kontynuował Profesor w latach 60. XX w., publikując m.in. artykuły *Miasteczka Białorusi i Litwy jako ośrodki handlu w XVI i w I połowie XVII wieku*[1], *Kierunki pro-*

[1] S. Alexandrowicz, *Miasteczka Białorusi i Litwy jako ośrodki handlu w XVI i w I połowie XVII wieku*, „Rocznik Białostocki", 1961, nr 1.

*dukcji rzemieślniczej i przemysłowej w miasteczkach Białorusi i Litwy (XVI do I połowy XVII wieku)*[2], *Powstanie i rozwój miast województwa podlaskiego (XV w. — I poł. XVII w.)*[3], nie zapomniał o niej także w latach późniejszych (*Powstanie sieci miejskiej Podlasia na tle wczesnych procesów urbanizacyjnych w Wielkim Księstwie Litewskim*[4]).

W trakcie badań nad miastami Profesor zainteresował się dziejami kartografii, szczególnie kartografii miejskiej (plany miast, mapy gospodarczo-majątkowe) i wojskowej (ilustracje bitew, plany wojskowe lub materiały do przygotowywanych działań militarnych). Stał się godnym kontynuatorem prac prof. Karola Buczka, a z czasem też jego współpracownikiem[5]. Wspomniana rozprawa habilitacyjna *Rozwój kartografii Wielkiego Księstwa Litewskiego od XV do połowy XVIII wieku*, szczególne miejsce poświęcająca m.in. tzw. mapie radziwiłłowskiej Księstwa z 1613 r., okazała się cenną, prekursorską pozycją w tej dziedzinie, odnoszącą się do ziem wschodnich dawnej Rzeczypospolitej. Była ceniona nie tylko w kraju (trzy wydania[6]), ale i za granicą. Owocem zainteresowań Profesora w zakresie dziejów kartografii i w związku z tym pokłosiem licznych kwerend w archiwach polskich i zagranicznych były odkrycia źródłowe, w tym szczególnie cennego planu Moskwy sprzed pożaru w 1611 r. autorstwa Szymona Jędraszewicza Śmietańskiego, mieszczanina z Nieświeża. Stanisław Alexandrowicz pisał także na temat kartograficznych źródeł oblężenia zamku w miejscowości Uła w 1563 r., czy Połocka w 1579 r. oraz dokonań w dziedzinie kartografii Józefa Naronowicza-Naróńskiego, Karola de Perthéesa, Tomasza Makowskiego, Jana Nieprzeckiego, Bernarda Wapowskiego, Joachima Lelewela, Stanisława Pachowieckiego, Stanisława Porębskiego i innych. Był też współautorem *Katalogu dawnych map Rzeczypospolitej w kolekcji Emeryka Hutten-Czapskiego*[7]. Osiągnię-

[2] Tenże, *Kierunki produkcji rzemieślniczej i przemysłowej w miasteczkach Białorusi i Litwy (XVI do I połowy XVII wieku)*, „Zeszyty Naukowe UAM", Historia, Poznań 1964, z. 6.

[3] Tenże, *Powstanie i rozwój miast województwa podlaskiego (XV w. — I poł. XVII w.)*, „Acta Baltico-Slavica", 1964, nr 1.

[4] Tenże, *Powstanie sieci miejskiej Podlasia na tle wczesnych procesów urbanizacyjnych w Wielkim Księstwie Litewskim*, „Kwartalnik Historii Kultury Materialnej", 1980, nr 28.

[5] S. Alexandrowicz, K. Buczek, *Polska kartografia wojskowa do połowy XVII w.*, [w:] *Dzieje polskiej kartografii i wojskowej myśli strategicznej. Materiały z konferencji*, Warszawa 1982.

[6] S. Alexandrowicz, *Rozwój kartografii Wielkiego Księstwa Litewskiego od XV do połowy XVIII wieku*, Poznań 1971 i drugie wydanie tej pracy w 1989 r.; tenże, *Kartografia Wielkiego Księstwa Litewskiego od XV do połowy XVIII wieku (Cartographia Magni Ducatus Lithuaniae XVI-XVIII saeculorum)*, Warszawa 2012.

[7] *Katalog dawnych map Rzeczypospolitej Polskiej w kolekcji Emeryka Hutten Czapskiego i innych zbiorach*, t. 2: *Mapy XVII wieku*, Wrocław 1992.

cia Profesora w dziedzinie historii kartografii zostały docenione: od 1975 r. był członkiem Zespołu Historii Kartografii przy Instytucie Historii PAN, natomiast w latach 1995-2005 przewodniczył jego pracom. Uczestniczył też w wielu konferencjach w kraju i za granicą, np. w międzynarodowych kongresach i konferencjach w Pizie, Florencji i Rzymie w 1981 r., w Paryżu w 1987 r., w Sztokholmie i Uppsali w 1991 r.

Profesor Stanisław Alexandrowicz publikował swoje teksty także w periodykach i monografiach zagranicznych na Białorusi, w Rosji, Niemczech, Włoszech.

W okresie po transformacji ustrojowej w Polsce, a także po rozpadzie ZSRR pojawiła się możliwość zrealizowania zainteresowania historią polskich zesłańców wywiezionych w głąb ZSRR przez władze sowieckie. Profesor odwiedził więc miejsce swego zesłania, czyli obwód pawłodarski w Kazachstanie. Pieczołowicie studiował tam archiwalia dotyczące statystyk osób wywiezionych i tych, które przeżyły koszmar pobytu na obcej ziemi w latach 1940-1941, weryfikując w istotny sposób dane dotyczące śmiertelności zesłańców. Uważał, że w ten sposób powinno się oddać sprawiedliwość ofiarom tych wywózek.

Stosunki polsko-rosyjskie interesowały Profesora nie tylko w kontekście zesłań, ale też wydarzeń wcześniejszych, czego wyrazem było wydanie źródeł odnoszących się do sytuacji Polaków — jeńców wojennych z okresu tuż po pierwszej wojnie światowej[8].

W dorobku naukowym Stanisława Alexandrowicza znajdziemy też pozycje dotyczące dziejów lotnictwa polskiego[9], a były one pochodną hobby Profesora. Ukończył on kurs szybowcowy i został aktywnym członkiem aeroklubu poznańskiego jako pilot szybowcowy I klasy. Zasługi Profesora na polu dydaktycznym, naukowym i organizacyjnym dostrzegły władze kraju i uczelni, na których pracował. Został odznaczony Krzyżem Kawalerskim i Krzyżem Oficerskim Orderu Odrodzenia Polski, Medalem Komisji Edukacji Narodowej, Złotym Krzyżem Zasługi, Medalem Brązowym za Zasługi dla Obronności Kraju.

**Związki z Białymstokiem**

Pierwsze zetknięcie Profesora Stanisława Alexandrowicza z miastem

[8] *Zwycięzcy za drutami. Jeńcy polscy w niewoli (1919-1922. Dokumenty i materiały)*, red. S. Alexandrowicz, Z. Karpus, W. Rezmer, Toruń 1995.

[9] *Polacy w rozwoju awiacji rosyjskiej (do 1914 r.)*, [w:] *Polsko-rosyjskie związki społeczno-kulturalne na przełomie XIX i XX wieku*, red. M. Leczyk, Warszawa 1980; *Pierwszy lotnik arktyczny — Jan Nagórski (1888-1976)*, „Kwartalnik Historii Nauki i Techniki", 1978, R. 23, nr 2; *Powstanie Aeroklubu Polskiego w Poznaniu (1919-1923)*, [w:] *60 lat sportu lotniczego w Poznaniu*, red. J. Łukaszewicz, Poznań 1980.

nad Białą miało miejsce w 1961 r., kiedy uczestniczył w I Konferencji Nauk Historycznych. Dotyczyła ona badań nad dziejami Polski północno-wschodniej, a jej pokłosiem był tom pierwszy czasopisma „Acta Baltico-Slavica". Od tego czasu utrzymywał też kontakt naukowy z prof. Jerzym Wiśniewskim, zasłużonym badaczem m.in. dziejów Podlasia. Od 1963 r. Stanisław Alexandrowicz był także członkiem Białostockiego Towarzystwa Naukowego. Zawodowo, jak wspomnieliśmy, losy swe związał z Białymstokiem od 1977 r., kiedy to prof. Elżbieta Kaczyńska, kierowniczka Zakładu Historii Filii Uniwersytetu w Białymstoku zaproponowała mu zatrudnienie i powierzyła kierowanie Zakładem Historii Starożytnej i Średniowiecznej. Od października 1978 r. przez jedną kadencję, a później także po zawirowaniach stanu wojennego Profesor pełnił funkcję prodziekana Wydziału Humanistycznego (1978-1981 oraz 1982-1983). W 1985 r. stanął na czele Pracowni Badań nad Historią i Kulturą Regionu, której był inspiratorem. W 1979 r. zamieszkał w Białymstoku na stałe, będąc wówczas jedynym doktorem habilitowanym, pracującym w Zakładzie i mieszkającym w tym mieście. Wraz z innymi samodzielnymi pracownikami naukowymi, dojeżdżającymi głównie z Warszawy, kontynuował proces kształcenia i wychowywania miejscowej kadry uniwersyteckiej. Oprócz zajęć m.in. z nauk pomocniczych historii, czy geografii historycznej prowadził seminarium magisterskie, a także doktorskie, w którego rezultacie wychował sobie w ośrodku białostockim kilkudziesięciu magistrów i sześciu doktorów. Był nieocenionym źródłem informacji naukowych, wspomagał warsztat badawczy swych białostockich uczniów przez zaszczepienie umiejętności stosowania właściwych metod, a także postaw promujących uczciwość i rzetelność zawodową. Warsztat ten budował nie tylko dydaktycznie, ale także dosłownie: uczestnicy jego seminariów pamiętają bardzo dobrze sylwetkę Profesora obarczonego zwykle kilkoma torbami bagażu, który składał się głównie z książek niedostępnych wówczas w Białymstoku, a częstokroć także w Polsce. Dzięki licznym kontaktom ze środowiskiem naukowym Litwy i Białorusi Stanisław Alexandrowicz nie tylko popularyzował własne dokonania badawcze, ale także ułatwiał kontakty naukowe swym uczniom. Bardzo troszczył się o rozwój Biblioteki Wydziałowej, co było możliwe dzięki współdziałaniu z panią mgr Stanisławą Sztukowską i otwartości rektoratu finansującego zakupy w antykwariatach lub na aukcjach antykwarycznych[10]. Dzięki tym działaniom białostoccy studenci historii, nie tylko uczestnicy seminariów Profesora, mogli prowadzić badania na miejscu, często unikając kosztownych, zwłaszcza dla studenckiej kieszeni, podróży do stołecznych bibliotek.

[10] M. Litkowska, M. Waluk, J. Troc, M. Sirko, U. Jaremiszyn, *Lokacja na surowym korzeniu*, [w:] *Podlaskie losy IV*, red. W. Choruży, P. Liedke, przy współudz. J. R. Dudzińskiego, Białystok 2004, s. 80.

